• выдаецца са жніўня1917 г. БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА • цана 700 рублёў

13 студзеня 1996 г. субота, №№ 11 — 12 (22814— 22815)




# ЗВЯЗДА

*ГРОШЫ*

## КУРС ДОЛАРА «ДАЛЯЦЕЎ» ДА 14.500 РУБЛЁЎ

Сапраўднай нечаканасцю для многіх у рэспубліцы сталі падзеі гэтага тыдня на рынку наяўнай валюты. Пасля шматмесячнага вялага павышэння або змяншэння курса цвёрдай СКВ адбылося нешта незразумелае. Быццам сарваўшыся з ланцуга, валюта імкліва пачала набіраць вагу, у той час як беларускі рубель у адносінах да яе абрынуўся ўніз. «Чорны аўторак» «наяўнасці», аб якім нават эксперты апошнім часам выказваліся даволі асцярожна, не выключаючы, праўда, магчымасці гэтай непрыемнай для большасці жыхароў краіны падзеі, усё ж такі наступіў. «Драмаўшы» амаль што да сярэдзіны студзеня долар імкліва набірае ачкі. Калі ў пачатку тыдня курс USD трымаўся на адзнацы ў 11.700 беларускіх рублёў за адзін долар, то ўчора за яго некаторыя банкі патрабавалі ўжо 14.500 «зайцоў». Што датычыцца маржы, то калі раней яна складала ўсяго толькі 100—200 рублёў, то зараз усе паўтары тысячы. Між іншым, ажыятаж на рынку наяўнай валюты ажывіў і шэрагі вулічных мянял: значная розніца паміж курсам пакупкі і продажу СКВ зноў прадаставіла ім шанц зарабіць неблагія грошы.

Дарэчы, той факт, што банкі павысілі курсы, ніякім чынам не паўплываў на ход спраў на біржы: там валюта па-ранейшаму з месца не зрушылася. На думку некаторых біржавікоў, у бліжэйшым будучым тут змен не прадбачыцца, фіксацыя курса будзе працягвацца, хоць разрыў паміж попытам і прапанаваннем не на карысць апошняга, і велічыня яго значная.

У аддзеле валютных курсаў Нацыянальнага банка адмовіліся каменціраваць сённяшнюю сітуацыю з катастрафічным ростам цвёрдай валюты, спаслаўшыся на тое, што не разумеюць, не ведаюць, што адбываецца, не бачаць прычын, якія б дыктавалі гэта.

У адрозненне ад такой думкі, шэраг іншых экспертаў Нацыянальнага банка ў размове з карэспандэнтам нашай газеты адзначылі, што асноўная прычына скачка — інфляцыйныя чаканні. З новага года павышана «мінімалка», і, як вынік, пакупная здольнасць беларускага рубля знізіцца: у чаканні падаражанняў застыла насельніцтва Беларусі. У дадатак да гэтага біржа сёння не задавальняе шмат заявак на пакупку валюты, пасля чаго фінансавым установам прыходзіцца звяртацца на нябанкаўскі рынак, дзе стаўкі ў сувязі з гэтым падымаюцца.

Спрагназіраваць далейшае развіццё падзей не бярэцца амаль ніхто. Нярыначная эканоміка не паддаецца прагнозу. Тым не менш, на цяперашні час мы маем той наяўны курс, якога, абапіраючыся на запэўніванні, і не чакалі.

**Ігар ШЧУЧЭНКА.**



**Ці не забыліся Вы, шаноўныя чытачы, якая сёння цудоўная ноч прыйдзе? А будзе сёння Шчадрэц, ці Шчодры вечар, ці Конікі — дзе як называюць гэтую асаблівую калядную ноч. Рыхтуйце маскі, касцюмы, збірайце сяброў і не забудзьце паклікаць гарманіста. Ды гайда калядаваць і весяліцца, як гэта адвеку робіцца ў Давыд-Гарадку. А заадно адзначайце і стары новы год.**

**НА ЗДЫМКУ:** ***давыд-гарадоцкія калядоўшчыкі Пятро ШАПЕЦЬКА і Рыгор ВАЙЦЯХОЎСКІ падрыхтаваліся да Каляд грунтоўна.***

**Анатоль КЛЯШЧУК. Фота аўтара.**

*РЭХА ПАДЗЕЙ*

## ГЛЯДЗІЦЕ, ХТО ПРЫЙШОЎ

**На мінулым тыдні трохвугольнік дзяржаўнай улады ў краіне набыў, нарэшце, завершаны выгляд. Парламенцкі крызіс, ва ўмовах якога больш як паўгода існавала Беларусь, паспяхова перададолены з пачаткам работы новага Вярхоўнага Савета і выбраннем на пасаду Старшыні ВС Сямёна Шарэцкага.**

Перамога лідэра Аграрнай партыі для многіх стала нечаканасцю. Зразумела, шанцы на поспех кіраўніка найбольш прадстаўнічай парламенцкай фракцыі ніхто з рахункаў не скідваў — прозвішча Сямёна Шарэцкага нязменна прысутнічала ў спісе самых верагодных прэтэндэнтаў. Але ў гэтым жа спісе значыліся і імёны палітыкаў, намнога больш спрактыкаваных у парламенцкіх гульнях, закулісных інтрыгах і хітрых шматхадовых палітычных камбінацыях.

І патэнцыяльныя прэтэндэнты на пасаду спікера, і многія назіральнікі былі пераканаааны, што першая спроба выбараў Старшыні ВС не прынясе плёну — перамогі не даб'ецца ніводзін з кандыдатаў. І вось тады ў паядынак уступіць другі эшалон кандыдатаў — тых, хто праявіў цярплівасць, дальнабачнасць і вытрымку, хто да пары хаваўся ў цяні, мудра прадбачыўшы ход падзей...

Цярплівыя аматары шматхадовак пралічыліся, стаўшы ахвярамі ўласных састарэлых уяўленняў пра магчымасці новага беларускага парламента. Загадзя пабудаваная схема са шматэтапнымі выбарамі, верагодна, спрацавала б у старым Вярхоўным Савеце, дзе аморфныя дэпутацкія аб'яднанні рэдка маглі дамовіцца адно з адным па прынцыповых пытаннях і дзе кардынальныя рашэнні нярэдка прымаліся на хвалі эмоцый, ці як вынік псіхалагічнага ціску і стомленасці. Многія вопытныя палітыкі выдатна вывучылі гэту асаблівасць старога ВС і пры выпадку ўдала ёю карысталіся.

**(Заканчэнне на 2-й стар.).**

*ПАРЛАМЕНЦКІ ДЗЁННІК*

## СТРАСЦІ ПА БАГДАНКЕВІЧУ

12 студзеня журналістаў, акрэдытаваных у Вярхоўным Савеце, напаткала непрыемная нечаканасць: у сувязі з закрытым пасяджэннем парламента іх не прапусцілі ў залу. Самі ж дэпутаты толькі праз 20 —30 хвілін ад пачатку пасяджэння зразумелі, што яно закрытае. Дэпутат Анатоль Лябедзька ў перапынку выказаў журналістам сваё абурэнне тым фактам, што ў парушэнне рэгламенту прынята рашэнне без згоды самога парламента, паколькі галасаванне па гэтым пытанні не праводзілася. Такім чынам, Прэзідэнт А. Лукашэнка выступіў на закрытым пасяджэнні парламента. Хаця рэальна ўтрымаць у тайне тое, што гаворыцца дзвюмстам асобам, немагчыма, і журналісты хутка высветлілі, аб чым гаварыў кіраўнік выканаўчай галіны ўлады прадстаўнікам заканадаўчай. Прычым яшчэ да пачатку пасяджэння прайшла чутка, што галоўнай фігурай у дакладзе А. Лукашэнкі будзе С. Багданкевіч. Справа ў тым, што напярэдадні ўвечары на міжфракцыйных кансультацыях, якія закончыліся а 22 гадзіне, было прынята рашэнне аб вылучэнні на пасады намеснікаў спікера прадстаўнікоў трох фракцый: ад камуністаў — Васіля Новікава, ад «Згоды» — Юрыя Малумава, ад «Грамадзянскага дзеяння» — Станіслава Багданкевіча.

Станіслаў Багданкевіч вечарам 9 студзеня, выступаючы з перадвыбарнай прамовай пасля вылучэння на пасаду спікера, зрабіў свой даклад па сутнасці антыпрэзідэнцкім. І вось А. Лукашэнка адказаў на гэта абвінавачваннем С. Багданкевіча ў розных грахах, якія тычыліся яго папярэдняй дзейнасці на пасадзе кіраўніка Нацбанка. Некаторыя дэпутаты пракаменціравалі гэтую частку прамовы А. Лукашэнкі як працяг яго антыкарупцыйных дакладаў. На гэты раз палітычная мэта абвінавачванняў выглядае празрыстай: не дапусціць С. Багданкевіча, фігуру моцную і незалежную, да пасады віцэ-спікера. Калегі С. Багданкевіча па фракцыі выказаліся, што яны будуць адстойваць свайго лідэра, аднак многіх іншых даклад Лукашэнкі сур'ёзна ўразіў. Сам Багданкевіч патлумачыў журналістам, што ён ведае, што «кампрамат» на яго рыхтавалі ўсю папярэднюю ноч.

Тым часам іншы прэтэндэнт на пасаду віцэ-спікера, Ю. Малумаў, пацвердзіў, што яго асоба вылучана ад фракцыі «Згода», адначасова заявіўшы карэспандэнту «Звязды», што ён будзе і чалавекам А. Лукашэнкі ў кіраўніцтве ВС.

Па словах дэпутатаў, А. Лукашэнка заявіў таксама на пасяджэнні ВС аб сваім намеры звярнуцца ў парламент з пытаннем аб вызваленні ад пасады старшыні Канстытуцыйнага суда В. Ціхіні, а па словах Аляксандра Дабравольскага, кіраўнік дзяржавы наогул усумніўся ў неабходнасці існавання Канстытуцыйнага суда, назваўшы яго дэстабілізуючым фактарам у палітыцы. Акрамя таго, А. Лукашэнка, згодна са словамі дэпутатаў, хоча прапанаваць вынесці на ўсенародны рэферэндум папраўкі ў Канстытуцыю.

**(Заканчэнне на 2-й стар.).**

## ІМЁНЫ ТЫДНЯ

На мінулым тыдні часцей за іншыя гучалі імёны прэтэндэнтаў на пасаду Старшыні Вярхоўнага Савета — Станіслава Багданкевіча, Мечаслава Грыба, Сяргея Калякіна, Вячаслава Кебіча, Пятра Краўчанкі і Сямёна Шарэцкага.

Да перамогі лідэра Аграрнай партыі Сямёна Шарэцкага маюць дачыненне ўсе пяцёра яго huпернікаў.

Вячаслаў Кебіч і Пётр Краўчанка — тым, што знялі свае кандыдатуры. Прычыны гэтага кроку многімі трактуюцца цяпер па-рознаму. Існуе версія, што спадары Кебіч і Краўчанка прыслухаліся да тых экспертаў, якія даказвалі, што першая спроба выбараў будзе безвыніковай і лёс спікерскага крэсла вырашыцца ў час паўторных выбараў, калі на авансцэну выйдуць іншыя фігуры. Як бы там ні было, аб'ектыўна поспеху сп. Шарэцкага садзейнічалі абодва гэтыя палітыкі. Вячаслаў Кебіч — тым, што сышоў з дыстанцыі і саступіў дарогу, а Пётр Краўчанка — яшчэ і тым, што абачліва заклікаў сваіх аднадумцаў аддаць галасы за будучага пераможцу.

Кіраўнікі камуністычнай фракцыі Сяргей Калякін і фракцыі «Грамадзянскае дзеянне» Станіслаў Багданкевіч праявілі на гэтым тыдні майстэрства ісці на кампрамісы і знаходзіць узаемапрымальнае рашэнне. Вынікі іх перамоў, якія прывялі да дружнай падтрымкі кампраміснай кандыдатуры і зблыталі карты апанентаў — неардынарная падзея ў гісторыі маладога беларускага парламентарызму, якая і ў будучым абяцае нямала арыгінальных альянсаў і рашэнняў.

Нарэшце, яшчэ адзін кандыдат на пасаду спікера — былы Старшыня Вярхоўнага Савета Мечаслаў Грыб — пры ўсіх сваіх несумненных вартасцях і заслугах, на ўласным вопыце прадэманстраваў, што зорны час беспартыйных адзіночак мінуў. Не маючы за спінай уплывовай палітычнай арганізацыі, прэтэндаваць сёння на перамогу ўжо нельга. Мечаслаў Іванавіч мужна прызнаў гэта і таксама заклікаў аддаць галасы за Сямёна Шарэцкага.



**Калаж Мікалая АМЕЛЬЧАНКІ.**

# СТРАСЦІ ПА БАГДАНКЕВІЧУ

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).**

Пасля кароткага перапынку, на якім дэпутаты абмяняліся думкамі і папярэднімі ўражаннямі ад сказанага, Прэзідэнт прадоўжыў свой даклад. Пасля яго заканчэння парламентарыі змаглі задаць яму некалькі пытанняў. Было таксама прапанавана даць слова Станіславу Багданкевічу, паколькі прыкладна дзве трэці даклада былі прысвечаны дзейнасці Нацыянальнага банка, і ў прыватнасці С. Багданкевіча. Аднак толькі 95 дэпутатаў пажадалі выслухаць другі бок. У выніку былы кіраўнік Нацбанка вымушаны быў сабраць прэс-канферэнцыю для журналістаў, на якой паспрабаваў абвергнуць тыя факты, што датычыліся яго дзейнасці. Ён назваў абвінавачванні няпраўдай.

Самае галоўнае пытанне сёння: ці паўплывае гэты даклад на вырашэнне кадравых пытанняў і ранейшыя дамоўленасці паміж фракцыямі? Адчуваецца, што, напрыклад, думкі дэпутатаў розных фракцый зараз неадназначныя. Сяргей Калякін, каменціруючы раніцай выступленне А. Лукашэнкі, адназначна сказаў, што такога ўплыву не будзе. У другой палове дня С. Калякін ужо паспрабаваў абвергнуць інфармацыю аб ранейшых дамоўленасцях паміж фракцыямі наконт мяркуемых кандыдатур намеснікаў кіраўніка парламента. Як стала вядома, астатак дня 12 студзеня і сёння парламент будзе працаваць у фракцыях, менавіта абмяркоўваючы гэтую тэму, а таксама састаў Прэзідыума Вярхоўнага Савета і кіраўніцтва камісій.

Такім чынам, як бачым, Прэзідэнт А. Лукашэнка вырашыў узяць палітычную ініцыятыву ў свае рукі. Што адкажа Вярхоўны Савет? Убачым у аўторак, калі парламент зноў сабярэцца на пленарныя пасяджэнні.

**Валер КАЛІНОЎСКІ, Юрась ЛЯШКЕВІЧ.**

# ГЛЯДЗІЦЕ, ХТО ПРЫЙШОЎ

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).**

Вярхоўны Савет 13-га склікання, пры ўсёй сваёй ідэйнай блізкасці да папярэдніка, — прынцыпова іншы. У пераважнай большасці жорстка структураваны па фракцыях, звязаных партыйнай дысцыплінай, ён, як аказалася, у многім паддаецца кіраванню з боку кіраўнікоў фракцый, і ў гэтым сэнсе — прагназіруемы і не схільны падманваць сябе інтрыгамі і маніпуляцыямі.

Навічок у парламенце, Сямён Шарэцкі, тым не менш, зразумеў гэта хутчэй і лепш, чым многія яго спрактыкаваныя, вопытныя канкурэнты.

Як складуцца ўзаемаадносіны паміж новым Старшынёй Вярхоўнага Савета і Прэзідэнтам? Наколькі самастойную ролю ў палітыцы будзе іграць Сямён Шарэцкі? Як далёка здольны ён пайсці, адстойваючы правы ўзначальваемага ім парламента, канстытуцыйнасць, законнасць у краіне?

Многае ў адносінах кіраўнікоў дзвюх галін улады, верагодна, будзе вызначацца тым, што Прэзідэнт Аляксандр Лукашэнка спачатку рабіў стаўку на іншую фігуру — Вячаслава Кебіча. Тое, што сваім абраннем Сямён Шарэцкі ніяк не абавязаны прапрэзідэнцкім сілам у парламенце, хутчэй за ўсё, адаб'ецца на яго пазіцыі, спрыяючы яе незалежнасці, самастойнасці.

Магчымае палітычнае саперніцтва Аляксандра Лукашэнкі і Сямёна Шарэцкага абяцае быць няпростым для цяперашняга кіраўніка дзяржавы.

Паводле сваіх палітычных поглядаў, сп. Шарэцкі працуе на той жа ніве, што і Прэзідэнт. Ні ў заўзятыя рыначнікі, ні ў дэмакраты, ні ў нацыяналісты яго не запішаш. Лозунгі сацыяльнай падтрымкі, абароны абяздоленых, дапамогі збанкрутаваўшым вытворчасцям новы спікер прамаўляе, можа, і не так красамоўна, як Прэзідэнт, але, улічваючы яго нерастрачаны крэдыт даверу, — не менш пераканаўча.

Мяркуючы па першых публічных выступленнях, новы спікер — палітык асцярожны, стрыманы, не схільны да імправізацый, але пры гэтым стаіць на цвёрдых самастойных пазіцыях. Яшчэ да абрання Старшынёй ВС ён ад імя сваёй фракцыі падпісаў заяву ў падтрымку Канстытуцыйнага суда. Улічваючы надзвычай няпростыя адносіны Прэзідэнта да КС, гэты крок — больш чым красамоўны. Дарэчы, сваю пазіцыю адносна Канстытуцыйнага суда Сямён Шарэцкі пацвердзіў і на першай прэс-канферэнцыі ў якасці спікера.

Падабенства біяграфій Прэзідэнта і спікера ў будучым, у выпадку, калі разгорнецца іх саперніцтва за рэйтынг, за сімпатыі электарату (асабліва сельскага), таксама здольна саслужыць не горшую службу Старшыні Вярхоўнага Савета.

Сямён Шарэцкі за кіраўніцтва калгасам у 29-гадовым узросце быў адзначаны вышэйшай узнагародай СССР — ордэнам Леніна. Вынік, які няпроста пераўзысці.

Да ўсяго гэтага, за плячыма Сямёна Шарэцкага — створаная ім моцная партыя, якая здолела перамагчы на выбарах і на справе даказала, што ў асноўным кантралюе сельскі электарат.

Зразумела, новаму спікеру ёсць чаму вучыцца. Яго асобныя выказванні, — напрыклад, пра тое, што палітычныя метады вырашэння праблем сябе вычарпалі, — выклікаюць пацвельванні палітыкаў і журналістаў. Не надае новаму Старшыні ВС вагі сярод значнай часткі грамадства і тое, што пасяджэнні парламента ўпершыню за многія гады ў асноўным будуць весціся не на беларускай мове.

Аднак — дарогу адолее той, хто цвёрда наважыўся ісці па ёй. У імкненні бачыць сваю краіну незалежнай і стаўшай на шлях рыначных рэформаў Сямёну Шарэцкаму, мяркуючы па яго словах, не адмовіш. А гэта на сённяшні дзень галоўнае.

**Валянцін ЖДАНКО.**

# ВАЕННАЯ ПРАКУРАТУРА ВЯДЗЕ СЛЕДСТВА

**Беларускай ваеннай пракуратурай узбуджана крымінальная справа і вядзецца следства па факту крадзяжу ў былым 25-м арсенале ракетных войскаў стратэгічнага прызначэння СССР (цяпер — база захоўвання ракетнай тэхнікі беларускіх Узброеных Сіл) у Коласаве (Мінская вобласць) 7,8 кілаграма плаціны і сплаваў на суму каля 15 мільярдаў беларускіх рублёў.**

Паводле звестак БелаПАН, напярэдадні правядзення пракуратурай праверкі стану спраў у гэтай воінскай часці ў невядомым накірунку зніклі яе камандзір Уладзімір Жыхараў, начальнік лабараторыі па перапрацоўцы каштоўных металаў Генадзь Давідовіч і яго старшы памочнік Дзмітрый Мурын.

Паводле факту знікнення афіцэраў Беларуская ваенная пракуратура таксама ўзбудзіла крымінальную справу, кваліфікаваўшы яе як дэзерцірства. Ужо падчас праверкі было высветлена, што крадзяжы матэрыяльных каштоўнасцей з гэтай воінскай часці доўжыліся на працягу амаль пяці апошніх гадоў.

**Вячаслаў БУДКЕВІЧ, БелаПАН.**

# КАБ ПРАДУХІЛІЦЬ ЗЛОЎЖЫВАННІ

**Праўленне Нацыянальнага банка Беларусі 11 студзеня бягучага года ўнесла змяненні ў Часовыя правілы выпуску і абарачэння вэксаляў у народнай гаспадарцы ад 12 мая 1992 года.**

Як патлумачылі ва Ўпраўленні каштоўных папер Нацбанка, прынятыя папраўкі, па-першае, забараняюць перадачу вэксаляў фізічным асобам, па-другое, паміж юрыдычнымі асобамі аперацыі з вэксалямі дазваляецца праводзіць выключна пры таварных здзелках, а купля-продаж іх забараняецца.

Гэта зроблена ў рамках пераліку мерапрыемстваў па выкананню даручэнняў Прэзідэнта ад 29.12.95 г. па ўдасканаленню фінансавай і банкаўскай дзейнасці, каб прыпыніць злоўжыванні пры аперацыях з вэксалямі, а таксама прадухіліць вываз замежнай валюты.

**Дзмітрый ЖУК.**

# РАБОЧЫ ТЫДЗЕНЬ ПРЭЗІДЭНТА

**Чарговы рабочы тыдзень Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь А. Р. Лукашэнкі будзе прысвечаны ў асноўным пытанням развіцця міжнароднага супрацоўніцтва.**

Прэзідэнт А. Р. Лукашэнка правядзе перагаворы з прэзідэнтам Казахстана Н. Назарбаевым, які прыбудзе ў Мінск з афіцыйным візітам 17 студзеня. У ходзе візіту будуць падпісаны дагавор аб дружбе і супрацоўніцтве паміж нашымі краінамі, а таксама шэраг пагадненняў у сферы эканамічнага і культурнага супрацоўніцтва.

У канцы тыдня Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь вылеціць у Маскву для ўдзелу ў рабоце Савета кіраўнікоў дзяржаў СНД у Крамлі. На Савеце будуць абмеркаваны перспектывы фарміравання мытнага саюза, пытанні калектыўнай бяспекі, міждзяржаўнага супрацоўніцтва ў галіне культуры і іншыя важныя праблемы інтэграцыі краін Садружнасці.

У перыяд знаходжання ў Маскве будуць праведзены двухбаковыя сустрэчы Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь з лідэрамі шэрага краін СНД. А. Р. Лукашэнка прыме ўдзел у рабоце сесіі Расійскай акадэміі сацыяльных навук, сустрэнецца з патрыярхам Маскоўскім і ўсяе Русі Алексіем II, наведае Зорны гарадок.

**БЕЛТА.**

# ЗНОЎ ПАДРАСТУЦЬ ЗАКУПАЧНЫЯ ЦЭНЫ

**У другой дэкадзе студзеня павышаюцца закупачныя цэны на прадукцыю жывёлагадоўлі.**

Як паведамілі карэспандэнту БЕЛТА ў Мінсельгасхарчы, гэта вымушаная мера мае на мэце часткова кампенсаваць выдаткі сельскай гаспадаркі, звязаныя з непарытэтам цэн.

Цяпер тона ялавічыны вышэйшай укормленасці ў жывой вазе будзе каштаваць 10 мільёнаў рублёў, сярэдняй — 8, ніжэй за сярэднюю — 5 мільёнаў 900 тысяч рублёў.

Узраслі ў студзені таксама закупачныя цэны на малако і смятанку. Тона цэльнага малака першага гатунку, напрыклад, будзе каштаваць 1 мільён 700 тысяч, другога — паўтара і негатунковага — 1 мільён 250 тысяч. Тона ж смятанкі 34-працэнтнай тлустасці будзе каштаваць 17 мільёнаў 100 тысяч рублёў.

Застаецца нагадаць, што ў мінулым годзе закупачныя цэны на малако пераглядаліся чатыры, а на ялавічыну — 11 разоў.

**Віктар САХАНКОЎ, БЕЛТА.**

# КАЛЕКТЫВУ БЕЛАРУСКАГА ТЭЛЕГРАФНАГА АГЕНЦТВА

Беларускаму тэлеграфнаму агенцтву — 75 гадоў.

Дзякуючы аператыўным паведамленням, рэпартажам, каментарыям БЕЛТА жыхары Беларусі своечасова даведваюцца аб падзеях, што адбываюцца ў рэспубліцы і за яе межамі.

Беларускае тэлеграфнае агенцтва па праву можна назваць летапісцам гісторыі Беларусі. Ні адна важная падзея, што адбываецца ў рэспубліцы, не засталася без увагі агенцтва. Ля яго вытокаў стаялі вядомыя ў рэспубліцы палітычныя і дзяржаўныя дзеячы: Вільгельм Кнорын, Дзмітрый Жылуновіч.

Сёння без матэрыялаў БЕЛТА немагчыма ўявіць сістэму інфармацыйнага забеспячэння ў Беларусі — ад раённай газеты, мясцовага тэлерадыёвяшчання да рэспубліканскіх сродкаў масавай інфармацыі.

Інфармацыйныя матэрыялы БЕЛТА вызначаюцца аператыўнасцю, аб'ектыўнасцю, дакладным адборам і вывераннасцю. Яны дапамагаюць арыентавацца ў працэсах, што адбываюцца ў рэспубліцы, садзейнічаюць забеспячэнню канстытуцыйнага права грамадзян Беларусі на атрыманне своечасовай інфармацыі аб дзяржаўным, палітычным, эканамічным і міжнародным жыцці рэспублікі.

У калектыве агенцтва ўдасканальвалася майстэрства многіх вядомых у рэспубліцы журналістаў.

Віншую калектыў Беларускага тэлеграфнага агенцтва з 75-годдзем. Шчыра жадаю вам здароўя, творчага натхнення на карысць Беларусі і нашага народа.

**Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь А. Р. ЛУКАШЭНКА.**

**ДАРАГІЯ СЯБРЫ!**

Прыміце самыя шчырыя, сардэчныя віншаванні са знамянальным юбілеем — 75-годдзем з дня ўтварэння агенцтва.

Слаўны шлях прайшло за тры чвэрці стагоддзя тэлеграфнае агенцтва нашай рэспублікі. І галоўным на ўсіх этапах яго дзейнасці было аператыўнае, дакладнае, праўдзівае інфармаванне людзей аб падзеях у краіне і свеце. Паведамленні белтаўцаў перадаваліся па каналах вядучых агенцтваў свету, транслiраваліся буйнейшымі тэле- і радыёкампаніямі, друкаваліся ў самых папулярных газетах і часопісах.

У роднай Беларусі да інфармацыі за подпісам «БЕЛТА» скласіся ўстойлівыя і даверныя адносіны. Агенцтву вераць. І ў гэтым — асноўная заслуга яго супрацоўнікаў. Журналісты агенцтва заўсёды вызначаліся высокім прафесіяналізмам, патрабавальнымі адносінамі да сябе і сваёй справы, рэалістычным падыходам да новых павеваў і пачынанняў. Агенцтва было і застаецца прапагандыстам перадавога вопыту, лепшых дасягненняў у розных галінах народнай гаспадаркі, навукі, культуры, спорту.

За гэтыя гады змянілася не адно пакаленне журналістаў-белтаўцаў. Аднак традыцыі агенцтва жывуць і развіваюцца. Трымайце і далей таксама высока марку «БЕЛТА». Няхай у рабоце і жыцці вам заўсёды спадарожнічае ўдача.

Выказваю ўпэўненасць у тым, што калектыў агенцтва заўсёды будзе для сваіх калег прыкладам высокай творчай актыўнасці, журналісцкай прынцыповасці і вернасці лепшым традыцыям беларускага друку.

75 гадоў — узрост і сталы, і малады. Жадаю супрацоўнікам агенцтва здароўя, поспехаў, асабістага шчасця.

**Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь С. ШАРЭЦКІ.**

**ПАВАЖАНЫЯ ТАВАРЫШЫ!**

Ад імя Кабінета Міністраў Рэспублікі Беларусь сардэчна віншую Беларускае тэлеграфнае агенцтва з 75-годдзем з дня заснавання і выказваю словы шчырай падзякі працоўнаму калектыву БЕЛТА за руплівую працу ў галіне сродкаў масавай інфмармацыі.

Заснаванне 14 студзеня 1921 года першага тэлеграфнага агенцтва ў нашай рэспубліцы стала важнай падзеяй: Беларусь набыла магчымасць атрымліваць аператыўную інфармацыю аб рабоце органаў дзяржаўнага кіравання, палітычнай і эканамічнай сітуацыі ў краіне і за яе межамі.

Сёння БЕЛТА — адно з найбуйнейшых інфармацыйных прадпрыемстваў на тэрыторыі СНД, якое мае высокі інтэлектуальны патэнцыял і здольна істотна ўплываць на правядзенне эканамічных і сацыяльных рэформаў, стабілізацыю грамадска-палітычнай сітуацыі ў Рэспубліцы Беларусь.

За 75 гадоў існавання Беларускае тэлеграфнае агенцтва ўносіла значны ўклад у духоўнае жыццё беларускага народа і садзейнічала павышэнню аўтарытэту Беларусі ў свеце.

Кабінет Міністраў Рэспублікі Беларусь выказвае ўпэўненасць, што супрацоўнікі БЕЛТА заўсёды будуць плённа працаваць на карысць Радзімы.

Жадаю калектыву Беларускага тэлеграфнага агенцтва далейшых творчых поспехаў, здароўя і асабістага шчасця.

**З павагай М. М. ЧЫГІР, прэм'ер-міністр Рэспублікі Беларусь.**

12 студзеня 1996 г.
г. Мінск.

*— ЭКСПРЭС-КАМЕНТАРЫЙ —*

# РОСТ КУРСА ДОЛАРА АБЯСЦЭНЬВАЕ ТЫЯ ГРОШЫ, ЯКІЯ МНОГІЯ ЯШЧЭ І НЕ АТРЫМАЛІ

Апошнімі днямі ў камерцыйных банках зрушыўся з месца курс долара. Здарылася тое, што павінна было здарыцца, нягледзячы на адначасовае доларавае падсілкоўванне і штучнае абмежаванне попыту на долар, які яўна перавышае прапанаванне, з боку Нацыянальнага банка. Рост курса долара і, адпаведна, дэвальвацыю беларускага рубля можна прызнаць цалкам лагічнай і заканамернай. Гэта павінна было здарыцца даўно. Той курс, які трымаўся на працягу амаль года, даўно не адпавядае рэальнаму становішчу спраў, у гэтай яго стабільнасці яўна прысутнічаў адміністрацыйны ўціск, асабліва апошнім часам.

Дарэчы, гэта ж стабільнасць курса пры адначасовым рэзкім росце ўнутраных цэн (больш чым у тры разы) надзвычай падарвала экспартны патэнцыял краіны. У выніку добрыя пажаданні (любая стабільнасць — гэта, вядома ж, няблага) прывялі да зніжэння экспарту і, адпаведна, зніжэння прытоку ў краіны валюты, таго ж долара. Прытрымліванне долара пэўным чынам скажала і сапраўдную карціну ў галінах народнай гаспадаркі, на прадпрыемствах адносна таго, хто чаго варты, чыя прадукцыя сапраўды патрэбная, сапраўды канкурэнтаздольная, чыя — не, і, адпаведна, кансервавала ўсю яўна непрыдатную структуру эканомікі ў існуючым выглядзе. Гэта ўжо вядома, што толькі пры свабодным пераліванні фінансаў на рынку і свабодным цэнаўтварэнні ў найбольшай ступені вызначаюцца і найбольш эфектыўныя, рэнтабельныя вытворчасці, і ўменне гаспадарыць, а з другога боку — стратнасць і няўменне.

Такім чынам, рух рубля і долара адносна адзін аднаго, якія імкнуцца заняць найбольш правільныя пазіцыі (зноў-такі адносна адзін аднаго), можна было б у цэлым прыняць (праўда, падазрона, што гэты працэс пачаўся адначасова ў многіх банках). Але менавіта — «можна было б». На сённяшні дзень ні ўрад, ні ў першую чаргу Нацыянальны банк не могуць не ўлічваць наступнага фактара: вялікіх запазычанасцей прадпрыемстваў па заработнай плаце. Было імкненне ліквідаваць гэтыя запазычанасці да новага года. Але, напрыклад, вось што паведамілі ў галіновым прафсаюзе работнікаў радыёэлектроннай прамысловасці: 22 —23 снежня на большасці прадпрыемстваў становішча заставалася гэткім жа безнадзейным, як і было: за лістапад на заводзе Дзяржынскага аб'яднання «Інтэграл» запазычанасць складала 8,254 мільярда рублёў; на «Транзістары» — 6,85 мільярда, «Гарызонце» — 4,072 мільярда (і 3,714 мільярда за кастрычнік), брэсцкім «Колератроне» — 4,5 мільярда, гомельскім «Карале» — 4,5 мільярда, гомельскім радыёзаводзе — 3,3 мільярда (плюс 3,2 мільярда за кастрычнік) і г. д. Па сведчанню работнікаў галіновага прафсаюза, усе гэтыя запазычанасці да новага года не пагашаны, наўрад ці пагашаны і цяпер.

Наўрад ці пагашаны яны і на прадпрыемствах у іншых галінах, можа, толькі крыху. На жаль, на сённяшні дзень дакладных лічбаў запазычанасці па зарплаце ў цэлым па рэспубліцы няма, але варта нагадаць: у снежні яна складала больш як 900 мільярдаў.

Аднак якія адносіны мае запазычанасць па зарплаце да росту курса?

Самыя прамыя. Гэта фактычнае абясцэньванне тых грошай, якія многія яшчэ нават не атрымалі. Улічым рух цэн і тую папулярнасць, якую набыў долар у нашых грамадзян як найбольш устойлівая валюта, адпаведна — улічым імкненне многіх захоўваць свае зберажэнні менавіта ў доларах. Долару нават Ашчадны банк — слабы канкурэнт, нават мадэрнізаваны, хоць ён апошнім часам крыху і аднавіў давер у грамадзян.

Пры ўмове росту курса долара прадпрыемствы, якія маюць запазычанасці па зарплаце, маглі б адпаведна індэксаваць іх, што, як зазначылі ў Федэрацыі прафсаюзаў, зафіксавана і ў калектыўных дагаворах. Але, думаецца, што гэта вельмі і вельмі малаверагодна. Асабліва, калі ўлічваць цяперашні жабрацкі стан прадпрыемстваў.

**Іван БАРАНОЎСКІ.**

# ПРА ПАЛІТЫКАЎ БЕЗ ПАЛІТЫКІ

*У гэтым годзе на старонках «Звязды» будзе працягваць свой шлях «непалітычная» рубрыка, прысвечаная людзям «ва ўладзе» (палітычнай, эканамічнай і г. д.). Мы глыбока перакананы: асоба палітыка, яго чалавечыя якасці — не менш важныя ўмовы плённага руху наперад, чым прынцыповыя праграмы і накірункі самой палітыкі. У мінулым годзе мы пазнаёмілі вас са старшынёй Аб'яднанай грамадзянскай партыі Станіславам Багданкевічам, старшынёй Аграрнай партыі Сямёнам Шарэцкім, міністрам адукацыі і навукі РБ Васілём Стражавым.*

*Сёння — «непалітычная» сустрэча з чалавекам, які мае непасрэднае дачыненне да міжнароднай палітыкі нашай дзяржавы.*

## ЧЫМ БОЛЬШ ДРЭВА ЦЯГНЕЦЦА ДА СВЯТЛА, ТЫМ ГЛЫБЕЙ ЯГО КАРАНІ ПРАНІКАЮЦЬ У ЦЕМРУ...



**Рыхтуючыся да сустрэчы з першым намеснікам міністра замежных спраў Рэспублікі Беларусь Валерыем ЦЭПКАЛАМ, чула розныя, часам дыяметральна процілеглыя, меркаванні аб гэтым чалавеку. Адны сцвярджалі, што бліскучая адукаванасць, неардынарнасць асобы дазволілі яму, нягледзячы на несалідны ўзрост (30 гадоў), заняць салідную пасаду — што ўвогуле натуральна і лагічна, улічваючы мэтанакіраванасць, працавітасць, унутраную цэльнасць. Другія з'едліва кідалі: маўляў, само прозвішча — Цэпкала адносіцца да разраду «красамоўных», характарызуе ўчэпістасць, не па гадах цвярозы разлік, халодны прагматызм...**

**Пасля амаль двухгадзіннай гутаркі са сп. Цэпкалам я выходзіла з міністэрскага будынка на вул. Леніна, 19 з жаданнем пазнаёміцца з філасофскімі працамі Бэкана і перачытаць санеты Шэкспіра.**

**Філасофія і паэзія — хобі Валерыя Вільямавіча. А яшчэ — спорт (рукапашны бой, самба, плаванне). Рукапашным боем працягвае займацца і зараз — не толькі каб у выпадку неабходнасці пастаяць за сябе: каб абараніць і бліжняга... Пра гэта Валерый Вільямавіч не стаў расказваць, але калі матэрыял ужо быў падрыхтаваны да друку, я выпадкова даведалася, што нядаўна дыпламат выратаваў жанчыну ад гвалтаўніка. Пра гэта нядаўна паведаміла расійская газета «Сегодня» ў рубрыцы «Учынак».**

**— Валерый Вільямавіч, што садзейнічала вашай кар'еры: розум, талент, дакладны разлік, шанцаванне?..**

— Цяжка сказаць... Магчыма, усе пералічаныя вамі рысы — у той ці іншай ступені.

**— Ці лёгка быць маладым... дыпламатам?**

— Калі гаварыць аб цяперашняй пасадзе, на першым этапе маладосць была пэўнай перашкодай, якую даводзілася пераадольваць. Але зараз ніякіх «узроставых» праблем няма... Мне ўспамінаецца выпадак у арміі. Служыў на Украіне, у ракетных войсках стратэгічнага прызначэння. Наша часць знаходзілася на водшыбе, таму было нечаканасцю, што на праверку прыехаў сам генерал-маёр, — яго ўспрымалі як бога, які спусціўся з нябёс. «Ёсць пытанні?» — звярнуўся генерал і да нас, салдат. Мне заставалася пару месяцаў да звальнення ў запас, таму не пабаяўся спытаць: «Вы кіруеце велізарнай гаспадаркай, у вашым падпарадкаванні столькі людзей — ці цяжка быць камандзірам дывізіі?» Ён доўга глядзеў на мяне, потым вымавіў: «Быць камандзірам дывізіі няцяжка. Але цяжка ім стаць...» Надзвычай глыбокая фраза, бо менавіта асабістыя якасці чалавека і вызначаюць яго рух, імкненне дасягнуць пэўнай вышыні.

**— Вы трапілі ў армію, бо не паступілі ў ВНУ?**

— Не. Пасля школы паступіў у Беларускі тэхналагічны інстытут па спецыяльнасці «машыны і апараты хімічных вытворчасцей» — пайшоў па шляху бацькоў, якія і зараз працуюць на «Азоце» ў Гродне. Правучыўся два гады, але... у пачатку 80-х у армію прызывалі нават студэнтаў. Фізічна і маральна быў гатовы да службы, толькі шкадаваў, што не папаў на міжнародную алімпіяду па тэарэтычнай механіцы, у якой павінен быў удзельнічаць як лаўрэат Усесаюзнай алімпіяды... Армія значна паўплывала на ўсе мае жыццёвыя ўяўленні: зразумеў, што да чалавека можна адносіцца як да жывёлы. Што мараль, якая пануе ў дзяржаве, не з'яўляецца асновай чалавечых адносінаў.

**— А зараз?**

— Зараз наогул няма маралі. Адбылася змена каштоўнасцей.

**— Калі перафразаваць вядомае выслоўе «лепш дрэнны мір, чым добрая вайна», дык можа дарэчы будзе сказаць: лепш дрэнная мараль, чым зусім ніякай?**

— Безумоўна. Прычым камуністычная мараль, на маю думку, — у многім грамадская мараль. Нават хрысціянская, калі выкрасліць з яе ўсе «пасажы» аб класавай барацьбе. Наогул мараль у грамадстве — гэта зашчэпка, што злучае паміж сабой людзей і не дазваляе грамадству рассыпацца.

**— Валерый Вільямавіч, што вы набывалі, а што страчвалі, узнімаючыся «да сонца»?**

— Чым вышэйшая пасада, тым большая адказнасць і мацнейшыя рамкі, за якія проста не маеш права выйсці. Больш умоўнасцей з'яўляецца не толькі ў дзеяннях, учынках, але і ў думках, разважаннях. Велізарны аб'ём аператыўнай работы, вядома, дае магчымасць атрымліваць шырокую інфармацыю па розных сферах міжнародных адносінаў, з гэтай пазіцыі многае бачыцца інакш. Аднак амаль няма часу спыніцца, задумацца, штосьці зафіксаваць.

**— Паспяваеце чытаць што-небудзь, акрамя дакументаў, службовых папер?**

— Калі шчыра — мастацкую літаратуру чытаю ў асноўным у водпуску. У хвіліны дрэннага настрою ў рукі бяру дэтэктыў.

**— Вас не бянтэжыць, што Міністэрства замежных спраў знаходзіцца на вуліцы Леніна?**

— Не. Можна па-рознаму адносіцца да гэтага чалавека... Шуфуцінскі спявае: «Любовь не бросишь мордой в снег апрельский». Гісторыю таксама не выкінеш, не перапішаш.

**— Не бывае сорамна перад калегамі з іншых краін, калі даводзіцца тлумачыць хуткую і не вельмі «дыпламатычную» змену сімволікі?**

— З сімволікай, вернутай пасля майскага рэферэндуму, асабіста ў мяне звязаны пэўныя эмацыянальныя адносіны. Я служыў у арміі і шчыра лічыў, што раблю патрэбную справу, што нашы ракетныя войскі — гэта шчыт Радзімы, што мы гатовы пераадолець любую небяспеку. Сімволіка, пад эгідай якой служыў, стала састаўной часткай майго «я»... Бела-чырвона-белы сцяг і «Пагоню» я прымаў (яна была зацверджана Вярхоўным Саветам), але ніякіх эмацыянальных адносінаў у мяне з ёй звязана не было: я не жыў у княстве Літоўскім.

**— І ўсё ж, у свеце не смяюцца, што сімволіка ў Беларусі мяняецца ў залежнасці ад палітычнай сітуацыі?**

— Не, зусім не.

**— З неверагоднай хуткасцю ў нас мяняюцца і кіраўніцкія кадры. Вы не баіцеся страціць работу?**

— З пункту гледжання матэрыяльнага забеспячэння — не: аклад у намесніка міністра 1 млн. 200 тыс. рублёў.

**— Магчыма, у вас бясплатнае харчаванне, дзяржаўная вопратка?**

— Нічога падобнага! Адзіная «прывілея» — замежныя камандзіроўкі. Прыкладна раз у 2-3 месяцы выязджаю за мяжу, але гэта спецыфіка нашай работы!

Вы спыталі пра хуткую змену кадраў. Сам факт замены палітычнай эліты з'яўляецца станоўчым: людзі, якія прыходзілі да ўлады ў старой бюракратычнай сістэме, — слабыя, няздольныя, унутрана супярэчлівыя. Гэта стала своеасаблівым прынцыпам у падборы і расстаноўцы кадраў: наступнік павінен быць больш слабым, чым папярэднік. Энергічнага, валявога, рашучага чалавека ніхто б не пасадзіў «пад сябе» з-за боязі, што ён яго здыме, «падседзіць». У выніку людзей, у руках якіх была ўлада (армія, КДБ, МУС) зверглі, умоўна кажучы, тры чалавекі — Ельцын і яго паплечнікі. Ніякага масавага руху не было, сведкі тых падзей добра гэта ведаюць... Можна правесці і другую аналогію — напрыклад, з Кітаем. Дзяржсістэма, якая існавала на працягу тысячагоддзяў і не давала краіне развівацца, стрымлівала любую ініцыятыву. Мао Цзэ Дун цудоўна разумеў: штосьці намеціў, загадаў — а ў «нізах» усё згасае. Адбылася культурная рэвалюцыя — мы памятаем, як стралялі вераб'ёў, сталі адлівалі больш, чым у СССР, але яна ішла толькі на лом... Аднак пастаянныя перетрэсванні кадраў прывялі да ўлады новых людзей. Дэн Сяопін, Джао Цзыян, Ху Яобан — гэтыя імёны вельмі добра вядомыя ва ўсім свеце. І сёння Кітай дэманструе самыя высокія ў свеце тэмпы эканамічнага развіцця... Калі мяне раптам палічаць недастаткова кампетэнтным — што ж, пасаду згубіць не баюся. Хаця вельмі люблю сваю работу: вучыўся на дыпламата, скончыў Маскоўскі інстытут міжнародных адносінаў...

**— Шчыра жадаю вам поспехаў і спадзяюся, што гэтага «раптам» не будзе! Але чым вы зоймецеся ў выпадку «грымасы фартуны»? Калі скажаце, што не думалі пра гэта, дазвольце вам не паверыць!**

— Знайсці работу не будзе праблемай, таму шчыра гавару: аб гэтым не думаў. Ведаю тры мовы — англійскую, фінскую і польскую. Ёсць вопыт выкладання — у інстытуце міжнародных адносінаў чытаў лекцыі на кафедры дзяржаўнага права і кіравання замежных краін. Ведаю міжнароднае права і міжнароднае прыватнае права, мноства іншых пытанняў, звязаных з міжнароднымі адносінамі.

**— Гэта надае ўпэўненасць у заўтрашнім дні, якім бы ён ні быў?**

— Скажу больш: пасля зыходу з Вярхоўнага Савета паступалі даволі цікавыя прапановы ад банкаў, камерцыйных структур. Але я перакананы, што палітыка з'яўляецца вышэйшай сферай чалавечай дзейнасці, таму ў гэтым плане вырашыў пайсці да канца.

**— Калі дамаўляліся аб інтэрв'ю, павіншавала вас з Новым годам, новым шчасцем — і вы па-філасофску заўважылі: шчасце кожны разумее па-свойму. Як разумееце яго вы?**

— Перад сабой звычайна стаўлю нейкія задачы — канцэптуальныя, з пэўнай перыядызацыяй і г. д. Шчасце — той момант, калі ўзяты чарговы бар'ер.

**— Шчасце залежыць ад самога чалавека ці яно — ад Бога?**

— Ад чалавека. Можна ўзгадаць філасофію Кальвіна: ёсць выбраннікі лёсу і няўдачнікі, пакінутыя Богам. Але любы з няўдачнікаў можа стаць выбраннікам — успомніце Іова, калі ў выніку спрэчкі Д'ябла з Богам ён быў пазбаўлены ўласнасці, сям'і, потым здароўя. І ён патрабуе ад Бога адносінаў партнёрства, ён выпакутаваў гэта права. І Бог дзесяцікратна яму адплаціў за цярпенне і веру. Калі чалавек працуе, нягледзячы на няўдачы, — рана ці позна, але яму абавязкова пашанцуе: ён усё роўна будзе выбраннікам.

**— Вы часта ходзіце ў царкву?**

— Маё стаўленне да рэлігіі спецыфічнае: для зносінаў з Богам мне не патрэбен пасрэднік. Хаця рэлігію ўспрымаю вельмі сур'ёзна, і ў Храм — праваслаўны, каталіцкі ці мусульманскі — прыходжу не як у музей.

**— Як вы сустракалі Новы год?**

— Тэлевізар глядзеў... у камернай кампаніі. На Каляды ездзіў у Гродна да бацькоў. Новы год застаўся ў нас ці не адзіным агульнанацыянальным святам: новыя — не прыжыліся, старыя — дэвальваваліся. Дзень Перамогі — свята патэтычнае.

**— А 8-га Сакавіка?**

— Ва ўсім свеце ёсць Дзень маці, у нас — Міжнародны жаночы дзень. Але аб тым, што ён міжнародны, ведаюць хіба што жанчыны былога СССР.

**— Блез Паскаль у сваіх «Думках» пісаў: «Калі б нос Клеапатры быў карацейшым, зусім іншым быў бы твар свету». Ці згодны вы з небясспрэчнай думкай, што ўсё ў свеце робіцца ў імя жанчыны?**

— Згодзен. Наогул мяркую, што ў чалавека, мужчыны ёсць тры асноўныя інстынкты: 1) страх (калі сядзіш у акопе і над галавой свішчуць кулі, ужо нічога не хочацца), 2) голад і 3) каханне. Кожны мужчына імкнецца дасягнуць поспеху, зацвердзіцца — вядома, ёсць і ўнутраныя стымулы, штуршкі, але ўсё роўна ў падсвядомасці заўсёды існуе нешта, звязанае з жанчынай... Цікава Жванецкі сказаў: сваёй працай і талентам я заслужыў, каб народ выдзеліў мне прыгожую жанчыну.

**— Вам хацелася б...**

— Не-не, Жванецкі гаварыў па-філасофску... Жанчына, сапраўды, у многім вызначае ўчынкі і памкненні мужчыны: ён ідзе наперад, а яго поспех з тылу прыкрывае і замацоўвае жанчына.

**— Ці часта ўлюбляецца малады і нежанаты дыпламат?**

— Чым далей, тым радзей.

**— Валерый Вільямавіч, ёсць анекдот пра тое, чым жанчына адрозніваецца ад дыпламата...**

— Гэта не анекдот — афарызм Фрэнсіса Бэкана: вы, напэўна, яго маеце на ўвазе?

**— Бэкана? Не чытала...**

— У яго ёсць такая формула: калі генерал гаворыць «так» — значыць, так; калі генерал гаворыць «не» — значыць, не; калі генерал гаворыць «можа быць», гэта не генерал. Калі дыпламат гаворыць «так» — значыць, можа быць; калі «можа быць» — значыць, не; калі дыпламат гаворыць «не», гэта не дыпламат. Ну і пра жанчыну: калі яна гаворыць «не» — значыць, можа быць; калі «можа быць» — значыць, так; калі жанчына гаворыць «так», гэта не жанчына.

**— Аказваецца, сучасныя анекдоты запазычваюцца ў філасофскіх працах 300-гадовай даўнасці!.. Цікава, а часта вы гаворыце «не»?**

— Калі размова ідзе аб міжнародных справах, — ніколі.

**— А калі аб жанчынах? Дарэчы, хто тая дама, з якой вас бачылі ва ўрадавым санаторыі, пра што хадзіла шмат чутак і плётак?**

— Гэта ўсё чуткі і плёткі!

**— Як вы звычайна праводзіце водпуск?**

— Заўсёды стараюся адпачываць актыўна: горы, паходы. Люблю мора, мяне туды пастаянна цягне. Можа, таму што па гараскопу я Рыба?

**— Наступнае пытанне задам зноў з дапамогаю Паскаля, ён сцвярджаў: «Людзі дзеляцца на праведнікаў, якія лічаць сябе грэшнікамі, і грэшнікаў, якія лічаць сябе праведнікамі». Да якой катэгорыі адносіцеся вы?**

— Блез Паскаль разважаў метафарамі і парадоксамі.

**— Але ў кожным парадоксе...**

— Ніцшэ заўважыў: той, хто піша метафарамі, хоча, каб яго не разумелі, а завучвалі на памяць... Паскаль у дадзеным выпадку абвастрае праблему, але, безумоўна, трэба пазбягаць самаўсхвалення і самалюбавання. Трэба быць пастаянна нездаволеным сабой.

**— Што ў вашым разуменні грэх?**

— Абыякавасць. Альберт Швейцар назваў гэта спакойным сумленнем, вынаходкай д'ябла. Гэта калі на вуліцы гвалтуюць жанчыну, і ўсе назіраюць з вокнаў, але ніхто не выходзіць.

**— Людзей вашай прафесіі звычайна ўяўляюць людзьмі строгімі, афіцыйнымі, «зашпіленымі на ўсе гузікі». А якім ведаюць вас сябры? Выпіваеце шмат, каб «расслабіцца»?**

— Шмат?.. Апошні раз шмат выпіў у 17 гадоў, калі вырваўся ад бацькоў і паступіў у інстытут.

**— Якая ваша любімая страва?**

— Люблю кітайскую кухню..Гэта, канешне, экзотыка.

**— А што экзатычнае вы можаце прыгатаваць самі?**

— Яешню магу...

**— Хто ведае вас лепш за вас?**

— Ніхто. У гнасеалогіі Бэкана ёсць 4 ідалы, якія перашкаджаюць чалавеку пазнаць рэчаіснасць: ідал роду (нашы органы пачуццяў недасканалыя), ідалы рынку, плошчы і тэатра. Седзячы ў глядзельнай зале, ты пэўным чынам прымаеш удзел у тым, што адбываецца на сцэне, але потым апамятаешся і зразумееш, што ўсё гэта — толькі тэатр. У жыцці бывае вельмі важна паглядзець на сябе адначасова і як на ўдзельніка гульні, і як на гледача. Гэта самае складанае.

**— Валерый Вільямавіч! Такое ўражанне, што на мае пытанні вашымі вуснамі адказваюць славутыя мысліцелі...**

— У канцы XX стагоддзя нельга прэтэндаваць на тое, што вымаўляеш яшчэ нявыказаныя мудрасці. Я мог бы, канешне, не рабіць ніякіх спасылак, усё выдаваць за свае думкі — і вы б нават не здагадаліся... Але многае, калі не ўсё, было ўжо сказана да нас, і чалавеку не трэба кожны раз «вынаходзіць веласіпед». Калі мы ведаем, што двойчы два — чатыры, дык не будзем гэта спасцігаць уласным розумам, кожны раз палачкі складваць. Не абапіраючыся на папярэдні вопыт, на ўжо дасягнутыя веды, мы не вырашым ніводнай задачы.

**— Вы любіце быць у цэнтры ўвагі?**

— Важней бывае не быць у цэнтры ўвагі, бо гэта ставіць цябе ва ўмовы неабходнасці эмацыянальнага адказу: не толькі ж станоўчыя імпульсы і стрэлы звернуты ў цэнтр увагі.

**— Хутчэй, сапраўды, наадварот: за ўсмешкай на твары можа хавацца...**

— Так, і чалавеку ў цэнтры ўвагі гэта складана ўспрымаць. Каб аб'ектыўна, спакойна глядзець на свет, лепш пазбягаць святла пражэктараў. «...важней, каб уласнае полымя душы нараджала ўласнае вучэнне», — так гаварыў Заратустра.

...Падыдзіце да дуба і паспрабуйце яго патрэсці — нават калі вы фізічна моцны чалавек, дрэва не зварухнецца. А нябачны, няўлоўны вецер трасе і матляе дуб ва ўсе бакі. Так і ў жыцці: нябачныя сілы нас гнуць, трасуць і ламаюць мацней за ўсё.

**— Якая дакладная і прыгожая метафара!**

— І яшчэ заўважце: чым больш дрэва цягнецца ў вышыню, да святла, тым глыбей яго карані пранікаюць у цемру... Чым больш чалавек ведае, тым больш усведамляе немагчымасць змяніць гэты свет...

**Гутарыла Таццяна ПАДАЛЯК.**

## «ХЕЛЬСІНКСКІ КАМІТЭТ»: ДЗЕ ЁН?

***Шаноўная рэдакцыя!***

***Вядома, што Рэспубліка Беларусь у свой час далучылася да Хельсінкскага пагаднення аб правах чалавека. Ці ёсць у нашай краіне прадстаўніцтва гэтай арганізацыі?***

**З павагай КРЫСАН Іван Іванавіч, ветэран працы,** *г. Мінск.*

Як паведамілі нам у Міністэрстве юстыцыі, грамадская арганізацыя, якая мае на мэце абарону правоў чалавека, што прадугледжана Хельсінкскімі дамовамі і іншымі міжнароднымі пагадненнямі, створана на Беларусі параўнальна нядаўна, у мінулым годзе. Дарэчы, яна так і называецца — «Хельсінкскі камітэт». Штаб-кватэра камітэта знаходзіцца ў Мінску па адрасу: прасп. Скарыны, 1, пакой 228. Тэлефон — 39-55-55.

## ПРАВАМ НА СВАБОДНЫ ДЗЕНЬ КАРЫСТАЮЦЦА І МАЦІ-ЎДОВЫ

***Вельмі прашу адказаць на хвалюючае мяне пытанне: ці маюць жанчыны-ўдовы якія-небудзь ільготы? Няўжо апошняя пастанова аб свабодным дні ў тыдзень не закранае маці-ўдоў?***

**Н. ЧАЙКО, маці двух дзяцей 8 і 5 гадоў.**

Паважаная Н. Чайко! Падстаў для хвалявання ў вас няма. Вы маеце поўнае права на дадатковы выхадны дзень.

## ЦІ МОЖНА СЯБРАВАЦЬ З КАМП'ЮТЭРАМ?



***У адным з выпускаў «Пытальніка» я прачытала аб тых адмоўных момантах, якія датычацца здароўя людзей, што працуюць за камп'ютэрамі. У мяне хлопчык таксама вельмі захапляецца камп'ютэрам. З гэтай нагоды хацелася б ведаць, ці існуюць нейкія ўзроставыя абмежаванні пры рабоце дзяцей за камп'ютэрам?***

**Ганна ЛОГІНАВА,** *г. Гомель.*

Нельга весці гаворку аб тым, што дзяцей ні ў якім разе не трэба дапускаць да камп'ютэра. Праўда, адзначым і той факт, што нейкая разумная мера ў адносінах вашых дзяцей з камп'ютэрам усё ж такі павінна існаваць. Урачы розных краін біліся над вырашэннем праблемы, з якога ўзросту дзяцей можна дапускаць да камп'ютэра. Аднак аптымальнага адказу да гэтага часу няма. Апошнім часам узаемаадносіны дзяцей і камп'ютэра спрабуюць вызначыць псіхолагі. Іх высновы часам аказваюцца больш жорсткімі, чым высновы дзіцячых урачоў.

Так, на думку псіхолагаў, «разумная машына» не дае дзецям як след развіць фантазію, менш дазваляе ім быць сам-насам, уяўляючы сябе то героем казкі, то адважным падарожнікам. Здавалася б, на самай справе ўсё не так: камп'ютэрныя гульні, наадварот, мадэліруюць самую розную рэальнасць. Але ў тым вось і справа, што рэальнасць ужо гатовая і дзіцяці прыходзіцца яе прымаць, не ўзбагачаючы сваім творчым уяўленнем.

Па падліках спецыялістаў, дзеці, якія гуляюць або працуюць з камп'ютэрам, больш стамляюцца, пакутуюць ад галаўнога болю, часцей робяцца замкнутымі і маўклівымі, чым іх аднагодкі.

## ЧАМУ СТУДЭНТЫ ПЛАЦЯЦЬ ЗА ЭЛЕКТРЫЧНАСЦЬ?

***Я вучуся ў БДУ, на другім курсе, жыву ў інтэрнаце па вуліцы Кастрычніцкай у Мінску. Ці не маглі б вы растлумачыць, чаму з гэтага навучальнага года акрамя звычайнай платы за пражыванне ў інтэрнаце мы вымушаны плаціць і за спажыванне электраэнергіі?***

**Марына С-ВА,** *г. Мінск.*

Як нам паведамілі ў Міністэрстве адукацыі Беларусі, адпаведнае распараджэнне прынята міністрам яшчэ ў 1993 годзе. І называецца яно — «Часовае палажэнне аб інтэрнаце навучальнай установы». Згодна з палажэннем, для студэнтаў БДУ, якія пражываюць у інтэрнатах і карыстаюцца асабістым халадзільнікам, тэлевізарам, настольнай лямпай, а таксама іншай электраспажывальнай апаратурай, устаноўлена дадатковая плата ў памеры 28 тысяч рублёў у месяц на адзін пакой.

## КАЛІ ПІЦЬ, ДЫК ПІЦЬ СОКІ

***Усім вядома, што натуральныя сокі вельмі карысныя для здароўя. Урачы раяць піць сокі пры многіх хваробах. Адкажыце, калі ласка, якія сокі пры якіх захворваннях дапамагаюць?***

**Н. ПІНЧУК,** *г. Мінск.*



Яблычны сок утрымлівае вітамін С, солі калію, магнію, фосфар, жалеза, яблычную і лімонную арганічныя кіслоты. Асабліва ён карысны дзецям і людзям з захворваннямі сардэчна-сасудзістай сістэмы, малакроўем, гастрытам з паніжанай кіслотнасцю.

Вінаградны сок утрымлівае вугляводы, якія лёгка засвойваюцца, арганічныя кіслоты, мінеральныя рэчывы (калій, кальцый, жалеза, магній, марганец), вітамін С і вітаміны групы В. Добра ўплывае на работу сардэчнай мышцы, воднасалявы абмен, аказвае паслабляльнае і мачагоннае дзеянне, карысны пры некаторых захворваннях нырак, печані, лёгкіх.

Маркоўны сок карысны перш за ўсё карацінам. Дапамагае ў выпадку пагаршэння зроку, якое звязана з недахватам у арганізме вітаміну А.

Дзякуючы таму, што маркоўны сок утрымлівае солі кобальту і жалеза, ён карысны пры малакроўі.

Таматны сок утрымлівае вітамін С, вітаміны групы В. Яго можна рэкамендаваць практычна ўсім.

Бульбяны сок у некаторых выпадках дапамагае пры язве, нармалізуе работу кішэчніка.

Гарбузовы сок, як і маркоўны, багаты карацінам. Ёсць у ім і солі калію, жалеза, вітаміны групы В. Гарбузовы сок карысны пры захворваннях сардэчна-сасудзістай сістэмы, нырак.

Шклянку свежага гарбузовага соку ў дзень рэкамендуюць тым, хто пакутуе ад ацёкаў.

## А Я Ў АРМІЮ ХАЧУ...

***Я хачу пайсці служыць у армію, аднак не ведаю, як туды трапіць. Ці служаць наогул дзяўчаты ў арміі? Ведаю, што ў Ізраілі жанчыны служаць два гады, а ў нас? Кім у нас служаць жанчыны, да якіх чыноў? Ці могуць дзяўчаты служыць, напрыклад, у ПДВ? Ці можна служыць не ў той вобласці, дзе жывеш?***

**Нэт ЛІТВІНСКАЯ,** *г. Гарадок.*

Як паведамілі карэспандэнту «Звязды» ў Галоўным штабе Міністэрства абароны, згодна з артыкулам 18 Закона «Аб агульным воінскім абавязку і ваеннай службе», у якім гаворыцца, што грамадзяне, якія адпавядаюць устаноўленым патрабаванням ваеннай службы, могуць ісці служыць у армію. У тым ліку і жанчыны ва ўзросце ад 19 да 35 гадоў, якія не маюць дзяцей. Жанчыны праходзяць службу не ў баявых падраздзяленнях (напрыклад, сувязь, медыцына). Існуюць тры катэгорыі пасад, якія могуць займаць жанчыны: афіцэр, прапаршчык, сяржант і салдат. Калі вы вырашылі пайсці служыць у армію, вам, па-першае, трэба звярнуцца ў ваенкамат. Там спецыялісты ўсё растлумачаць, раскажуць, дзе і кім у вас ёсць магчымасць несці службу, афармяць дакументы. Можна пайсці і іншым шляхам — звярнуцца адразу да камандзіра вайсковай часці, дзе вы хацелі б служыць. Калі ў яго знойдуцца свабодныя месцы, якія не забаронена займаць жанчынам, вам будзе прапанавана прайсці адбор. У выпадку станоўчых вынікаў праз ваенкамат афармляюцца пэўныя дакументы. Трэба будзе прайсці некалькі камісій, у тым ліку медыцынскую. Першапачатковы кантракт заключаецца на 2 гады, потым, пры ўзаемнай згодзе, на 3 гады і так да пенсіённага ўзросту (45 гадоў).

Кожнай пасадзе адпавядае воінскае званне. На сённяшні дзень у беларускай арміі служаць 4 тысячы жанчын сяржантаў і салдат.



## З ГРЫПАМ ТРЭБА ЗМАГАЦЦА

***Апошнім часам на Беларусі лютуе эпідэмія грыпу. На жаль, не заўсёды ўдаецца своечасова выявіць хваробу і звярнуцца да ўрача — грып, што называецца, з ног валіць. Як можна «разгледзець» надыход хваробы і якія сродкі для яе лячэння можна выкарыстаць у хатніх умовах?***

**В. ФІЛІПОВІЧ,** *Мінск.*

Калі вы дрэнна сябе адчуваеце, у вас дрыжыкі, дрэнны апетыт — варта насцярожыцца. Ну, а калі з'яўляюцца галаўны боль, сухасць у горле, тэмпература, шум у вушах, ломіць косці і мышцы, кашаль, пачырваненне вачэй, боль пры глытанні, цяжкае дыханне — вы ва ўладзе грыпу. Тэрмінова трэба легчы ў ложак, накрыцца, каб было цёпла, сагрэць ногі. Стварыце для сябе спакой і цішыню. Піце як мага больш гарачага: гарбаты, адвараў, настояў з мёдам, малінай, журавінамі, абляпіхай, лімонам. Есці трэба менш і ў асноўным раслінную ежу з вітамінам С (капусту, буракі, рэпу, рэдзьку і г. д.). Прамывайце насаглотку цёплай вадой з дабаўленнем некалькіх кропель ёдавай настойкі ці крышталікаў марганцавакіслага калію. Пры моцным ацёку насаглоткі можна прагрэць твар сіняй лямпай. Каб хутчэй перамагчы грып, не палянуйцеся некалькі разоў на дзень рабіць інгаляцыі. Для гэтага на 2 літры кіпеню вазьміце па сталовай лыжцы кветак рамонку, травы чабару і лісця шалфею, па 3 сталовыя лыжкі шыпулек ёлкі. У канцы твар памыйце халоднай вадой. Дапаможа лячэнню і наступная працэдура. Кожную раніцу бярыце ў рот сталовую лыжку алею і 2-3 хвіліны палашчыце ім поласць рота. Глытаць масла не трэба. Добра патрымаць у роце кавалачкі мядовых сотаў, грыба чагі, кавалачкі часнаку, бурака, рэдзькі, лісце алоэ. Гэтыя сродкі заб'юць мікробаў. Для ўжывання настояў унутр выкарыстоўвайце траву палыну горкага, святаянніку, мяты, лісце чорных парэчак, чарнічніку, крапівы, бруснічніку, трыпутніку, кветкі ліпы, карані валяр'яну і інш.

Гэтыя сродкі вам абавязкова дапамогуць, аднак не трэба ігнараваць і візіт да доктара.

## ЗЯЛЁНАЯ ГАРБАТА І... ЗАБУДЗЬЦЕСЯ ПРА КАРЫЕС

***Прыгожыя, здаровыя зубы — прыгожы твар, здаровы чалавек. Як захаваць зубы здаровымі, калі не карыстацца агульнавядомымі «Colgate» і «Blend-a-med»? Можа, існуюць якія народныя сродкі?***

**Андрэй В.** *г. Магілёў.*

Навукоўцы выявілі, што значную ролю ў захаванні зубоў адыгрываюць не толькі фтор і кальцый, якія ў вялікай колькасці ўтрымліваюцца ў вышэйназваных зубных пастах, а і поліфенольныя злучэнні. Асабліва адно з іх — галакатэхін. Нядаўна японскія біяхімікі ўпэўніліся ў тым, што гэта рэчыва ў вялікай колькасці ўтрымліваецца ў настоі зялёнай гарбаты, якая замаруджвае рост і размнажэнне мікраарганізмаў, што разбураюць зубную эмаль. Калі пасля кожнага прыёму ежы вы будзеце выпіваць кубачак зялёнай гарбаты, гэтым самым вы поўнасцю абароніце свае зубы ад разбурэння. Аднак гэта «вынаходка» не была нечаканай, яшчэ старая японская прымаўка сцвярджала: «Зялёная гарбата ачышчае рот»

## ЭКСПАРТУЕМ УСЁ МЕНШ

**Я дзесьці чытаў, што, напрыклад, у 1990 годзе каля 3/4 прадукцыі, якая выраблялася ў рэспубліцы на буйных прадпрыемствах, рэалізоўвалася за яе межамі. Так, тых жа трактароў ішло за межы рэспублікі крыху больш за 95 працэнтаў. Як у гэтым сэнсе ішлі справы летась?**

**Алесь ТАРАСАЎ**, *Мінск.*

Безумоўна, экспарт важнейшых відаў прадукцыі нашых прадпрыемстваў знізіўся, як і вытворчасць. Калі меркаваць па даных, якія ў нас маюцца на сённяшні дзень, за студзень—верасень мінулага года, у параўнанні з тым жа 1990 годам, экспарт важнейшых відаў прадукцыі значна ўпаў. Некалькі канкрэтных лічбаў. Так, напрыклад, калі весці гутарку аб трактарах, то ў 1990 годзе іх за межы рэспублікі было рэалізавана 96,3 тысячы штук, а за 9 месяцаў мінулага — 21,1 (29,21 працэнта). Грузавых аўтамабіляў за 1990 год на экспарт пайшло 38,3 тысячы, у мінулым — 5,7 тысячы (19,85 працэнта), станкоў металарэзных — адпаведна 13 тысяч і 2,3 тысячы (23,59 працэнта), шын — 2.697 тысяч і 421 тысячу (20,81 працэнта), калійных угнаенняў — 4.016 тысяч тон і 1.870 тысяч тон (62,08 працэнта), халадзільнікаў і маразільнікаў бытавых — 621 тысяча і 385 тысяч штук (75 працэнтаў), тэлевізараў — 1.006 тысяч штук і 119 тысяч штук (15,77 працэнта), веласіпедаў — 620 тысяч і 100 тысяч (24,51 працэнта).

## ЦІ ЎБАЧЫМ МЫ, НАРЭШЦЕ, КАНЕЦ «САНТА-БАРБАРЫ»?

**«Паважаная рэдакцыя! Можа, гэта і несур'ёзнае пытанне, але мяне цікавіць, ці доўга яшчэ мы будзем глядзець серыял «Санта-Барбара»? Мяне вельмі турбуе лёс герояў карціны.**

**Аляксандра КАЖЭЎНІКАВА,** *г. Маладзечна.*

У Злучаных Штатах трансляцыя гэтага фільма пачалася 30 ліпеня 1984 года і завяршылася 28 студзеня 1993-га на 2140-й серыі. Гэта адзін з самых працяглых і дарагіх фільмаў у гісторыі канала Эн-Бі-Сі. Здымкі адбываліся ў Лос-Анджэлесе, Парыжы, Лондане і нават Маскве і абышліся яго стваральнікам у 350 мільёнаў долараў.

На экранах РТБ серыял упершыню з'явіўся 4 студзеня 1992 года, аднак чамусьці толькі з 237-й серыі. Калі расійская тэлерадыёкампанія і далей будзе працягваць паказ серыяла такімі чарапашымі тэмпамі, то апошнюю серыю мы маем шанц убачыць толькі ў 2006 годзе. Не ведаем, як наконт 2006 года, але на працягу 1996-га паказ фільма па каналу РТР забяспечаны.

Вельмі вялікую папулярнасць мае серыял і ў іншых краінах. Напрыклад, у Францыі, у час паказу фільма, па ўсёй краіне стыхійна былі створаны клубы «фанатаў» серыяла і нават таталізатары, аматары якіх біліся аб заклад наконт далейшага развіцця сюжэта. Французы закідалі здымачную групу мяхамі пісьмаў, дзе патрабавалі неадкладна пажаніць Круза і Ідэн. І калі колькасць гэтых пасланняў пераваліла за сто тысяч, аўтары капітулявалі. Гэта быў першы выпадак у гісторыі амерыканскага тэлебачання, калі сцэнарый фільма быў зменены па просьбе замежных гледачоў.

Факт застаецца фактам: у Краіне і Босніі ў час паказу чарговай серыі фільма баі спыняліся. А галоўным фанатам серыяла быў не хто іншы, як маршал Франьё Туджман, харвацкі лідэр.

А вось у самой Амерыцы серыял доўгі час папулярнасці не меў і стабільна займаў месцы ў канцы тэлерэйтынгаў. На думку большасці амерыканцаў, фільм быў вельмі зацягнуты. І хто ведае, як бы склаўся ў далейшым лёс гэтай карціны, калі б не... Рональд Рэйган, тагачасны прэзідэнт ЗША. Будучы чалавекам сталага ўзросту, ён любіў глядзець «мыльныя оперы». І вось аднойчы, уключыўшы тэлевізар у Авальным кабінеце Белага дома, Рэйган убачыў на экране сваю старую знаёмую — актрысу Луізу Сарэль у ролі сляпой Аўгусты Локрыдж. Прычым іграла яна сваю ролю настолькі натхнёна, што Рэйган паверыў у рэальнасць яе слепаты. Ён адразу ж накіраваў актрысе тэлеграму са словамі душэўнай падтрымкі: «Шкадую аб тваім цяжкім захворванні. Усімі думкамі і пачуццямі з табой. Рональд Рэйган». Можна ўявіць сабе збянтэжанасць Луізы Сарэль, калі адной цудоўнай раніцай яна атрымала нечаканую тэлеграму, а затым на яе вілу наляцела цэлая брыгада акулістаў.

Аб гэтым кур'ёзе тут жа даведаліся амерыканскія журналісты, і назва фільма застракацела на першых старонках газет побач са словамі прэзідэнта: «У Санта-Барбары акцёры іграюць настолькі выдатна, што могуць увесці ў зман каго хочаш!» Пасля такой рэкламы заінтрыгаваныя амерыканцы кінуліся да сваіх «скрынак», і рэйтынг да таго мала вядомай карціны стаў імкліва расці.

## «ТРУД И РЫНОК» ШУКАЙЦЕ Ў КІЁСКАХ «САЮЗДРУКУ»

***Паважаная рэдакцыя! У вашай газеце прачытала інфармацыю «Шмат беспрацоўных, але ёсць і работа». Там паведамляецца пра газету «Труд и рынок», якая змяшчае адрасы гаспадарак, дзе патрэбны спецыялісты. Дзе можна купіць газету? А можа вы напішаце адрасы гэтых гаспадарак?***

**КІРЫЛОВІЧ Т. І.**, *Столінскі раён.*

У рэдакцыю прыходзіць шмат пісьмаў з такой жа просьбай. Калі ласка, прабачце, але надрукаваць гэты спіс мы не маем магчымасці. Раім усім, каго цікавіць інфармацыя аб працоўных месцах, звяртацца ў першыя дні кожнага месяца ў кіёскі «Саюздруку» — газета «Труд и рынок» распаўсюджваецца праз гэтую службу і выходзіць 1 раз у месяц. Кошт нумара мізэрны — 500 рублёў. Як паведамілі нам у рэдакцыі гэтай газеты, у наступным нумары зноў будзе змешчана інфармацыя аб прадастаўленні работы і жылля ў гаспадарках рэспублікі, графікі перападрыхтоўкі беспрацоўных, звесткі пра вакансіі на прадпрыемствах рэспублікі.

**Выпуск пытальніка падрыхтавалі: Жанна КАТЛЯРОВА, Сяргей ПРОТАС, Анатоль СЛАНЕЎСКІ, Ігар ШЧУЧЭНКА.**

*Аляксандр ДУБКО:*

# «ВЯЛІКАГА ЗАДАВАЛЬНЕННЯ ЗРОБЛЕНЫМ НЯМА. АДНАК БУДЗЕМ ХОЦЬ ТРОХІ КАЛІ НЕ ХВАЛІЦЬ, ДЫК ХОЦЬ БЫ НЕ ЗНЕВАЖАЦЬ СЯБЕ»



***Звыш двух дзесяцігоддзяў Аляксандр Дубко ўзначальваў адну з самых знакамітых гаспадарак рэспублікі — «Прагрэс». І вось ужо трохі больш за год ён у новым «крэсле» — старшыні Гродзенскага аблвыканкома. Рабочы дзень «галоўнага вертыкальшчыка» Прынёманскага краю працягваецца не менш як 14 гадзін. У «Прагрэсе» такога напружання не было. За столькі гадоў Дубко дасканальна вывучыў людзей, а яны — сваю задачу. «Штрышок» ці «штуршок» з боку старшыні — гэтага было дастаткова. Але вобласць — не калгас.***

**— Аляксандр Іосіфавіч, ці звязвае вас цяпер нешта з «Прагрэсам»?**

— А я і не пакідаў яго. Агульны сход гаспадаркі камандзіраваў мяне на час выканання ўказа Прэзідэнта. Гэта не значыць, што я тут, у выканкоме — дачаснік. Аднак у мяне ў «Прагрэсе» ёсць уласнасць, пай, які я зарабіў за доўгія гады, з'яўляюся заслужаным калгаснікам. Да таго ж і жыву я па-ранейшаму ў Верцялішках.

**— Ці адкрылася вам на новай пасадзе тое, аб чым вы раней не ведалі альбо толькі здагадваліся?**

— Безумоўна. Я, шчыра кажучы, не думаў, што ў прамысловасці шмат кіраўнікоў слабых. Калісьці быў план — пад яго ўсё адпускалася, усё было распісана. І многія кіраўнікі з уваходжаннем у рынычныя адносіны прама-такі разгубіліся. Няма ў іх камерцыйнай жылкі, напрацаваных сувязей. Сярод кіраўнікоў калгасаў і саўгасаў прадпрымальных людзей больш.

Як многа залежыць ад асобы любога кіраўніка, да мяне даходзіць толькі цяпер. З добрага можна хуценька зрабіць дрэннае, і наадварот. Таму пошук, расстаноўка кадраў — гэта мой штодзённы клопат.

**— Няўжо заўсёды трапляеце ў «дзесятку»?**

— Былі, безумоўна, і недахопы. Нявартых людзей у гэтай «вертыкалі» няма. А ёсць людзі, рабочы патэнцыял якіх невысокі. Спрабую гэты КПД павялічыць, але не ва ўсіх атрымліваецца. Таму ўжо развіталіся з першым намеснікам старшыні Карэліцкага райвыканкома, у бліжэйшыя дні будуць яшчэ дзве сур'ёзныя перастаноўкі.

**— Калі ўчарашні гаспадарнік становіцца дзяржаўным служачым, прычым такога высокага рангу, ці мяняюцца яго погляды, падыходы да тых ці іншых праблем?**

— Філасофскае пытанне. Калі чалавек не прайшоў іншыя стадыі, акрамя дзяржслужбы, ён не думае, можна выканаць яго заданне, ці не. Я гэта ацэньваю абавязкова і не магу аддаць невыканальнае распараджэнне.

**— Давайце пагаворым больш канкрэтна. Як старшыня калгаса, вы, наколькі вядома, стаялі за тое, каб гаспадаркі стварылі сваю мясаперапрацоўчую базу. Але цяпер, як кіраўнік вобласці, вы ў адказе і за загрузку гарадскіх мясакамбінатаў. Напэўна, даводзіцца мяняць падыходы, лавіраваць?**

— Раней і цяпер, чым вышэй наша ўлада — тым «махавік» марудней круціцца, даходзіць да выканаўцаў. Я гэта бачыў і ў «Прагрэсе», але з маёй пасады цяжка было нешта змяніць. Таму па лініі дасягнення дабрабыту калектыву, які я ўзначальваў, і з гэтага пункту гледжання я рабіў правільна. А па-дзяржаўнаму — няправільна. І цяпер аб гэтым кажу. Бо лягчэй зрабіць адно прадпрыемства з найсучаснейшай тэхналогіяй, якое забяспечыць 100-працэнтную перапрацоўку сыравіны: бяры адтуль сваю прадукцыю (каўбасу ці сальцісон) і рэалізуй. Не, многія кіраўнікі будуюць цэлыя палацы, не ведаючы, што будуць тут вырабляць, бо слабакі ў тэхналогіі. А лепшыя прадпрыемствы прастойваюць. Гэта недзяржаўная палітыка. Таму цяпер я абавязкова гляджу: ці ведае чалавек, што ён робіць? Калі ён проста ўдарыўся ў моду — з гэтага нічога не атрымаецца, і ён толькі адцягвае сваё фіяска як кіраўніка.

**— Праз год што пераважае: задавальненне зробленым ці горыч ад няўдач?**

— Ведаеце, калі б вы аб гэтым спыталі паўгода назад, я сказаў бы: другое. Аднак пасля дзевяці месяцаў я неяк адчуў сябе ў «ролі» старшыні аблвыканкома, што я нешта магу зрабіць. Набягаюць думкі і дзеянні, якія ў пэўнай ступені дапамагаюць вырашэнню праблем вобласці.

**— Што ж можна аднесці ў актыў абласной выканаўчай улады?**

— Аб гэтым можна гаварыць і многа, і мала. Вялікага задавальнення сённяшнім станам эканомікі няма. Але будзем хоць трохі калі не хваліць, дык хоць бы не зневажаць сябе. Падзенне прамысловасці самае мінімальнае — крыху больш аднаго працэнта да ўзроўню папярэдняга года, тады як у цэлым па рэспубліцы будзе значна вышэй. Сельская гаспадарка: няхай мы не займаем тых пазіцый, якія займалі, але яна лепшая ў нашай краіне. І па збожжу, і па бульбе, і па цукровых бураках у нас вышэй працэнты выканання, а дзе-нідзе і перавыкананне дзяржзаказаў. Мы ўжо выходзім на ўзровень мясцовага планавання, прагназіруем, што атрымаем сёлета. Гэтыя прагнозы паказваюць, што ў сельскай гаспадарцы вобласць пойдзе ўгору. Стабілізуемся і ў прамысловасці, за выключэннем невялікай колькасці прадпрыемстваў, якім трэба рэзка памяняць сваю вытворчую праграму. Паглядзіце: лідскі завод «Нёман» быў пабудаваны для ваенных мэтаў. Цяжкае тут было становішча, аднак пасля перапрафілявання ён вырабляе аўтобусы і адчувае сябе значна больш упэўнена.

Я не сумняваюся, што 1996 год будзе лепшы за леташні. Думаю, перастанем лічыць ад зарплаты да зарплаты і хоць трохі адкладзём на святы.

**— На чым жа грунтуецца ваш аптымізм, на якіх рэформах?**

— Ведаеце, ёсць рэформы, якія ляжаць на паверхні. Скажыце, напрыклад, колькі мы будзем насіцца з дзяржгандлем? Ну, магчыма, адзін супермаркет і патрэбен дзяржаве. Але навошта ёй патрэбен магазін, дзе 11 спецыялістаў за 9 месяцаў далі ажно 3 ці 4 мільёны прыбытку? Як можна сёння гаварыць аб рэформах, калі грамадскае харчаванне, рэстараны Гродна далі за год 4 мільярды страт? Навошта іх трымаць дзяржаве? Давайце аддадзім іх, не заломліваючы шалёныя цэны, людзям, няхай працуюць. У першым паўгоддзі мы абавязкова рэфарміруем перапрацоўчую прамысловасць. Каб вы, я, трэці, здаючы сваё малако, былі акцыянерамі гэтага таварыства. Нам жа столькі штату не трэба будзе, столькі лабараторый, бо навошта кантраляваць самога сябе?

Вялікая рэформа — зямельная. Зямля павінна мець кошт. З дзяржаўнага фонду я выдзеліў бы працэнтаў 30 зямлі, каб яна была таварам. Ад гэтага самай працуючай частцы сялянства была б падтрымка ў руху наперад.

Немалой эканамічнай падмогай, калі атрымаецца, будзе стварэнне еўрарэгіёна «Нёман». Акрамя нас, тут бачацца Ольштын і Сувалкі (Польшча), паўночны захад Літвы, Калінінградская вобласць.

**— А ці не атрымаецца нешта падобнае на свабодную эканамічную зону з Аб'яднанымі Арабскімі Эміратамі, аб якой гадоў пяць назад было столькі шуму? Дзе яны, тыя інвестыцыі ад казачна багатых шэйхаў?**

— У выніку аказалася, што такой карпарацыі ў ААЭ няма, гэта быў злы жарт. Што датычыць еўрарэгіёна «Нёман», дык тут усё робіцца на ўзроўні міждзяржаўных кантактаў. У гэтым рэгіёне прадугледжваюцца крыху іншыя мытныя законы, не такі бюракратычны, як сёння, парадак афармлення і перавозкі грузаў, спрошчаная форма стварэння сумесных прадпрыемстваў на базе ўласнасці на зямлю. Патрабуецца таксама уніфікацыя шэрага падатковых пытанняў на тэрыторыі рэгіёна. Расійскі ўрад мае намер укласці сродкі ў будаўніцтва аўтадарог. Гэта вельмі сур'ёзны праект.

**— Але кантакты з замежжам, як вядома, далёка не заўсёды ўдалыя. Аб гэтым, у прыватнасці, сведчыць сумны вопыт СП «Надзея», якое шмат чаго абяцала. І што ў выніку?**

— Спачатку ў цэлым аб стварэнні сумесных прадпрыемстваў. Нам трэба мяняць заканадаўства. Нядаўна на сустрэчы з нашымі новаабранымі дэпутатамі парламента я прасіў іх завастрыць гэта пытанне. Цяпер СП ствараюцца з пералікам усякіх бачных і нябачных работ, іх дзесяткі. Прычым, як правіла, гэта прадпрыемства не вырабляе тавар, а толькі займаецца «купляй-продажам». Такім чынам, мы не ствараем новых рабочых месцаў. Лічу, што трэба закладваць для СП не больш як 3-4 віды дзейнасці.

Што датычыць «Надзеі». Я з самага пачатку бачыў бесперспектыўнасць яе стварэння. Меркавалася за кошт укаранення замежнай тэхналогіі на 30 працэнтаў павялічыць ураджайнасць цукровых буракоў. А з гэтай прыбаўкі браць палову цукрам і такім чынам разлічвацца за крэдыт. Не атрымалася. У перадавых гаспадарках гэта тэхналогія была адпрацавана яшчэ да прыходу сюды асноўнага заснавальніка СП, былога старшыні калгаса з Германіі. Дарэчы, сваіх сродкаў ён не меў, кансультантам з'яўляцца не мог. СП пацярпела крушэнне, яно неплацежаздольнае. Ідзе цяжба, і я думаю, што дзяржава будзе пагашаць доўг «Надзеі», а гэта ўжо 18,5 мільёна нямецкіх марак. Гэта адзін з прыкладаў няведання законаў эканомікі, няўмення выходзіць на рынак і шукаць партнёраў.

**— Ад рашэнняў старшыні аблвыканкома многае залежыць. Ці даводзілася сутыкацца з даволі сумніўнымі спробамі атрымаць вашу прыхільнасць?**

— Так, былі спробы, вялікія і малыя, асабліва калі я прыйшоў на гэту пасаду. Але цяпер, здаецца, я ўжо ўвайшоў у курс справы. І цяпер з пытаннем непадрыхтаваным альбо з пытаннем, якое дае выгаду пэўным асобам, заходзяць намнога радзей.

**— Назіраеце вакол сябе ліслівасць, падхалімаж, звязаныя з вашай пасадай?**

— І гэта ёсць. Я вельмі не люблю людзей, якія паддобрываюцца. Мне падабаюцца разумныя, старанныя.

**— За прайшоўшы год у выканаўчай улады з'явілася больш «рычагоў», каб уздзейнічаць на злачыннасць і карупцыю, ці не?**

— Па-мойму, заканадаўства адносна барацьбы са злачыннасцю і карупцыяй не змянілася. Буду шчыры: мяне вельмі трывожыць той факт, што амаль усюды, дзе мы сур'ёзна ўнікаем у справы прадпрыемстваў і арганізацый, карумпавана менавіта кіраўніцтва. І ў мяне ёсць прадчуванне, што наперадзе нас чакае яшчэ шмат, мякка кажучы, нядобрага.

**— Ці валодаеце вы дакладнай інфармацыяй аб працэсах, якія адбываюцца ў крымінальнай «галіне» жыцця вобласці?**

— Так, у сваёй штодзённай дзейнасці мне падсправаздачныя і міліцыя, і пракуратура, і КДБ, і суды. Чым валодаюць яны — тым валодаю і я. На падставе гэтай інфармацыі ацэньваецца дзейнасць кадраў, адбываюцца перастаноўкі. Але інфармацыя недастатковая. Да таго ж, здараецца, што ў вышэйпамянёных працэсах праяўляецца ўдзел людзей, якія валодаюць гэтай інфармацыяй. Зноў жа, усё залежыць ад падбору кадраў.

**— Якія надзеі ўскладаеце на новы Вярхоўны Савет?**

— Мне складана меркаваць у цэлым, але некаторых парламентарыяў я ведаю. Лічу, што ім будзе вельмі складана. Аднак без надзеі на лепшае цяжка было б жыць. Час пакажа. Праўда, на мой погляд, мала дэпутатаў, прынамсі, ад Гродзеншчыны (толькі 4) жадае працаваць на пастаяннай аснове. Хаця для таго, каб ствараць законы, трэба вельмі многа і ўпарта працаваць.

**Гутарку вёў Барыс ПРАКОПЧЫК.**

# ПЕРАМАГЛА КАНСАЛІДАЦЫЯ ПАРТЫЙНЫХ ФРАКЦЫЙ

**ПАДЗЕЯ № 1 НА ГЭТЫМ ТЫДНІ — ПАЧАТАК ПРАЦЫ ВЯРХОЎНАГА САВЕТА XIII СКЛІКАННЯ І АБРАННЕ СТАРШЫНІ ВЯРХОЎНАГА САВЕТА СЯМЁНА ШАРЭЦКАГА.**

**Ацэньваючы ў цэлым пачатак працы новага парламента, можна зазначыць, што ён праявіў сябе даволі канструктыўным, кампрамісным і прагназіруемым. Ніякіх нечаканасцей, апроч хіба самаадводу В. Кебіча, не адбылося, ніхто не быў сур'ёзна пакрыўджаны, перагаворы паміж фракцыямі вяліся ў межах прыстойнасці. А ў нейкі момант, калі пасля першага тура галасавання фракцыі вырашылі падтрымаць адзіную кандыдатуру, каб увогуле не застацца без спікера, ва ўчынках дэпутатаў адчуліся нават ноткі высакароднасці: лідэр камуністаў Сяргей Калякін наступіў, што называецца, на горла ўласнай песні і заклікаў галасаваць за свайго канкурэнта, а С. Багданкевіч зазначыў, што ў выпадку, калі С. Калякін здыме сваю кандыдатуру і ў выніку нейкіх юрыдычных калізій сапернікам С. Шарэцкага ў другім туры стане ён (Багданкевіч), то і ён здыме сваю кандыдатуру на карысць Шарэцкага. Гэтыя шырокія жэсты ў мэтах кампрамісу дзеля агульнай справы падкрэслілі канструктыўныя падыходы фракцый у адносінах паміж сабою і растапілі першыя прыметы недаверу паміж імі, што значна аблегчыць далейшае іх супрацоўніцтва.**

Ход і вынікі выбараў Старшыні Вярхоўнага Савета паказваюць, што новы парламент вельмі адрозніваецца ад папярэдняга. Ён больш арганізаваны, структураваны і ў цэлым больш кіруемы. Па адной галоўнай прычыне: новы Вярхоўны Савет складаецца з фракцый, прычым большасць дэпутатаў належыць да фракцый канкрэтных палітычных партый. Гэта атрымалася нягледзячы на мажарытарную выбарчую сістэму, што сведчыць аб прызнанні нашым грамадствам прынцыпу партыйнага прадстаўніцтва яго інтарэсаў.

10 студзеня пры абранні Старшыні Вярхоўнага Савета выразна адчувалася саперніцтва фракцый палітычных партый і беспартыйных дэпутатаў. Апошнія аб'явілі аб фарміраванні сваёй фракцыі «Згода», аднак да згоды яны пакуль што не прыйшлі, бо рэальна за вылучанага імі кандыдата В. Кебіча пры рэйтынгавым галасаванні ў фракцыі выказалася 40 дэпутатаў і роўна сорак галасоў было супраць усіх прэтэндэнтаў на спікерскае крэсла, калі В. Кебіч зняў сваю кандыдатуру. Лідэр жа «Згоды» У. Грыгор'еў дэкларуе колькасць членаў фракцыі каля 70... Такім чынам, у выніку саперніцтва паміж згрупаванымі партыйнымі фракцыямі і фракцыяй беспартыйных перавага аказалася на баку першых.

Адбылося гэта ў немалой ступені дзякуючы таму, што знайшлася кампрамісная кандыдатура Сямёна Шарэцкага, якую падтрымалі і камуністы, і сацыял-дэмакраты, і лібералы. Сцэнарый, калі ў выніку супярэчнасцей паміж фракцыямі і агульнай дэмаралізацыі давялося б праводзіць паўторныя выбары і на якіх больш шанцаў было б у беспартыйнага вылучэнца ад «Згоды», застаўся неразыграным. Але ад яго аддзяляла Вярхоўны Савет усяго дзевяць галасоў — менавіта на столькі больш мінімуму набраў С. Шарэцкі. Тым не менш, новаабранаму старшыні давядзецца ў далейшым лічыцца і з тымі 88 дэпутатамі, што галасавалі супраць яго. Гэта нямала, і гэта, дарэчы, прыблізна роўна колькасці беспартыйных у парламенце. Хаця, вядома, нельга адназначна казаць, што за С. Шарэцкага галасавалі фракцыі партый, а супраць — беспартыйныя. Ёсць падставы, якія дазваляюць паставіць пад сумненне такую спрошчаную фармулёўку. Напрыклад, пасля таго, як вылучэнец сацыял-дэмакратаў Пётр Краўчанка гучна зняў сваю кандыдатуру на карысць Сямёна Шарэцкага паводле рашэння сваёй фракцыі, што мае паўтара дзесятка мандатаў, колькасць галасоў за апошняга склала 51, або толькі на чатыры перавысіла колькасны састаў уласна аграрнай фракцыі. Малавата. Хоць можна паспрабаваць вытлумачыць гэта тым, што не ўсе аграрнікі галасавалі за Шарэцкага, што таксама верагодна, але не ў такой жа ступені. Тым не менш, учынак Пятра Краўчанкі меў сэнс для агульнага ходу абрання спікера, можа адзін голас менавіта таго ж Краўчанкі стаў рашаючым для перавагі С. Шарэцкага над С. Калякіным, якія набралі адпаведна 51 і 50 галасоў, і для спрацоўвання на карысць лідэра аграрыяў папярэдніх міжфракцыйных дамоўленасцей аб агульнай падтрымцы таго кандыдата, які набярэ больш галасоў.

Акрамя іншага ўчынак Пятра Краўчанкі паказаў, што пакуль не рэалізоўваецца супрацоўніцтва ў парламенце сацыял-дэмакратаў і членаў Аб'яднанай грамадзянскай партыі, якое чакалася і здавалася верагодным. Усё ж ёсць паміж гэтымі дзвюма фракцыямі пэўныя калізіі, у тым ліку і з-за «перабежчыкаў» Г. Карпенкі і В. Ганчара, якія пакінулі пасля расколу Партыю народнай згоды і ўвайшлі ў Аб'яднаную грамадзянскую партыю. Апошняя ўпэўнена набірае ачкі і паступова перамагае сацыял-дэмакратаў у негалосным саперніцтве за нішу дэмакратычнай фракцыі ў парламенце. Далучыўся да лібералаў і такі вядомы палітык, як С. Шушкевіч, які спачатку выказваў сімпатыі сацыял-дэмакратам з Грамады. Яшчэ больш умацавалі фракцыю лібералаў вынікі галасавання за кандыдатуру Станіслава Багданкевіча, якога падтрымалі 38 парламентарыяў, што прыкладна ўдвая больш таго, на што ён сам разлічваў. Гэта несумненны поспех С. Багданкевіча, які ўмацоўвае яго асабістую вагу і значэнне яго фракцыі, якая цяпер рэальна можа разлічваць і на прадстаўніцтва ў кіраўніцтве Вярхоўнага Савета. Зразумела, што пры такой сітуацыі якраз фракцыі будуць дзяліць партфелі, праводзячы кансультацыі з новым старшынёй. Відавочна, што атрымаюць важнейшыя пасады прадстаўнікі менавіта партыйных фракцый. Аднак ці змогуць яны зусім праігнараваць беспартыйных, у тым ліку тых, якія прадстаўлены ў «Згодзе»? Відаць, не, аднак шанцы апошніх ужо не бачацца пераважнымі.

Увогуле, у сённяшнім парламенце ўжо нецікава быць беспартыйным, адзіночкам, не ўяўляе ранейшай сілы і класічнае «балота» без еднасці і дысцыпліны, таму верагодна, што, у рэшце рэшт, з сённяшняй фракцыі «Згода» частка дэпутатаў разыдзецца па партыйных аб'яднаннях, а частка выкрышталізуецца ў прапрэзідэнцкую групу, адзіным стымулам існавання якой будзе падтрымка ў парламенце пазіцый Прэзідэнта. І колькасна яны здольны гэта будуць рабіць тады, калі Прэзідэнт не падпіша нейкі закон і яго прыйдзецца прымаць ужо не паловай, а дзвюма трацямі ад саставу парламента.

Але гэта ўжо сцэнарыі на бліжэйшую будучыню. Сёння ж можна адназначна сказаць, што ў калізіі паміж прынцыпамі партыйна-фракцыйнага і карпаратыўна-рэгіянальнага фарміравання структуры Вярхоўнага Савета верх бярэ першы прынцып. Грамадству ён больш выгадны, бо ён больш адкрыты, адказны і прагназіруемы, чым карпаратыўны.

**Валер КАЛІНОЎСКІ.**

# СУБ'ЕКТЫЎ



*Што і казаць, жыццё наша цяжкае, нейкае незразумелае, заблытанае. Усё неяк атрымліваецца ў нас не па-людску. Здаецца, і жаданне ёсць, а вось руху наперад няма. Праўда, у адваротным змены назіраюцца: мы сталі больш нецярпімымі адзін да аднаго. Звярніце ўвагу, як агрэсіўна змагаемся мы за месца ў перапоўненым трамваі, амаль раўнадушна адносімся да працы (за такую зарплату?), да хрыпаты «абмяркоўваем» з хатнімі лавіны законаў, пастаноў і цэн, нязменна ва ўсіх упамянёных сітуацыях лаем урад. Але за ўсім гэтым нярэдка забываем: жывём мы ў гістарычны час! Гэта асабліва заўважна ў час камандзіровак, калі, як вядома, бывае шмат сустрэч з людзьмі неардынарнымі, цікавымі. А можа, гэта проста зямныя чалавекі, якім ёсць з чым і з кім параўнаць? Пагаворыш з імі — і лішні раз пераканаешся, хочам мы гэтага ці не хочам (хутчэй не хочам!), але наведалі мы «гэты свет» у рэвалюцыйную эпоху, у час ужо другога за стагоддзе сацыяльна-эканамічнага крызісу. Дарэчы, у большасці сваёй мы не думаем такімі высокімі паняццямі, для нас галоўнае, каб была праца, адпаведны заробак і спакой...*

*У маіх спадарожнікаў у фірменным цягніку «Звязда» Мінск—Санкт-Пецярбург тады быў такі ж настрой. Як заўважыў адзін з іх: «Спакой нам толькі сніцца...» А сніцца, на думку людзей, малапрыемнае, а калі-нікалі нават і страшнае. І зноў, як ужо не раз было ў нашай гісторыі, чуецца: «Толькі б не вайна!» Але цяпер мы баімся не імперыялістычных агрэсараў, а вайны грамадзянскай. Страшна... Не ведаеш, што рабіць, куды бегчы.*

## Кожны павінен клапаціцца пра сябе сам. І не на мітынгах. Толькі тады мы станем больш здаровым, а не «блазнаватым» грамадствам



— Быў час, калі я бег на мітынг, — прызнаўся Васіль Іванавіч Назаронак, рабочы аднаго з мінскіх прадпрыемстваў, які ехаў у Пецярбург да родзічаў. — Я сапраўды думаў, што гэта свабодная трыбуна, што там можна выказацца. Аднойчы нават памкнуўся да мікрафона, але мяне не пусцілі. Я заўважыў, што на такіх масоўках выступаюць адны і тыя ж людзі, якія не слухаюць нікога, акрамя сябе. Крыўдна, але я зразумеў, што мною імкнуцца маніпуляваць.

**— І больш на мітынг вы не пайшлі?**

— А што там рабіць? Мітынг хлеба не дабавіць, не дасць вам нічога, акрамя азлобленасці. Іншая справа, вось амаль кожны месяц бываю ў Піцеры, вязу родзічам сёе-тое, нешта прадам, а за выручаныя грошы куплю долары ці нейкія рэчы, якія можна прадаць сваім знаёмым. Так і жывём.

**— Добра жывяце?**

— Што і казаць: абрыдла. Не той ужо ўзрост. Хочацца стабільнасці, упэўненасці... Але бунтаваць я не буду. Гаварыльняй мы займаемся вось ужо дзесяць гадоў — а толку!

**— Але ж калі дрэнна, заўсёды хочацца да людзей...**

— Гледзячы да якіх. Да блізкіх, да сяброў — калі ласка. У мітынговы натоўп — не раіў бы, — спакойна, але сур'ёзна заўважыў наш сусед па купэ, які да гэтага ўважліва слухаў, доўга маўчаў. Як высветлілася, гэта быў вучоны, псіхааналітык з Пецярбурга, кандыдат псіхалагічных навук Міхаіл Рахлін. Слова за слова — і атрымалася ў нас цікавая размова.

— Паспрабую абгрунтаваць тое, што сказаў, — працягваў Міхаіл Міхайлавіч. — Павышаны неспакой, раздражняльнасць, паніжаны настрой, страх, эмацыянальная неўраўнаважанасць, парушэнне сну, пастаяннае пачуццё трывогі, аб якіх вы гаварылі як аб сацыяльнай з'яве, — усё гэта тыповы комплекс сімптомаў неўрозу.

Як гэта ўвязваецца з мітынгамі? Лічу, што асабістая справа кожнага — ісці на мітынг ці не ісці. Тым больш, што ён — адна з даволі частых з'яў у перыяд сацыяльных катаклізмаў. Пачатак сур'ёзнага вывучэння гэтай з'явы адносіцца яшчэ да часоў Французскай рэвалюцыі. Пра гэта пісалі Ле Бон, Фрэйд. У навуцы гэты раздзел мае назву «псіхалогія мас», ці «псіхалогія натоўпу». А натоўп — гэта не проста сукупнасць людзей, гэта перш за ўсё якасна новы стан гэтых людзей. І ўсё, што адбываецца ў натоўпе, падпарадкоўваецца ўласным законам. Адным словам, чалавек у натоўпе перастае быць самім сабой і ператвараецца ў своеасаблівы «аўтамат», да таго ж — «блазнаваты».

**— Якім хтосьці кіруе, якога правакуюць на процістаянне дзяржаве?**

— Не абавязкова, каб хтосьці кіраваў. Васіль Іванавіч, — звярнуўся Міхаіл Міхайлавіч да Назарэнкі, — скажыце, ці не адчувалі вы на мітынгу з'яўлення ўсведамлення асабістай магутнасці, ці не ўзнікала ілюзіі ананімнасці ўсяго таго, што адбывалася, ці не ўзмацнялася псіхічная заразлівасць і ўнушальнасць?

**— Калі шчыра казаць, то нейкую сваю магутнасць я адчуваў. Мне здавалася, што мы разам — сіла, — прызнаўся Васіль Іванавіч.**

— Вось-вось. Менавіта пад уздзеяннем гэтых фактараў як бы здымаюцца культуральныя забароны і разнявольваюцца заглушаемыя культурай інстынкты — перш за ўсё агрэсіўнасць і сексуальнасць. Як правіла, на мітынгах не думаюць пра паляпшэнне жыцця, там больш лаюць, выкрываюць і г. д.

**— Але ж ёсць нейкі кантроль? Вось Васіль Іванавіч хадзіў раней на мітынгі, цяпер — не ходзіць. Як растлумачыць гэта — сумленне загаварыла?**

— Сумленнасць таксама паняцце культуральнае, дакладней — чалавечае і набытае, а ў многім сумленне — гэта страх асуджэння соцыумам майго ўчынку. Але, што б ні рабіў натоўп, гэта «не я, гэта ўсе мы» — і ніхто канкрэтна. Мы наогул моцна ідэалізавалі калектыў і калектыўную свядомасць. Калектыўная свядомасць лёгка набывае ілюзію бязгрэшнасці і схільнасць да крайнасцей — груба кажучы, калектыў нярэдка значна дурнейшы за асобнага чалавека.

**— Міхаіл Міхайлавіч, што вы гаворыце, нас жа заўсёды выхоўвалі ў калектывісцкім духу!**

— Прывяду прыклад. Вы, здаецца, казалі, што некалькі разоў былі на пасяджэннях Вярхоўнага Савета СССР. Успомніце тады выступленні Андрэя Сахарава. У адказ на яго слова чуліся і свіст, і тупат, і заклікі «гнаць!» Вось вам феномен масавай свядомасці. Я перакананы, што 99 працэнтаў гэтых людзей ніколі не дазволілі б сабе такіх паводзінаў індывідуальна. А ў натоўпе — можна.

**Некалькі гадзін мы абмяркоўвалі гэту новую, але вельмі актуальную для нас, тэму мітынгаў. Размова забылася. Але напярэдадні Новага года пазваніў Міхаіл Міхайлавіч Рахлін. Павіншаваў са святам.**

— Жадаю вашаму народу дабра, спакою, каб усе канфліктныя пытанні, як і да гэтага ў Беларусі, вырашаліся разумна за сталом перагавораў, — падкрэсліў Міхаіл Міхайлавіч.

**— А чаму вы пра гэта загаварылі? — запытаўся я ў вучонага.**

— Мае знаёмыя з Мінска паведамілі, што вашы прафсаюзы рыхтуюць нейкія акцыі пратэсту (цяпер гэта пытанне знята з парадку дня, таму што ўрад у асноўным выканаў патрабаванні прафсаюзаў. — **Ул. А.**). Думаю, што гэта беспадстаўна, не так ужо ўсё і дрэнна ў вас, каб бунтаваць людзей. Хачу перасцерагчы ад распальвання спрэчак.

**Мне было цікава прадоўжыць размову, пачатую некалькі месяцаў назад, і я папрасіў Міхаіла Міхайлавіча даслаць мне свае думкі па некаторых пытаннях, што ён і зрабіў.**

**— Кожны разумны чалавек зможа процістаяць мітынгам і не пойдзе на вуліцы?**

— Мяркую, што толькі да вызначаных межаў, — канстатаваў ён. — Псіхічная заразлівасць — гэта як грып. Кожны раз новы тып віруса — і ні ў кога няма імунітэту. Чым большая скучанасць, чым большы натоўп, тым большая верагоднасць развіцця «эпідэмічнага» працэсу... Практыка паказвае, што псіхічная заразлівасць, памножаная на ўнушальнасць, прыводзіць да развіцця абсалютна гіпнатычных эфектаў: увесь Іран стаяў на каленях перад Хамейні, кубінцы па 5-6 гадзін без перапынку слухалі прамовы Фідэля. А мы, «савецкія», чаму і каму яшчэ зусім нядаўна крычалі «ўра» і «няхай жыве!»?

Не магу не адзначыць і такую акалічнасць. Цікава, што найбольшую папулярнасць набываюць далёка не самыя разумныя лідэры, а тыя, чые лозунгі простыя і зразумелыя (як правіла, малакампетэнтнаму натоўпу), і тыя, чые абяцанні, незалежна ад іх выканальнасці ці невыканальнасці, адпавядаюць унутраным жаданням слухачоў. Вядома, што натоўпу зусім не патрэбна ісціна, ён прагне ілюзій, перш за ўсё шчасця, любові, улады, дастатку. Нічога гэтага на мітынгах не раздаюць, але ніхто пра гэта і не думае. Розум «у цяньку», «працуюць» эмоцыі, і асабліва тыя, што заціскаліся: злосць да канкрэтных ці гіпатэтычных апанентаў, у якіх, як здаецца, усё гэта ёсць і ў якіх усё гэта хацелася б забраць. Прыглушаныя эмоцыі — гэта наогул «міна запаволенага дзеяння». А эмоцыі, якія мы заціскаем цяпер (вы іх назвалі ў ранейшай нашай размове) — далёка не лепшай уласцівасці.

**— Сапраўды сумна. І ўсё ж... Без Кашпіроўскага мы, здаецца, навучыліся абыходзіцца. Але мітынгі? Бываюць жа сітуацыі, калі ўхіліцца ад іх — значыць здрадзіць сабе.**

— Пазітыўныя прыклады масавых паводзінаў у гісторыі ўсё ж адзінкавыя. І сустракаюцца яны толькі тады, калі рух мас ставіць перад сабой высокую мэту, а ўзначальваюць яго лідэры з высокай ступенню сацыяльнай адказнасці. Паўтару: такіх прыкладаў мала. Часцей жа лідэры ў той жа ступені нікчэмныя, як і праследуемыя імі мэты. Але ў любым выпадку — і пазітыўным, і негатыўным — усё роўна рэалізуюцца псіхалагічныя феномены натоўпу.

**— Канешне, ад мітынгаў сала не прыбавіцца. І ўсё ж штосьці цягне людзей у натоўп, хоць усе і падазраюць нейкую небяспечнасць?**

— Пошук задавальнення — вось што вядзе туды людзей. Дзіўна? Але гэта так. Такое пачуццё з'яўляецца як ад ужо ўпамянёнага ўсведамлення асабістай магутнасці, так і ад ілюзіі эмацыянальнага яднання хоць бы з малазнаёмымі людзьмі, якога ўсім нам не хапае. Дарэчы, за гэтым жа ідуць людзі на стадыён, хаця па тэлевізары і мяч, і асабліва шайбу бачна куды лепш.

Ёсць яшчэ адна прычына. Звязана яна з гіпнатычнымі эфектамі даўгачаснага паглыблення ў своеасаблівы «свет дзіцячых фантазій», якія як бы дапамагаюць «пераадольваць» цяжкасці: «вось пераб'ём усіх буржуяў — і настане шчаслівае жыццё». І верылі ж. І перабілі. І білі шчыра, што самае страшнае.

Мае шматгадовыя даследаванні паказваюць, што натоўп — наогул з'ява даволі супярэчлівая: шчырасць ілжывых эмоцый, поўная адсутнасць імкненняў да асабістай выгады суседнічае ў ім са схільнасцю да крайнасцей і амаль варварскай жорсткасцю. А мы, калі крыху абагульніць, доўгі час жылі менавіта ва ўмовах масавай свядомасці, ва ўмовах натоўпу, дзе кожны быў толькі элементам масы.

**— Міхаіл Міхайлавіч, здаецца, вы пераканалі, цяпер буду абыходзіць такія зборышчы. Тым не менш, страх перад катастрофай, якая, здаецца, вось-вось пачнецца, усё роўна застаецца і праяўляецца не толькі ў натоўпе.**

— Вы маеце рацыю. Не толькі ў натоўпе, але, тым не менш, у самых тыповых формах масавай свядомасці. Напрыклад, у асобе так званага групавога эгаізму. Тыповы прыклад — забастоўка мінскіх метрапалітэнаўцаў. Праца ў іх сапраўды цяжкая, але ж цяпер такое становішча ў многіх. Да таго ж, калі браць іх зарплату, дык яна была значна больш высокай, чым у рабочых іншых прадпрыемстваў. А пенсіянеры, студэнты, урачы, настаўнікі?.. Думаеце, машыністы метро гэтага не разумелі? Цудоўна разумелі, але кожны паасобку. Карпаратыўная свядомасць дазваляе на гэта забыцца.

Прывяду яшчэ адзін прыклад. Як гэта ні б'е па пачуццю самапавагі, але больш за ўсё на свеце кожны чалавек любіць сябе. Прадбачу пярэчанні. Пагадзіцеся, што нават у дзецях ён любіць перш за ўсё сябе, свае нерэалізаваныя задумкі, свае звычкі, свае мары, свае рысы. Як вам вядома, чалавек нарцысічны па сваёй прыродзе. І гэтыя нарцысічныя асновы прысутнічаюць і ў масах, якія праяўляюцца ў форме так званага радавога міфа. Сутнасць яго коратка можна выкласці так: наш род — нацыя, народ — самы лепшы, і калі адбылося штосьці дрэннае, то гэта па віне не нашага роду, а іншага. Прычым радавы міф заўсёды «ажывае», калі становіцца менш ежы, прасторы для жыцця і г. д.

Мы абвінавачвалі раней ва ўсіх нашых бедах міжнародны імперыялізм. Але ён далёка. Да таго ж на ім свае эмоцыі не разрадзіш. А патрэбнасць у гэтым цяпер узрасла. Таму масавая свядомасць шукае «ворага» бліжэй. І з'яўляюцца паняцці: «іншародцы», «нашы»...

Вялікае шчасце, што ў вас у Беларусі няма такога падзелу. Але памятайце, што чым бліжэйшая роднасць народаў, тым больш шанцаў для праяў узаемнага адштурхоўвання, таму што любое адхіленне ад радавога ці нацыянальнага ідэалу (у абліччы, мове і нават дыялекце і перакананнях) успрымаецца ўжо як карыкатура, як шарж на нас, любімых. У гэтым прычына таго, што паўночныя немцы не любяць паўднёвых, англічане — шатландцаў, іспанцы — партугальцаў. Гэтым жа псіхалагічным феноменам у многім тлумачыцца армяна-азербайджанскі канфлікт. Хваробы, заснаваныя на радавым міфе, паражаюць нават лепшых прадстаўнікоў нацый. А наступствы і ўскладненні могуць быць самымі непрадказальнымі. Не дай Бог, каб «чорная кошка» перабегла паміж рускімі і беларусамі. Трывожна, але калі-нікалі такія праявы назіраюцца.

**— Вы намалявалі непрывабную карціну. Што ж рабіць?**

— Вельмі нямнога. Па-першае, калі мы гаворым аб прававой дзяржаве, дык давайце не правакаваць людзей парушаць законы, а значыць, процістаяць дзяржаве. У цывілізаваных краінах, напрыклад, да такога не даходзяць: транспартнікі, сувязісты не могуць караць большасць насельніцтва. А ў нас чамусьці можна проста некалькім дзесяткам нездаволеных грамадзян сесці на чыгуначныя пуці і заблакіраваць рух міжнародных паяздоў. Дарэчы, гэта было, здаецца, у Беларусі. Законнае пытанне: ці могуць гэтыя некалькі дзесяткаў адлюстроўваць жаданні ўсяго народа? Вось так. Не, канешне. Таму я параіў бы, каб кожны паспрабаваў задумацца і ўразумець: любая палітычная барацьба на ўзроўні мас — гэта ў значнай ступені дзейнасць ілюзіяністаў і маніпуляванне свядомасцю. Зразумейце правільна: як і што лепш зрабіць, няхай вырашаюць прафесіяналы — эканамісты, палітыкі, юрысты. І чым іх больш будзе ў розных Саветах, тым верагодней, што на іх рашэнні не будуць уздзейнічаць феномены масавай («неразумнай» і некампетэнтнай) свядомасці.

Прабачце, жыццё сапраўды цяжкае. Развальваюцца міфы. Хачу параіць вам разбурыць яшчэ адзін з іх: міф пра тое, што калектыў — гэта добра. Пагадзіцеся, чалавек па сваёй прыродзе індывідуаліст. Ён аб'ядноўваецца з іншымі людзьмі толькі таму, што яму гэта індывідуальна выгадна. А калі вы разбурылі ў сабе яшчэ адзін міф (гэта, шкада, не кожны зможа), то будзе зусім добра: пара забыцца пра тое, што дзяржава табе штосьці абавязкова дасць (кватэру, машыну, дачу). Акрамя пенсіянераў, яна ніколі не абавязана даваць проста «за так», а вось стварыць умовы для самарэалізацыі — павінна. Кожны павінен клапаціцца пра сябе сам. І не на мітынгах. Толькі тады мы станем больш здаровым, а не «блазнаватым» грамадствам.

**Матэрыял падрыхтаваў Уладзімір АНДРЫЕВІЧ.**

**У САМІМ СЛОВЕ «СКАРБ» ёсць нешта магічнае, прыцягальнае. Можа, нават астральнае. А чаму б і не? Вось і «Звязда» паддалася магічнаму прыцягненню, трапіла ў сіло пошуку скарбаў.**

**Пачынаючы друкаваць урыўкі з кнігі Міхаіла Бакуменкі «Па слядах скарбаў Беларусі», мы звяртаемся да чытачоў з прапановай не толькі шукаць скарбы на ўласным агародзе альбо дзесьці ў старадаўніх курганах. Як газета-«законніца», папярэджваем найбольш рухавую і лёгкую на пад'ём частку грамадства: не забывайцеся, беручы ў рукі вялікую сапёрную лапатку, што ёсць яшчэ і законы ў дачыненні да скарбаў, да саміх фактаў іх пошуку. А акрамя папярэджвання звяртаемся з просьбай: пашукайце скарбы і ў сваёй памяці. Мажліва, на працягу жыцця вам даводзілася нешта цікавае чуць не толькі пра золата, упрыгажэнні, прыхаваныя Радзівіламі альбо згубленыя Напалеонам. Мо ведаеце вы, што за таямніцу хавае ў сабе Французская Грэбля (ёсць жа такая на Міншчыне вёсачка)? Мо спакон веку пераходзіць ад аднаго да другога пакалення ў вашай сям'і легенда пра тое, што ж закапаў на сваім двары яшчэ напярэдадні Кастрычніка мясцовы пан? Цяпер, відаць, на той сядзібе стаіць калгасны свінарнік, а мо і няма яго...**

**Дык успамінайце, пішыце. Мажліва з вамі, чытачамі, мы разам і складзём анталогію народнага ўсебеларускага ведання пра нашы айчынныя скарбы.**

## Міхаіл БАКУМЕНКА.

# СКАРБЫ беларускіх магнатаў


Калаж Яўгена ПЯСЕЦКАГА.

З даўніх часоў на землях Беларусі пражывалі багатыя і знатныя сем'і княжацкіх радоў, дваран і шляхты. Некаторыя з іх славіліся тым, што збіралі рэдкія каштоўнасці, калекцыяніравалі мастацкія скарбы. Збіранне ў радавых замках, маёнтках усяго незвычайнага, рэдкага, каштоўнага, цікавага мела глыбокія карані і трывалыя традыцыі. Стварэнне рэдкіх тэматычных калекцый патрабавала вялікіх сродкаў і было па кішэні толькі вельмі багатым людзям, як іх называлі тады — магнатам.

У калекцыяніраванні, накапленні каштоўнасцей таілася рамантычная нецярплівасць пераўзысці людзей свайго круга. Паступова гэта перайшло ў традыцыю. Многія з магнатаў страсна захапляліся збіраннем рэдкасцей і розных навінак.

Вельмі ўплывовыя і багатыя магнаты Вялікага княства Літоўскага Радзівілы, Сапегі, Агінскія лічылі сябе, свае радаслоўныя раўнёй еўрапейскім манархам і не жадалі ўступаць ім у бляску сваіх двароў.

Славалюбівыя задумы зрабіць свае маёнткі падобнымі на Версаль і нават пераўзысці французскія арыгіналы не здаваліся ім дзівацкімі. Князі Радзівілы ўсе дасягненні тэхнікі выкарыстоўвалі для стварэння дэкаратыўнай прыгажосці.

Для ўвасаблення сваіх далёкасяжных задум магнаты не шкадавалі ні сродкаў, ні працы сваіх паднявольных. Вытанчаныя густы магнатаў цалкам спалучаліся з прыгоннымі звычаямі. І калі ў багацці, раскошы, ладзе жыцця магнаты імкнуліся перасягнуць еўрапейскіх манархаў, то простыя сяляне-беларусы працягвалі жыць жыццём сваіх продкаў і мастацкай спадчыны даўніны: спявалі старадаўнія песні, апавядалі быліны і казкі, выразалі з дрэва русалак-берагінь, захоўвалі сакрэты іканапісу, гаварылі на сваёй мове і прытрымліваліся нацыянальных традыцый. Нацыянальнае і мастацкае аблічча Беларусі складвалася з многіх пластоў, і толькі самыя верхнія, якія адносіліся да самых багатых, зусім адарваліся ад сваіх каранёў, аддаючы перавагу ў культуры ўсяму замежнаму, асабліва парыжскаму...

Аднак менавіта з'яўленне магнатаў-мецэнатаў параджала паяўленне і накапленне твораў мастацтва, якія ўвашлі ў скарбонку беларускай нацыі. Сёння мы ведаем, што калі б не было, напрыклад, Астраміра, наўрад ці паявілася б Астрамірава Евангелле нават пры наяўнасці дыякана Рыгора... Калі б не заказала Ефрасіння Полацкая напрастольны крыж ювеліру Богшы, наўрад ці паявілася б святыня — скарб беларускага народа — крыж Ефрасінні...

Накапленне багацця ў сем'ях магнатаў, іх высокае становішча ў грамадстве патрабавалі далучэння да высокай культуры. Эпоха гуманізму і адраджэнскага асветніцтва, якая пачалася ў Беларусі ў XVI стагоддзі, адзначалася абуджэннем грамадскай думкі, развіццём арыгінальнай літаратуры, паэзіі, мастацтва, накапленнем духоўных скарбаў усім беларускім народам. І ў гэтым істотную ролю адыгралі магнаты Беларусі.

Маючы неабмежаваны ўплыў на знешнюю і ўнутраную палітыку дзяржавы, магнаты часам не лічыліся з уладай караля, станавіліся магутнай апазіцыяй каралеўскай уладзе. Магнаты, якія не падпарадкоўваюцца каралю і маюць неабмежаваную ўладу ў сваіх уладаннях, нават атрымалі мянушку — «каралевічы».

Магнаты, дваранства і ўплывовая шляхта раўніва аберагалі свае вольнасці, асцерагаючыся каралеўскага абсалютызму, і даволі часта «давалі бой» каралю на сеймах. Так, на сейме 1646 года дэпутаты ад шляхты выступілі супраць планаў караля Рэчы Паспалітай Уладзіслава Вазы, абвінавачваючы яго ў падрыхтоўцы дзяржаўнага перавароту. Яны прымусілі Уладзіслава падпарадкавацца іх волі і распусціць войска, набранае без дазволу сейма для вайны з Турцыяй.

Радзівілы не лічыліся з уладай каралёў. Радзівіл Мікалай Чорны ўмацаваў сваё становішча, калі ў выніку дыпламатычных перагавораў дабіўся далучэння Ліфляндыі да Вялікага княства Літоўскага і ліквідацыі ордэна мечаносцаў. У 1562 годзе ў Рыжскім замку Мікалай Чорны прыняў з рук былога магістра ордэна мечаносцаў Готарда Кетлера сімвалы магістарскай улады — залаты крыж і пячатку. Яму ж былі перададзены ўсе прывілеі і архіў ордэна.

Прыхільнік незалежнасці Беларусі ад Польшчы, Мікалай Чорны першым з магнатаў-беларусаў прыняў Рэфармацыю Кальвіна, што паслужыла масаваму пераходу беларускай шляхты ў пратэстанцтва.

Адчуўшы сваю сілу і ўплыў, князь Мікалай Чорны выступіў супраць польскага караля, вырашыўшы аддзяліць Беларусь ад польскай кароны. Увасабленню яго планаў у жыццё перашкодзіла раптоўная смерць у 1565 годзе.

У раптоўнай смерці князя абвінавацілі манахаў ордэна езуітаў, каварства і магутнасць якіх пацвердзіў генерал ордэна Тамбурані ў гутарцы з маршалам Францыі герцагам дэ Брысажам: «З гэтага пакоя я кірую не толькі Парыжам, але і Кітаем, не толькі Кітаем, але і цэлым светам, і ніхто не ведае, як гэта робіцца...»

Пасля смерці Радзівіла Мікалая Чорнага яго сын і наследнік Хрыстафор Радзівіл «Сіротка» пад уздзеяннем польскага пісьменніка, прапаведніка-католіка і члена легіёна «Таварыства Ісуса» Пятра Скаргі парваў з кальвінізмам і перайшоў у каталіцтва. Па яго распараджэнню вучоных-ератыкоў выгналі з Нясвіжа. Кнігі Сымона Буднага былі перададзены на спаленне па патрабаванню езуітаў...

Мікалай Сіротка, як стаpанны католік, удзельнічаў са сваёй дружынай у крыжовых паходах у Сірыю, Палесціну і Егіпет, дзе здолеў папоўніць сваю казну ўсходнімі скарбамі. Гэта дазволіла яму разгарнуць шырокае будаўніцтва ў Нясвіжы. Па яго праекту былі ўзведзены замак, касцёл, калегіум езуітаў. Адначасова пачалася перабудова ўсяго Нясвіжа. Сіротка запрасіў да сябе італьянскага архітэктара Яна Марыю Бернардоні, які многае пабудаваў і, у прыватнасці, Фарны касцёл.

Свае замкі, палацы, маёнткі Радзівілы будавалі і перабудоўвалі. Упрыгожвалі вельмі каштоўнай мэбляй, дарагой зброяй, разьбой па дрэву, мудрагелістай лепкай, адмыслова выкананым ліццём. Асабліва каштоўнымі скарбамі Радзівілы напоўнілі свой палац у Нясвіжы. Найбольшае захапленне ў гасцей выклікалі выкананыя з золата і серабра і, відаць, прывезеныя ў гады крыжовых паходаў з Блізкага Усходу візантыйскія скульптуры дванаццаці апосталаў у рост чалавека.

Галоўны франтон замка Радзівілы ўпрыгожылі сваім гербам і ваеннымі эмблемамі з пышным арнаментам у стылі барока. У замку было больш як 300 пакояў і 12 вялікіх залаў. Самымі вытанчанымі скарбамі былі напоўнены залы Мармуровая, Залатая, Каралеўская і Гетманская. Каменныя лесвіцы, упрыгожаныя меднымі поручнямі, вялізныя прыхожыя, завешаныя старадаўнімі карцінамі, дарагой зброяй, дыванамі, габеленамі дапаўнялі карціну небывалага багацця.

Усіх, хто прыбываў у замак, здзіўляла веліч, колькасць каштоўнасцей і вытанчаная абстаноўка панскіх пакояў. Назва і ўбранне кожнай залы гаварылі самі за сябе...

Каралеўская зала атрымала сваю назву з таго часу, калі польскі кароль Станіслаў-Аўгуст ехаў на сейм у Гродна і гасцяваў у Нясвіжы. Тады, рыхтуючыся да сустрэчы караля, сцены залы і бліжэйшыя пакоі былі абабіты незвычайнымі габеленамі. Былі выраблены каваныя срэбныя сталы і экраны з камінам, падсвечнікі больш чым метровай вышыні — усе з каштоўных металаў, выкананыя вядомымі беларускімі майстрамі.

Багаццем мэблі, паркетаў, складзеных з мноства каштоўных гатункаў дрэва: чырвонага, чорнага, лімоннага, масіўных паліраваных дзвярэй, вялізных люстраў у тонкіх залатых рамах здзіўляла Рыцарская зала. Была яна завешана мноствам вельмі каштоўных даспехаў: шлемаў, нагруднікаў, набедранікаў. Цэлы рад рыцараў (з сабраных даспехаў) стаялі ўздоўж белых сцен, паблісквaючы срэбрам і золатам. Частка рыцараў-коннікаў — на конях, са страусавымі пёрамі на крацістых шлемах. У свой час калекцыю зброі князёў Радзівілаў аглядаў генерал-губернатар Вільні Міркавіч. Ён быў захоплены і здзіўлены прыгажосцю і разнастайнасцю баявых шлемаў, шчытоў, коп'яў, патранташаў, і асабліва панцырамі старажытных рыцараў, сярод якіх былі латы ў дзевяць пудоў і семнаццаць фунтаў вагой. Уразілі яго і 20 медных гармат, кожная з якіх была рэдкасцю па сваёй канструкцыі.

Багата і адмыслова была ўпрыгожана Паляўнічая зала, засланая шкурамі мядзведзяў, ваўкоў, лісіц. На доўгіх сталах была раскладзена паляўнічая зброя: пісталеты, мушкеты, кінжалы, ягдташы, рагаціны — усе ўпрыгожаны інкрустацыяй серабром і золатам. На сценах віселі рогі аленяў, ласёў, дзічыныя іклы, апраўленыя ў золата і серабро.

Цудоўнае ўбранне залаў складалі не толькі маляўнічыя палотны старадаўніх майстроў, але і маршальскія жэзлы, гетманскія булавы, рэдкія манускрыпты, старадаўні фарфор, фамільнае серабро і золата, запасы якога ў Радзівілаў былі проста незлічоныя...

Прымаючы знатных гасцей, Радзівілы стараліся здзівіць усіх сваім багаццем і небывалай раскошай. Так, рыхтуючыся сустрэць у замку караля, у спальню паставілі ложак, што раней належаў каралю Францыі Людовіку XIV, які ў свой час падарыў яго польскаму каралю Яну III Сабескаму, ад якога ён і трапіў да Радзівілаў. Балдахін і пакрывала былі расшыты золатам і серабром.

Да прыезду караля абнавілі ўвесь замак: пазалацілі ляпную аздобу, замянілі абіўку сцен і вывесілі новыя габелены. Абсталявалі каралеўскія апартаменты, устанавілі прастол. Яшчэ адзін прастол, які раней належаў Яну Сабескаму, узвышаўся і ў Каралеўскай зале.

Візіт Станіслава-Аўгуста абышоўся Радзівілам у 1 мільён 600 тысяч польскіх злотых. Але гэта было значна менш, чым кошт карэты з чыстага золата...

Па суседству з Каралеўскай залай знаходзілася Гетманская зала, упрыгожаная партрэтамі князёў Радзівілаў у поўны рост, якія ў розны час займалі пасады гетманаў і военачальнікаў.

Выдзяляўся партрэт Міхаіла Радзівіла верхам на кані, па-майстэрску вытканы на мясцовай мануфактуры ў Карэлічах, што непадалёку ад Міра. У зале знаходзіўся цэлы арсенал рыцарскіх даспехаў, якія належалі гетманам з роду Радзівілаў, і калекцыя гетманскіх жэзлаў. Зброя і воінскія даспехі былі ўпрыгожаны дзівоснай калекцыяй слуцкіх паясоў, неад'емнай часткай касцюма кожнага магната...

Мармуровая зала здзіўляла ўсіх ляпной аздобай і скульптурамі з выдатнага мармуру, сабранага з усяго свету...

Залатая зала была размешчана на трэцім паверсе і знакамітая тым, што напоўнена неймавернай колькасцю ўпрыгажэнняў з чыстага золата, якога ў князёў Радзівілаў было даволі многа. Да гэтага часу ходзіць паданне аб тым, як вяртаючыся ў Нясвіж праз Германію, «пане Каханку» пажартаваў з адной малавядомай банкірскай канторы, прытварыўся збяднелым у дарозе і папрасіў у доўг трыста дукатаў.

Дукаты ён атрымаў, а вярнуўшыся дадому, загадаў адліць залаты Радзівілаўскі чырвонец, велічынёй з добрую глыбу. На адным баку яе адчаканілі фамільны герб з княжым дэвізам: «Мужнасць — у тым, каб імкнуцца да цяжкасцей», а на другім баку — надпіс: «Радзівілаўскі чырвонец». Адаслаў з пасланцом чырвонец-глыбу банкіру — натуральна, з атрыманнем здачы. «Размяняць» такі чырвонец банкіру не хапіла сродкаў, і князь шырокім жэстам падарыў чырвонец цалкам...

Вясёлым князем быў «пане Каханку» — Карл Радзівіл, які дзеля чарговай пацехі загадаў сваім слугам скупіць усе прадукты харчавання ў Варшаве і яе ваколіцах, а затым са смехам назіраў гул галоднага варшаўскага натоўпу. Празмернае багацце, раскошнае жыццё, буянства разбэшчанай фантазіі — усё спрыяла небывалым оргіям і непрыстойным прыгодам. А яго «свабодзе і разняволенасці» спрыяла ў сваю чаргу поўная эканамічная і палітычная незалежнасць, як аднаго з самых багатых людзей не толькі Рэчы Паспалітай, але і Еўропы.

Карл Радзівіл, сапернік Панятоўскага на трон Польшчы, царадворац з Вільні, непрымірымы вораг Расіі, сапернік Чартарыйскага, у 1762 годзе ўзведзены каралём Аўгустам III Саксонскім у якасці кіраўніка Літвы, марыў аб атрыманні расійскай імперскай кароны. План яго быў просты: дабіцца ўзаемнасці ад князёўны Тараканавай, стаць яе мужам і — Масква ўзята дзякуючы саюзу з дочкамі Лізаветы. Прымусіць адкрыта прызнаць паходжанне князёўны Тараканавай, каб аблегчыць усталяванне яго ўлады над Расіяй...

Хто ж такая князёўна Тараканава, праз якую князь Карл жадаў авалодаць усёй Расіяй? У тыя гады хадзілі чуткі, што акрамя пяці больш-менш законных дзяцей ад Разумоўскага імператрыца нарадзіла яшчэ чатырох. Адным з іх была князёўна Тараканава...

Калі пра князёўну загаварылі за рубяжом і ў Расіі, ёй было дваццаць гадоў, яна была прыгожая, свабодная і нязменна карысталася поспехам. У зусім юным узросце яе вывезлі з Санкт-Пецярбурга ў Францыю. Яна гадавалася там, бедная кветачка, высакароднай раслінай Поўначы, перасаджанай пад блаславёнае сонца італьянскіх мікеланджэла і рафаэляў. Была каралевай святаў у Фларэнцыі, Пізе і Ліворна. Афіцыйна пра яе нічога не ведалі, але тайна, якая наводзіла на невыразныя думкі аб яе імператарскім паходжанні, толькі дабаўляла шарму, і ён абвалакваў яе, як багінь старажытнасці — аблокі, калі тыя на жадалі паўстаць перад смяротнымі ва ўсёй веліччы.

Бедная князёўна не ведала аб планах Карла Радзівіла. Яна бачыла толькі вядомага князя, яшчэ маладога, прыгожага на выгляд, вытанчанага ў манерах. Як толькі разнесліся чуткі, што Карл жэніцца з пабочнай дачкой імператрыцы Лізаветы, імператрыца Кацярына прыняла свае меры, і князёўна Тараканава скончыла жыццё ў Петрапаўлаўцы...

**(Працяг будзе.)**

АПЫТАННЕ ЛІДЭРАЎ ДУМАК

# ЭКАНАМІЧНАЯ СІТУАЦЫЯ ЛЕТАСЬ ПАГАРШАЛАСЯ

**Незалежны інстытут сацыяльна-эканамічных і палітычных даследаванняў (НІСЭПД) працягвае публікацыю вынікаў апытанняў лідэраў думак — найбольш кампетэнтных і вядомых спецыялістаў Беларусі ў галіне палітыкі, эканомікі, мас-медыя, навукі і культуры. У снежні 1995 г. было праведзена чацвёртае апытанне лідэраў думак. На пытанні анкеты далі адказы каля 100 рэспандэнтаў.**

Статыстыкам яшчэ трэба будзе даць падрабязны аналіз эканамічных вынікаў 1995 года. А што думаюць наконт гэтага лідэры думак? Як відаць з табл. 1, іх ацэнкі з'яўляюцца вельмі песімістычнымі: каля 77 працэнтаў апытаных указалі, што ў мінулым годзе эканамічная сітуацыя ў Беларусі працягвала пагаршацца. Наўрад ці такія ацэнкі здадуцца каму-небудзь нечаканымі. У 1995 г. кіраўніцтва краіны праводзіла палітыку палавінчатых мераў, па сутнасці адмаўляючыся ад паслядоўных і радыкальных эканамічных рэформаў.

**Табліца 1. Размеркаванне адказаў на пытанне: «Як змянілася ў 1995 г. эканамічная сітуацыя ў Беларусі?»**

(у працэнтах)

| | Усяго | У тым ліку прадстаўнікі | |
|---|---|---|---|
| | | дзяржаўных структур | недзяржаўных структур |
| Пагоршылася | 76.8 | 74.4 | 79.1 |
| Не змянілася | 18.3 | 17.9 | 18.6 |
| Палепшылася | 3.7 | 5.1 | 2.3 |
| Не далі адказу | 1.2 | 2.6 | 0.0 |

Цяпер разгледзім, як нашы рэспандэнты ацанілі некаторыя найбольш важныя эканамічныя падзеі мінулага года.

Стабілізацыя абменнага курса беларускага рубля, безумоўна, з'яўляецца адной з такіх падзей. Нягледзячы на адрозненні ў ацэнках, нельга адмаўляць, што некаторае «ўзмацненне» крэдытна-грашовай палітыкі Нацыянальнага банка разам з утрымліваннем абменнага курса дазволіла істотна знізіць узровень інфляцыі. Наколькі ж устойлівая цяперашняя сітуацыя? Як вынікае з табл. 2, больш як 62 працэнты лідэраў думак лічаць, што фінансавая стабілізацыя ў 1995 г. была толькі частковай, прычым ацэнкі прадстаўнікоў дзяржаўных і недзяржаўных структур прыметна адрозніваюцца: калі сярод першых толькі каля 28 працэнтаў не бачаць у цяперашняй сітуацыі фінансавай стабілізацыі, то сярод другіх такіх каля 42 працэнтаў.

На наш погляд, для многіх рэспандэнтаў з'яўляецца відавочным, што стабільнасць абменнага курса цяпер падтрымліваецца выключна за кошт валютных інтэрвенцый Нацыянальнага банка, а праводзімая ў 1995 г. крэдытна-грашовая палітыка, у лепшым выпадку, можа быць ахарактарызавана як «умераная». Як вядома, такая палітыка на пэўны час можа ствараць ілюзію фінансавай стабільнасці. Працягласць перыяду часовай стабілізацыі ў дадзеным выпадку абумоўлена велічынёй валютных рэзерваў Нацыянальнага банка. Па меры іх расходавання эканоміка зноў вяртаецца да ранейшай сітуацыі фінансавай нестабільнасці.

**Табліца 2. Размеркаванне адказаў на пытанне: «Ці была ў 1995 г. дасягнута фінансавая стабілізацыя?»**

(у працэнтах)

| | Усяго | У тым ліку прадстаўнікі | |
|---|---|---|---|
| | | дзяржаўных структур | недзяржаўных структур |
| У цэлым была дасягнута | 2.4 | 2.6 | 2.3 |
| Дасягнута толькі часткова | 62.2 | 69.2 | 55.8 |
| Не была дасягнута | 35.4 | 28.2 | 41.9 |

Разуменне рэальнага становішча спраў у беларускай эканоміцы, відаць, абумовіла даволі высокія інфляцыйныя чаканні нашых рэспандэнтаў — больш як палова з іх дапускаюць дэвальвацыю беларускага рубля ўжо ў першым квартале 1996 г., нягледзячы на запэўніванні кіраўніцтва краіны аб нязменнасці палітыкі ў галіне абменнага курса (табл. 3). Толькі 22 працэнты апытаных лічаць, што ў бліжэйшыя тры месяцы абменны курс беларускага рубля застанецца нязменным. У той жа час прыблізна трэці рэспандэнтаў цяжка было спрагназіраваць сітуацыю з валютным курсам. Гэта ў пэўнай ступені сведчыць аб тым, што эканамічныя праблемы часта вырашаюцца не толькі зыходзячы з прынцыпаў эканамічнай мэтазгоднасці.

**Табліца 3. Размеркаванне адказаў на пытанне: «Ці будзе ў першым квартале 1996 г. дэвальваваны беларускі рубель?»**

(у працэнтах)

| | Усяго | У тым ліку прадстаўнікі | |
|---|---|---|---|
| | | дзяржаўных структур | недзяржаўных структур |
| Так | 51.2 | 48.8 | 53.5 |
| Не | 22.0 | 25.6 | 18.6 |
| Цяжка адказаць | 26.8 | 25.6 | 27.9 |

Неадназначную ацэнку ў лідэраў думак атрымаў мытны саюз Беларусі з Расіяй. Толькі 8:5 працэнта апытаных далі безумоўна станоўчую ацэнку мытнаму саюзу. Крыху больш як 30 працэнтаў апытаных лічаць, што гэты саюз аказаў негатыўны ўплыў на эканоміку Беларусі, аднак большасць лідэраў думак лічаць, што мытны саюз меў для нашай эканомікі як станоўчыя так і адмоўныя вынікі. Думкі прадстаўнікоў дзяржаўных і недзяржаўных структур тут рэзка разыходзяцца: каля 42 працэнтаў рэспандэнтаў, якія прадстаўляюць недзяржаўныя структуры, далі адмоўную ацэнку мытнаму саюзу, што ў 2.3 раза вышэй у параўнанні з ацэнкамі, дадзенымі прадстаўнікамі дзяржструктур (табл. 4).

**Табліца 4. Размеркаванне адказаў на пытанне: «Да якіх вынікаў для эканомікі Беларусі прывёў мытны саюз з Расіяй?»**

(у працэнтах)

| | Усяго | У тым ліку прадстаўнікі | |
|---|---|---|---|
| | | дзяржаўных структур | недзяржаўных структур |
| Станоўчых | 8.5 | 15.4 | 2.3 |
| Адмоўных | 30.5 | 17.9 | 41.9 |
| Ёсць як станоўчыя, так і адмоўныя вынікі | 59.8 | 64.1 | 55.8 |
| Не далі адказу | 1.2 | 2.6 | 0.0 |

Двухузроўневая банкаўская сістэма і незалежны Нацыянальны банк, які паслядоўна праводзіць антыінфляцыйную палітыку, — важнейшыя перадумовы фінансавай стабільнасці ў краіне. У сувязі з гэтым нядаўняе зліццё Ашчаднага банка і «Беларусбанка» выклікала сур'ёзную заклапочанасць як у Беларусі, так і за яе межамі.

Згодна з атрыманымі данымі, толькі каля 13 працэнтаў лідэраў думак лічаць гэта зліццё натуральным працэсам канцэнтрацыі банкаўскага капіталу. Большасць жа апытаных (каля 66 працэнтаў) ахарактарызавалі зліццё банкаў як імкненне выканаўчай улады сканцэнтраваць значныя фінансавыя рэсурсы ў сваіх руках; каля 44 працэнтаў рэспандэнтаў лічаць, што гэта вядзе да падрыву двухузроўневай банкаўскай сістэмы ў Беларусі (табл. 5). Як вядома, сваю заклапочанасць наконт гэтага выказалі і міжнародныя фінансавыя арганізацыі. Факт зліцця двух банкаў (хутчэй метады зліцця і яго мэты) разглядаюцца імі ў кантэксце змяншэння ролі Нацыянальнага банка і адходу ад прынцыпаў рыначнай эканомікі.

**Табліца 5. Размеркаванне адказаў на пытанне: «Як вы ацэньваеце аб'яднанне Ашчадбанка і «Беларусбанка» і стварэнне акцыянернага ашчаднага банка «Беларусбанк»?»**

(у працэнтах)

| | Усяго | У тым ліку прадстаўнікі | |
|---|---|---|---|
| | | дзяржаўных структур | недзяржаўных структур |
| Гэта натуральны працэс канцэнтрацыі банкаўскага капіталу | 13.4 | 25.6 | 4.7 |
| Гэта імкненне сканцэнтраваць фінансавыя рэсурсы ў руках Прэзідэнта | 65.9 | 59.0 | 76.7 |
| Гэта падрыў двухузроўневай банкаўскай сістэмы ў Беларусі | 43.9 | 46.2 | 41.8 |
| Не далі адказу | 4.9 | 2.6 | 7.0 |

Можна было даць некалькі адказаў, таму сума перавышае 100 працэнтаў.

У адрозненне ад папярэдніх апытанняў, пры ацэнцы ўладных структур па 5-бальнай шкале іх эканамічная дзейнасць была аддзелена ад палітычнай. Такі падзел быў зроблены ў значнай ступені зыходзячы з пажаданняў нашых рэспандэнтаў у ходзе папярэдніх апытанняў. Як відаць з табл. 6, усе дзяржаўныя інстытуты, на думку нашых рэспандэнтаў, не дабіліся вялікіх поспехаў у справе вываду эканомікі Беларусі з эканамічнага крызісу. Пры гэтым самую нізкую ацэнку атрымаў Вярхоўны Савет 12-га склікання — 1.68 бала. Ненамнога апярэдзіў яго і Прэзідэнт — 1.84 бала. «Моцную» двойку — 2.17 бала — атрымаў Кабінет Міністраў, які аказаўся на першым месцы па ацэнках як дзяржаўных, так і недзяржаўных структур. Як і ў ходзе папярэдніх апытанняў, прадстаўнікі дзяржструктур ацанілі дзейнасць Прэзідэнта ў сярэднім больш высока, чым рэспандэнты, якія прадстаўляюць недзяржаўную сферу.

**Табліца 6. Ацэнка дзейнасці розных дзяржаўных інстытутаў па выхаду з эканамічнага крызісу ў 1995 г. (5-бальная шкала)**

(у працэнтах)

| | Усяго | | | У тым ліку прадстаўнікі | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | дзяржаўных структур | | | недзяржаўных структур | | |
| | Прэзідэнт | Кабінет Міністраў | Вярхоўны Савет 12-га склікання | Прэзідэнт | Кабінет Міністраў | Вярхоўны Савет 12-га склікання | Прэзідэнт | Кабінет Міністраў | Вярхоўны Савет 12-га склікання |
| 1 | 40.2 | 18.3 | 39.0 | 28.2 | 10.3 | 35.9 | 51.2 | 25.6 | 41.9 |
| 2 | 31.7 | 42.7 | 41.5 | 35.8 | 41.0 | 43.6 | 27.9 | 44.2 | 39.5 |
| 3 | 17.1 | 28.0 | 12.2 | 17.9 | 38.5 | 10.3 | 16.3 | 18.6 | 14.0 |
| 4 | 7.3 | 7.3 | 2.4 | 12.8 | 5.1 | 2.6 | 2.3 | 9.3 | 2.3 |
| 5 | 0.0 | 0.0 | 0.0 | 0.0 | 0.0 | 0.0 | 0.0 | 0.0 | 0.0 |
| Не далі адказу | 3.7 | 3.7 | 4.9 | 5.1 | 5.1 | 7.6 | 2.3 | 2.3 | 2.3 |
| Сярэдні бал | **1.84** | **2.17** | **1.68** | **2.05** | **2.28** | **1.64** | **1.65** | **2.07** | **1.72** |

**Як бачым, ацэнкі дзейнасці розных інстытутаў улады ў сферы эканомікі цалкам адпавядаюць ацэнкам эканамічнай сітуацыі ў мінулым годзе. Дзейнасць дзяржаўных інстытутаў пакуль, на жаль, не дае сур'ёзных падстаў для эканамічнага аптымізму.**

*АФІЦЫЙНЫ РАЗДЗЕЛ*

# «МІНІМАЛКА» ПАВЯЛІЧАНА, ЦІ ВАРТА ЧАКАЦЬ ПРЫБЫТКУ?

**Наша новая рубрыка — «Афіцыйны раздзел». Адкрываючы яе, «Звязда» мяркуе рэгулярна знаёміць чытачоў з тымі або іншымі дзяржаўнымі актамі і рашэннямі, якія выклікаюць наш агульны, грамадскі інтарэс, а таксама, прыцягваючы грамадскую думку, думку спецыялістаў, экспертаў газеты, рабіць адпаведныя каментарыі. Падобныя каментарыі ў газеце з'яўляліся і раней — мы мяркуем зрабіць іх больш сістэматычнымі.**

Новы год пачаўся для нас з навіны адносна павышэння памеру мінімальнай заработнай платы. Увогуле, усякае павышэнне — прыемная рэч, павышэнне зарплаты — тым больш. І, здавалася б, проста нельга знайсці ў дадзеным выпадку нездаволеных.

Тым не менш, нездаволеныя знайшліся. У іх свае довады, і даволі абгрунтаваныя. Нездаволеныя ў сувязі з гэтым павышэннем звязваюць павелічэнне сваіх расходаў. У чым справа?

Як вядома, «мінімалка» павялічваецца амаль у два разы — з 60 тысяч да 100 тысяч, а тарыф першага разраду са 100 ранейшых тысяч усяго да 110 тысяч. Нашу зарплату вызначаюць зыходзячы менавіта з тарыфу, і яна, па сутнасці, узрасце нязначна — прыкладна на тых жа 10 працэнтаў, а вось да «мінімалкі» часта прывязваюць ужо нашу ж плату за рознага роду паслугі (натарыяльныя, транспартныя для аўтааматараў, за вучобу ў вышэйшых навучальных установах у выпадку навучання за свой кошт і іншыя), а таксама розныя штрафы. Як стала вядома, у сувязі з павышэннем «мінімалкі» некаторыя ВНУ тут жа папярэдзілі сваіх навучэнцаў аб адпаведных даплатах за зробленыя ўжо ўзносы. Карацей, навучэнцам цяпер хіба толькі можна суцешыцца думкай, што раней яны, у сувязі з рэзкім разрывам паміж «мінімалкай» і тарыфам першага разраду, як быццам не даплачвалі...

Няйначай, як да павышэння «мінімалкі» прымеркавана і чарговае нежартоўнае павышэнне (у два разы) тарыфу на праезд у метро (прычым, па пэўных звестках, падобнае ж павышэнне, у два разы, чакаецца з сярэдзіны месяца і на праезд на іншых відах гарадскога пасажырскага транспарту). Думаецца, што, нягледзячы на запэўніванні, якія робяць у Камітэце цэн, адносна плаўнага мяккага росту гэтых цэн, далёка не супастаўнага з ростам «мінімалкі», — варта ўсё ж чакаць больш «імклівых» наступстваў. Павышэнне «мінімалкі» і тарыфу першага разраду робіцца на фоне ўсё тых жа застойных з'яў у эканоміцы і нават спаду аб'ёмаў у многіх галінах, зніжэння іх эфектыўнасці, на фоне па-ранейшаму прастойваючых прадпрыемстваў. У запасе ж у дзяржавы замест рэзерваў — адны даўгі. Мы нават няўхільна павялічваем гэтыя даўгі. Карацей, цешыць сябе новым павышэннем «мінімалкі» і, адпаведна, тарыфу першага разраду нам ніяк не выпадае. Як, вядома ж, не выпадае цешыць і цяперашняй сярэдняй зарплатай. Мінімальны спажывецкі бюджэт на цяперашні дзень, па сведчанню спецыялістаў, роўны 812 тысячам. «Ачысцім» нашу сярэднюю заработную плату ад падаходнага падатку — і застанецца ў нас самы што ні на ёсць гэты мізэрны мінімум. Вядома, у сярэднім на працуючага, але гэта значыць, што і нечыя мільёны не выцягваюць сярэдні ўзровень.

Зноў варта канстатаваць: без істотных зрухаў у эканоміцы большага прыбытку нам адназначна не мець. Атрымаць можна толькі тое, што ёсць наяве, што выраблена і прададзена (дзяржава ў гэтых умовах можа толькі часова падтрымаць некага, і часта з чыста тактычнымі мэтамі — каб зняць у пэўнай галіне, на пэўным прадпрыемстве сацыяльнае напружанне, але ўсё роўна гэта падтрымка — за кошт іншых, за кошт пераразмеркавання сродкаў). У сувязі з гэтым варта зазначыць: апошнім часам у рэспубліцы з'явіліся пэўныя надзеі, звязаныя з эканамічным ростам у Расіі. Маўляў, многія прадпрыемствы тут і там — партнёры, там рост — значыць будзе і тут... Зусім без надзеі — нельга, але ж прыгадаем: у Расіі ўзнімаецца ўжо пераважнай часткай рэфармiраваная эканоміка, эканоміка з даволі моцным прыватным сектарам. Мы ж па-ранейшаму памяркоўна топчамся на месцы, прыкідваючы, на каго нам раўняцца — ці то на расіян, ці то на кітайцаў, па-ранейшаму спадзяёмся на некага іншага, толькі не на саміх сябе. Мы зноў на ўвесь голас загаварылі аб дзяржаўным рэгуляванні (яго, вядома, ніхто не адмаўляе, але ж мы ўжо добра ведаем адміністрацыйны імпэт нашых «рэгуліроўшчыкаў»), і нават заводзім размовы наконт таго, каб адмяніць прыватызацыю (між іншым, і без таго надзвычай куртатую), як крайне шкодную. Карацей, на сённяшні дзень у нас і ў Расіі, па сутнасці, дзве розныя сацыяльна-эканамічныя сістэмы, мы працуем у розных эканамічных каардынатах. І ў гэтай сувязі нашы шляхі могуць разысціся яшчэ больш. Нават нягледзячы на агульную некалі эканамічную, а цяпер мытную прастору. Эканомікам, у адной з якіх кіруе эканамічны інтарэс, а ў другой даволі часта зусім іншыя матывы (накшталт мэтазгоднасці і брацкіх вузаў), цяжка знайсці агульную мову.

**Іван БАРАНОЎСКІ.**

# ДОБРЫЯ ЗДАБЫТКІ. АПТЫМІСТЫЧНЫЯ ПЕРСПЕКТЫВЫ

**Так, калі быць лаканічным, можна сфармуляваць вынікі дзейнасці вядомай выставачнай кампаніі «Мінскэкспа». Летась яна правяла дванаццаць буйных міжнародных выставак. Хто знаёмы з выставачным бізнесам, той зразумее, якая нагрузка цэлы год ляжала на плячах супрацоўнікаў кампаніі.**

У гэтых выстаўках удзельнічала нямала як беларускіх прадпрыемстваў і фірмаў, так і з блізкага і далёкага замежжа. Прымета мінулага года — актыўна арандавалі плошчы ў павільёне «Мінскэкспа» прадстаўнікі прыбалтыйскіх краін.

Але галоўным вынікам 1995 года Уладзімір Булавіцкі, дырэктар кампаніі, лічыць тое, што «Мінскэкспа» шмат зрабіла для прасоўвання прадукцыі заводаў і фабрык на замежныя рынкі. З гэтай мэтай айчынным прадпрыемствам кампанія прадастаўляла значныя скідкі. Нашым вытворцам квадратны метр плошчы каштаваў эквіваленту 12 долараў. Прычым уваход на ўсе выстаўкі быў бясплатны.

Планы кампаніі на гэты год не менш напружаныя. Ужо не хапае плошчаў. Таму «Мінскэкспа» мяркуе пачаць рэканструкцыю другога паверха выставачнага павільёна па праспекце Машэрава. Але і яна не вырашыць праблем. Таму кіраўніцтва «Мінскэкспа» ўсё больш рашуча ставіць перад адпаведнымі інстанцыямі пытанне аб будаўніцтве побач новага вялікага сучаснага павільёна.

**Леанід ТУГАРЫН.**

## ЯШЧЭ Ў ПЯЦІ КРАІНАХ З'ЯВЯЦЦА БЕЛАРУСКІЯ ПАСОЛЬСТВЫ

**У 1996 годзе пасольства Беларусі будзе адкрыта ў Егіпце і Канадзе. Генеральныя консульствы ў гарадах Гаага (Нідэрланды), Бухарэст (Румынія), Рым (Італія) таксама будуць пераўтвораны ў пасольствы.**

Аб гэтым журналістам паведаміў на брыфінгу намеснік міністра замежных спраў Беларусі Міхаіл Хвастоў. Свае прадстаўніцтвы ў бліжэйшай будучыні Рэспубліка Беларусь адкрые таксама ў Турцыі, Аргенціне, Швецыі і Венгрыі. Каменціруючы перспектывы развіцця адносінаў Беларусі з Іракам (у святле паездкі начальніка ўпраўлення грамадска-палітычнай інфармацыі Адміністрацыі Прэзідэнта Уладзіміра Замяталіна ў Ірак восенню мінулага года), Міхаіл Хвастоў заявіў, што нічога дрэннага ва ўстанаўленні дыпламатычных адносінаў з гэтай краінай не бачыць, адзначыўшы, што ніводная з дзяржаў не разарвала дыпламатычных адносінаў з Іракам пасля канфлікту ў Персідскім заліве.

**Андрэй СЕРАДА, БелаПАН.**

## ІНФАРМ-КАКТЭЙЛЬ

- Паштоўку з просьбай аб калядным падарунку апусціў у паштовую скрынку англійскага гарадка Ботл сямігадовы Энтані Хадсан.

Аднак паштальён, які павінен быў аднесці яе па адрасу, ведаў: некалькі тыдняў назад бацька хлопчыка загінуў у аўтакатастрофе, але маці, аберагаючы пачуцці дзіцяці, нічога яму не сказала.

Паштальён сабраў сярод калег грошы, купіў на іх чыгуначную дарогу і паслаў яе Энтані. Калі хлопчык адкрыў пасылку, то ў запісцы, якая там была, прачытаў: «Жадаю шчаслівых Каляд. Цалую. Тата».

***ЭКСТРА-ПРЭС***

- Тры гадзіны пратрымаў у напружанні прадаўцоў і пакупнікоў аднаго з магазінаў Уфы бультэр'ер, які забег з вуліцы без намордніка і без гаспадара. Народ, які ведае аб суровым нораве гэтых сабак, выгнаць на вуліцу няпрошанага наведвальніка не спрабаваў. Усе застылі на месцы. Гаварыць стараліся як мага цішэй, каб не пакрыўдзіць госця. Прадаўцы не пайшлі на абед, пабаяўшыся пакінуць паліцы, поўныя прадуктаў, на з'ядзенне булю. Спецыялісты-кінолагі, якія прыехалі, угаварылі сабаку ачысціць памяшканне.

***ЕАН.***

## *ВОДГУК*

### ЗГІБЕЕМ, АЛЕ АД ПРЫНЦЫПАЎ НЕ АДСТУПІМСЯ...

У аўторак у нашай газеце было надрукавана пісьмо народнага дэпутата новага склікання, члена ПКБ В. Шчукіна, якое выклікала даволі бурную рэакцыю асобных чытачоў. Нагадаем сутнасць пісьма. У прыватнасці, В. Шчукін рэзка выступае супраць капіталізацыі грамадства, пры гэтым яму яўна не даспадобы тая частка яго членаў, якая атрымала чэкі «Жыллё» і «Маёмасць» і такім чынам «выйшла з «калгаса». В. Шчукіну, відаць, у мэтах камуністычнага выхавання, вельмі хацелася б гэту частку прыкладна пакараць. Ён і прапануе: пазбавіць усіх, хто паквапіўся на чэкі, сацыялістычнага права на бясплатнае жыллё, бясплатную вышэйшую адукацыю і бясплатную ахову здароўя...

Адзін з чытачоў, які назваўся Віктарам Ярашэвічам , рабочым камвольнага камбіната, пытаецца ў сувязі з гэтым: што, Шчукін хоча новых рэвалюцый? А таксама перасцерагае: як бы многія, асабліва на вёсцы, не пабеглі ў сельсаветы здаваць назад свае чэкі...

Варта дадаць і ўдакладніць: ідэйныя перакананні і схільнасці — гэта, вядома ж, асабістая справа кожнага. Але вось што карысна было б мець на ўвазе таму ж В. Шчукіну: згодна з данымі, па стану на 1 студзеня ў чэкавай прыватызацыі пажадалі ўдзельнічаць 5 мільёнаў 100 тысяч нашых суграмадзян, або 64,6 працэнта ад агульнай колькасці ўсіх тых, хто мае права на атрыманне чэкаў «Маёмасць». Падкрэслім: толькі чэкаў «Маёмасць», а ёсць жа яшчэ і чэкі «Жыллё». Што з імі ўсімі цяпер рабіць? А таксама з іх дзецьмі, унукамі? Так і сапраўды недалёка да рэвалюцый...

А ўвогуле, ёсць сусветны вопыт, які, здавалася б, пераканаўча засведчыў многія перавагі прыватнаўласніцкага спосабу вядзення гаспадаркі, а галоўнае — яго найбольшую эфектыўнасць, спосабу, які мае сваім вынікам лепшы дабрабыт усіх грамадзян. Але, выходзіць, свае айчынныя і вопыт, і спосаб, заснаваныя на прынцыпах агульнага катла і гэтак пахіснуўшыя і нашу гаспадарскасць, і само жаданне гаспадарыць, па сутнасці, і давёўшыя нас да цяперашняга стану, для некага па-ранейшаму даражэйшыя. Згібеем, але ад прынцыпаў не адступімся...

**Іван БАРАНОЎСКІ.**

## *ПЕЛЕНГ-НАВІНЫ*

- **Радуеў прапанаваў замяніць заложнікаў расійскімі палітычнымі дзеячамі**

Лідэр чачэнскіх тэрарыстаў Радуеў, у руках якога знаходзіцца каля 200 заложнікаў, заявіў на перамовах, што ён гатовы адразу адпусціць усіх заложнікаў пры ўмове, калі іх заменяць расійскія дэпутаты ці палітычныя дзеячы, якім ён давярае. Сярод апошніх былі названы Барыс Громаў, Аляксандр Лебедзь, Ягор Гайдар і Рыгор Яўлінскі. Як паведамілі ў МУС Дагестана, да перамоў з баевікамі, у якіх удзельнічаюць кіраўнікі Дагестана і прадстаўнікі федэральных сіл, учора ў другой палове дня далучыліся чачэнскія старэйшыны, якія прыбылі з Грознага. Салман Радуеў ставіць зараз толькі адну ўмову вызвалення заложнікаў — асабістую бяспеку.

Запіс чачэнцаў гатовых замяніць сабой заложнікаў, што ўтрымліваюцца баевікамі Радуева, праводзіўся ўчора ў Грозным ля Дома ўрада. Яны сфарміравалі транспартную калону, якая мае намер рухацца на мяжу Чачні, да сяла Першамайскае. Чакаецца, што караван хутка рушыць на месца трагедыі пад аховай «бэтээраў».

- **Расійскія дэсантнікі адпраўлены ў Боснію**

Па спецыяльна вызваленаму паветранаму калідору 11 транспартных самалётаў ВПС Расіі ўчора раніцай узялі курс на Боснію з ваеннай базы Іванава. Яны даставілі ў Боснію 150 дэсантнікаў і тэхніку сувязі — аператыўную групу асобнай ваенна-паветранай брыгады міратворчых сіл Расіі.

- **Ультыматум «Свабоднай Еўропе»**

Жорсткі ультыматум прад'яўлены радыёстанцыі «Свабодная Еўропа», якая вяшчае з Прагі на Славакію. Калі на працягу 30 дзён у перадачах гэтага радыё, якое фінансуецца кангрэсам ЗША, не адбудуцца змяненні ў бок аб'ектыўнасці інфармацыі, то станцыю пазбавяць ліцэнзіі на выкарыстанне славацкага эфіру. Так вырашыў савет па радыё- і тэлевяшчанню ў рэспубліцы. Прааналізаваўшы асноўныя перадачы станцыі, савет прыйшоў да высновы, што яны грунтуюцца на негатыўных і нядобразычлівых адносінах да суверэннай Славакіі.

- **Чон Ду Хван узяты пад варту**

Былому прэзідэнту Паўднёвай Карэі Чон Ду Хвану афіцыйна прад'яўлена абвінавачанне ў хабарніцтве і, у прыватнасці, у тым, што ў перыяд свайго прэзідэнцтва з 1980 па 1988 год ён стварыў тайны палітычны фонд у памеры 900 мільёнаў долараў для подкупу ўплывовых сіл. Чон Ду Хван ужо ўтрымліваецца пад вартай. Яму таксама ставіцца ў віну кіраванне пераваротам у 1979 годзе, у выніку якога ён прыйшоў да ўлады.

**Радыё «Свабода», «Голас Амерыкі» і «Радыё Расіі» слухаў Сяргей ПРОТАС.**

## *КРЫМІНАЛ, ЗДАРЭННІ*

### ПАЙШЛА І НЕ ВЯРНУЛАСЯ

Яшчэ 16 снежня мінулага года ў Кастрычніцкі РАУС Магілёва звярнуўся 28-гадовы мясцовы жыхар з заявай, што 12 снежня яго жонка вечарам у расстроеных пачуццях выйшла з дому і назад не вярнулася. Быў аб'яўлены яе пошук, які не даў хуткіх вынікаў. Толькі ўчора пры правядзенні аператыўна-вышуковых мерапрыемстваў, паводле папярэдніх даных высветлілася, што прапаўшую ў той позні вечар на бульвары Няскораных сустрэлі двое раней судзімых, нідзе не працуючых мясцовых жыхароў. Яны завязалі з ёй размову, а затым пачалі біць, пасля чаго яна на месцы і памерла. З мэтай утойвання забойства злачынцы аднеслі і схавалі труп у падвале аднаго з дамоў. Падазраваемыя ў забойстве затрыманы. Вядзецца следства.

### НЕ РАЗАБРАЎСЯ?

У Мінску брыгадай хуткай меддапамогі з пад'езда дома па вуліцы Байкальскай у клінічную бальніцу была дастаўлена з агнястрэльным раненнем у нагу 50-гадовая прадаўшчыца аднаго з магазінаў Кастрычніцкага раёна. Пакуль праведзены папярэдні разбор па гэтаму факту, і рабіць высновы яшчэ рана.

Па адной з версій, жанчына ў 21.15 пастукалася ў кватэру суседа, 57-гадовага пенсіянера, з просьбай пазычыць ёй грошы, але той, не разабраўшыся, хто стаіць за дзвярамі, выстраліў з незарэгістраванай паляўнічай стрэльбы і раніў яе. Страляўшы затрыманы, стрэльба канфіскавана. Узбуджана крымінальная справа па арт. 201, ч. 3 КК Беларусі.

### З МАСКАМІ Ў КІШЭНІ

Мінулай ноччу ў Міёрскі РАУС звярнуўся 40-гадовы прыватны прадпрымальнік з заявай, што дваццаць хвілін таму назад трое яму невядомых, у масках, выставіўшы аконную шыбу, праніклі да яго ў дом і, пагражаючы газавым пісталетам, запатрабавалі грошы. Гаспадар не разгубіўся і даў нападаўшым дастойны адпор, пасля чаго тым прыйшлося выскачыць праз акно на вуліцу назад. Праз 40 хвілін аператыўнай групай РАУС быў затрыманы ў сваёй машыне маркі «Мерседэс» жыхар Грузіі. А яшчэ праз 3 гадзіны — двое іншых яго землякоў, якія ішлі пешшу па заснежанай дарозе паблізу вёскі Рубанава Полацкага раёна. У іх канфіскаваны маскі і газавы пісталет.

**Васіль КУРЛОВІЧ, прэс-цэнтр МУС.**

## *СПОРТ-ЭКСПРЭС*

### АЛІМПІЙСКІ СХОД ПАДВЁЎ ВЫНІКІ

У чацвер кіраўніцтва нацыянальнага алімпійскага камітэта правяло алімпійскі сход, прысвечаны вынікам работы НАК у мінулым годзе і падрыхтоўцы спартсменаў Беларусі на XXVI летнія Алімпійскія гульні 1996 года ў Атланце.

Прэзідэнт Нацыянальнага алімпійскага камітэта Уладзімір Рыжанкоў на пачатку мерапрыемства ўручыў алімпійцам Барселоны і Лілехамера, а таксама лепшым спартсменам 1995 года значкі і памятныя прызы. Сярод лаўрэатаў кідальніца кап'я Наталля Шыкаленка, гімнаст Віталь Шчэрба, тэнісістка Наталля Зверава і іншыя зоркі беларускага спорту. Сам жа Уладзімір Мікалаевіч з рук першага віцэ-прэзідэнта НАК Аляксандра Мядзведзя атрымаў ганаровы трафей Міжнароднага алімпійскага камітэта пад назвай «Адзінства алімпійскага руху». Тронная прамова прэзідэнта НАК абмяжавалася ўсяго некалькімі сказамі, сутнасць якіх зводзіцца да аднаго: высокая ўзнагарода МАК — гэта заслуга не толькі Рыжанкова, але і ўсяго яго ведамства.

У сваім дакладзе кіраўнік НАКа адзначыў, што 1996 год знамянальны для беларускага спорту — гэта год Летніх алімпійскіх гульняў, дзе Беларусь упершыню выступіць самастойнай камандай.

Уладзімір Мікалаевіч выказаў вялікую падзяку беларускаму ўраду, які на падрыхтоўку алімпійцаў павінен выдзеліць 60 мільярдаў рублёў.

Безумоўна, расходы будуць намнога большымі, таму не лішняй будзе і дапамога спонсараў, якіх сёння знайсці няпроста.

Мецэнатам беларускіх алімпійцаў выступіць аб'яднанне «Беларуськалій», якое на падрыхтоўку да галоўных стартаў чатырохгоддзя ўжо ўнесла ў касу НАКа 30 тысяч долараў ЗША.

Акрамя таго, нашым спартсменам акажуць дапамогу Бабруйскі гарбарны камбінат, авіякампанія «Белайр», фабрыка «Камунарка», некаторыя банкі.

Для таго, каб экіпіраваць зборную бясплатна, кіраўніцтва Нацыянальнага алімпійскага камітэта Беларусі дамовілася з італьянскай фірмай «Уніформ—Праграм». Сустрэчная прапанова паступіла і ад іспанскай фірмы «Кельме», якая, відаць і будзе апранаць нашых алімпійцаў, паколькі іспанцы маюць больш высокую рэпутацыю ў свеце ў параўнанні з італьянцамі.

Дастаўку беларускай спартыўнай дэлегацыі ўзялася ажыццявіць вядомая польская авіякампанія «Лот».

Па словах Рыжанкова, за акіян адправяцца 140—150 спартсменаў і 60—70 афіцыйных асоб, сярод якіх трэнеры, дактары, масажысты і журналісты.

Цікавая інфармацыя з вуснаў прэзідэнта прагучала ў адносінах да прэміяльных, якія атрымаюць спартсмены, калі заваююць узнагароды. Выканком НАКа плануе вельмі шчодра адарыць залатых лаўрэатаў. Памер прэміі — 40 тысяч «зялёных», сярэбраныя і бронзавыя медалісты атрымаюць адпаведна 20 і 15 тысяч долараў ЗША.

На гэтыя мэты, праўда, прыйдзецца шукаць як мінімум мільён долараў, паколькі па прагнозах спецыялістаў беларускія спартсмены здольны заваяваць 18—20 медалёў рознай вартасці.

Сам жа Уладзімір Мікалаевіч, як чалавек прымхлівы, прагнозаў не даваў, выказаўшы толькі спадзяванні, што нашы за акіянам павінны выступіць паспяхова.

Следам за прэзідэнтам НАКа выступіў старшыня Рэвізійнай камісіі Нацыянальнага алімпійскага камітэта Беларусі Мікалай Макейчык. Прывёўшы некалькі лічбаў, якія датычыліся фінансавай дзейнасці алімпійскага ведамства РБ, ён адзначыў, што ў мінулым годзе фінансава-гаспадарчая дзейнасць НАКа была паспяховай. Першую частку сходу завяршыў шэф місіі алімпійскіх гульняў у Атланце Віктар Пуцькоў, які прааналізаваў якасць і колькасць алімпійскіх ліцэнзій беларускіх спартсменаў на ўдзел у Алімпійскіх гульнях.

У перапынку ўдзельнікі сходу маглі бясплатна выпіць шклянку кавы «Прэзідэнт».

Потым справаздачу давалі трэнеры і спецыялісты. Пасля заканчэння сходу была прынята пастанова з мноства пунктаў, праз якія чырвонай ніткай праходзіла рашэнне: лічыць галоўнай задачай выканкома НАК, Аргкамітэта, федэрацый па відах спорту, фізкультурна-спартыўных арганізацый, асобных членаў НАКа забеспячэнне падрыхтоўкі і ўдзелу беларускіх спартсменаў у XXVI Алімпійскіх гульнях 1996 года.

**Уладзімір ЗДАНОВІЧ.**

## ПАГАСЛА ЯШЧЭ АДНА ЗОРКА КУПАЛАЎСКАГА ТЭАТРА

**Сумная вестка прыйшла з Нацыянальнага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы. На 44-м годзе жыцця раптоўна памёр адзін з яго вядучых акцёраў Юрый Іванавіч АВЯР'ЯНАЎ.**

З 1972 года Юрый Авяр'янаў працаваў на вядомай купалаўскай сцэне. І з першых жа сваіх роляў ён адразу запомніўся гледачам. Яму апладзіравалі ў спектаклях «Таблетку пад язык» Андрэя Макаёнка, «Навальніца» Аляксандра Астроўскага, «Людзі на балоце» Івана Мележа. Асабліва папулярным артыст стаў у апошнія гады, стварыўшы вострахарактарныя вобразы ў спектаклях «Дракон» Яўгена Шварца, «Мудрамер» Мікалая Матукоўскага, «Ідылія» Дуніна-Марцінкевіча, «Тутэйшыя» Янкі Купалы, «Памінальная малітва» Рыгора Горына, «Страсці па Аўдзею» Уладзіміра Бутрамеева. Добра ведалі Юрыя Авяр'янава і замежныя гледачы. Па запрашэнню Беластоцкага тэатра ён з вялікім поспехам сыграў на яго сцэне ў спектаклі «Рэвізор» па п'есе Мікалая Васільевіча Гогаля.

Голас Авяр'янава амаль кожны дзень гучаў па беларускім радыё ў розных радыёпастаноўках і перадачах. Часта запрашалі папулярнага артыста на тэлебачанне. З яго ўдзелам праходзілі многія вечары і канцэрты ў сталічным Доме літаратара, у Літаратурным музеі Янкі Купалы і на многіх іншых сцэнах рэспублікі.

Заслужана карыстаючыся любоўю гледачоў, Юрый Авяр'янаў не паспеў атрымаць афіцыйнае званне заслужанага артыста рэспублікі, да якога быў прадстаўлены кіраўніцтвам тэатра. Але для прыхільнікаў яго таленту важна было ведаць толькі адно: іграе ці не ў кожным новым спектаклі купалаўцаў іх любімы акцёр. Гледачы і запомняць Юрыя Авяр'янава па выдатнай ігры, па тых яркіх сцэнічных вобразах, якія ён паспеў стварыць і якія ўжо ўвайшлі ў гісторыю айчыннага тэатральнага мастацтва.

**Вольга ШЧАДРЫНА, БЕЛТА.**

## ДУБІНА Павел Паўлавіч

Цяжкую страту панесла Партыя камуністаў — на пяцьдзесят шостым годзе жыцця заўчасна памёр верны таварыш, які многія гады прысвяціў справе нашага руху, у тым ліку ў перыяд падполля і адраджэння.

Павел Паўлавіч Дубіна нарадзіўся ў 1940 годзе ў вёсцы Чыжэўшчына Жабінкаўскага раёна Брэсцкай вобласці. Пасля вучобы ў прафтэхвучылішчы і тэхнікуме свой працоўны шлях ён пачаў старшым пуцявым рабочым-брыгадзірам на Беларускай чыгунцы. Чатыры гады добрасумленна адслужыў на флоце. Пасля арміі ўзначаліў Брэсцкі раённы савет ДСТ «Ураджай». З 1966 па 1968 гады працаваў інструктарам Брэсцкага сельскага райкома партыі. Скончыў з адзнакай Вышэйшую партыйную школу. З 1972 года працаваў у партыйных органах і ў 1983 годзе стаў першым сакратаром Пружанскага райкома партыі. З 1985 па 1991 год быў спачатку намеснікам загадчыка, а потым загадчыкам арганізацыйнага аддзела ЦК КПБ. У ліпені 1991 года быў выбраны першым сакратаром Брэсцкага абкома партыі і потым, пасля жнівеньскіх падзей, кіраваў Брэсцкім абкомам ПКБ на грамадскіх пачатках. Апошняе месца работы — загадчык аддзела прыёму грамадзян Брэсцкага аблвыканкома. Адсюль Павел Паўлавіч Дубіна пайшоў з-за хваробы. За заслугі ў працы ўзнагароджаны ордэнам «Знак Пашаны» і многімі медалямі.

Пайшоў з жыцця сумленны працавіты чалавек, добразычлівы сябар, чалавек высокай маралі і высакародных памкненняў. Светлая памяць пра Паўла Паўлавіча Дубіну назаўсёды захаваецца ў нашых сэрцах. Разам са сваякамі і блізкімі сябра і саратніка сумуем з нагоды страты і выказваем ім глыбокае спачуванне.

**Фракцыя камуністаў Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь, Цэнтральны камітэт ПКБ.**

## КУРСЫ АБМЕНУ НАЯЎНЫХ ВАЛЮТ у камерцыйных банках на 12 студзеня 1996 г.

| Назва банка | Долар ЗША | | Нямецкая марка | | Расійскі рубель | | Тэлефоны |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Купля | Продаж | Купля | Продаж | Купля | Продаж | |
| Белбізнесбанк (гал. аперац. упраў.) | 11750 | 12500 | 7900 | 8200 | 2.30 | 2.50 | 067 |
| Белбізнесбанк (гарадская дырэкцыя) | 11900 | 13500 | 8000 | 9300 | 2.35 | 2.65 | |
| Белзнешэканомбанк | 11680 | 12900 | 7950 | 8450 | 2.25 | 2.47 | 267-022 |
| ФК «Вераніка»*** (за расійскія рублі) | 12000<br>4780 | 13700<br>4900 | 8100 | 9000 | 2.44 | 2.80 | 531-504 |
| Ф-л 0104 АКБ «Минский транзитный банк» | 11700 | 12300 | 7800 | 8100 | 2.00 | 2.50 | 37-28-26 |
| Народны банк | 11800 | 12600 | 8000 | 8600 | 2.32 | 2.52 | 238-610 |
| «Алімп» | 11950 | 13200 | 8200 | 9300 | 2.43 | 2.80 | 508-556 |
| Ф-л №1 АКБ «Алімп» | 11800 | 12000 | 7900 | 8100 | 2.40 | 2.45 | 291-646, 067 |
| ФФФ | 11800 | 12200 | 8000 | 8400 | 2.30 | 2.58 | |
| Нацыянальны банк РБ (курс для безнаяўных разлікаў) | 11500 | | 8007.80 | | 2.47 | | |
| Цэнтрабанк Расіі | 4670 | | 3255.04 | | 100 бел.р.36.65 | | |

* — Магчыма аперацыя за наяўны і безнаяўны разлік.
** — Аперацыя праводзіцца толькі за безнаяўны разлік.
*** — Аперацыя з валютай больш за 1000$ праводзіцца на дагаворных умовах.

### УДАКЛАДНЕННЕ

У матэрыяле «прамой лініі» «КДБ: людзі і справы», апублікаваным ва ўчарашнім нумары, у адказе на пытанне члена Мінскага гарадскога Савета ДСПС аб законнасці дэпартацыі літоўскіх камуністаў М. Буракявічуса і Ю. Ермалавічуса ў апошнім абзацы адказа замест слоў «Памылка КДБ толькі ў тым, што не было запатрабавана пісьмовае даручэнне ад пракуратуры» трэба чытаць «Памылка МУС...» і далей па тэксту.



## СЁННЯ

### СОНЦА

| | Усход | Захад | Даўжыня дня |
|---|---|---|---|
| Мінск – | 8.22 | 16.14 | 7.52 |
| Віцебск – | 8.18 | 15.57 | 7.39 |
| Магілёў – | 8.11 | 16.03 | 7.52 |
| Гомель – | 8.01 | 16.08 | 8.07 |
| Гродна – | 8.35 | 16.30 | 7.55 |
| Брэст – | 8.28 | 16.39 | 8.11 |

### ІМЯНІНЫ

Пр. Меланіі

К. Гіляра, Багуміла, Веранікі

### МЕСЯЦ

Апошняя квадра 13 студзеня

### НАДВОР'Е

Сёння ўдзень па рэспубліцы захаваецца воблачнае надвор'е, месцамі пераважна па ўсходніх раёнах, — снег. У асобных раёнах слабы галалёд, на дарогах галалёдзіца. Тэмпература паветра ў Брэсце — 0—2 градусы цяпла, Гродне — каля нуля, Мінску — 3—5, Гомелі, Магілёве, Віцебску — 5—7 градусаў марозу.

У наступныя двое сутак істотных ападкаў не чакаецца. Тэмпература панізіцца ўначы да 7—12, па ўсходу — да 17 градусаў марозу, удзень — 5—10; у заходніх раёнах уначы — 4—9, удзень — 1—6 градусаў ніжэй нуля.

### Медыцынскі прагноз надвор'я на 13 студзеня

Надвор'е будзе вызначацца перыферыяй антыцыклону, што прывядзе да росту атмасфернага ціску (на 4—6 мб) і ўтрымання кіслароду ў паветры. У такіх умовах павышаецца верагоднасць пагаршэння самаадчування ў метэазалежных хворых, схільных да спастычных рэакцый.

У мэтах прафілактыкі рэкамендуецца пазбягаць фізічных і псіхаэмацыянальных нагрузак, прытрымлівацца дыеты, рабіць самамасаж шыйна-плечавога пояса і цёплыя гідрапрацэдуры, прымаць заспакаяльныя сродкі (настойкі валяр'яну, півоні, сардэчніку), сасударасшыральныя лекавыя прэпараты і полівітаміны.

**Антаніна КАРОЗА, навуковы супрацоўнік БелНДІ кардыялогіі.**

*АНТАЛОГІЯ БЕЛАРУСКАЙ ПЕСНІ*

# МАЛІТВА

Яна з'явілася своеасаблівай кульмінацыяй віцебскага фестывалю «Славянскі базар-94». Сярод шматлікіх вакальна-эстрадных твораў, што гучалі на розных славянскіх мовах, выкананне гэтай песні ператварылася ў надзвычай эмацыянальнае відовішча.

...Пасля першых акордаў музычных інструментаў, якія незаўважна заціхлі, пачаў спяваць Уладзімір Мулявін. Задуменна, з патаемнай трывогай, спавядальнай заклапочанасцю прамаўляў ён словы:

***Я буду маліцца і сэрцам,***
***і думамі,***
***Распятаю буду маліцца***
***душой...***

І яны пабуджалі прысутных ачнуцца, адысці ад немудрагелістых эстрадных тонаў, адхіснуцца ад мітуслівай жыццёвай драбязы, пранікнуцца пачуццямі-перакрыжаваннямі да роднага люду, адчуць боль-скаргу роднай зямлі.

Выкананне Уладзіміра Мулявіна нагадвала спеў Гусляра. Купалаўскі герой выказаў крэда мастака, мастака-прарока, які сваёй творчасцю, дараванай Прыродай, Богам, здольны прадбачыць будучыню ў яе канкрэтных праявах і сказаць пра гэта людзям. Спеў Уладзіміра Мулявіна — маналог-выкананне, маналог-выяўленне асобы, кожнага з нас з заклікам служыць роднай прасторы, роднаму краю, роднаму народу. Словы гучалі задушэўна і ўладарна.

Спеў паступова ўзмацніўся, мелодыя паднялася, залунала пад прастораю — гэта да Уладзіміра Мулявіна далучыўся Дзяржаўны камерны хор Беларусі пад кіраўніцтвам Ігара Мацюхова. Неўзабаве мелодыя набыла жывое ўвасабленне: танцавальная група ансамбля «Харошкі» дапамагла акцэнтуючым рухам перадаць затоеную магутную энергію, што ўтрымліваюць і тэкст, і музыка песні. Уражанне было непаўторным, незабыўным...

Песня «Малітва» стваралася для праграмы «Голас душы», прысвечанай 25-годдзю ансамбля «Песняры».

Яна павінна была стаць мастацка-вобразным падсумаваннем дзейнасці эстраднага калектыву, які з гонарам і годнасцю выконваў беларускія песні. Кампазітар Алег Моўчан звяртаўся да твораў Янкі Купалы, да твораў паэта-прарока. Яго вершы і паэмы, пакладзеныя на музыку, уваходзілі ў рэпертуар ансамбля.

З адметнай экспрэсіўнасцю і каларытнасцю гучання ён выконваў оперу-прытчу Уладзіміра Мулявіна «Песня пра долю» (у 1972 г.) паводле драматычнай паэмы песняра «Адвечная песня» і кантату Ігара Лучанка «Курган» паводле аднайменнай яго паэмы (яна была перапрацавана для ансамбля і пад назваю «Гусляр» упершыню прагучала ў кастрычніку 1978 г.), выступаў з канцэртнай праграмай да ўгодкаў паэта, у якую ўваходзіў вакальны цыкл У. Мулявіна на купалаўскія тэксты.

Цяпер Алег Моўчан абраў творы з аднолькавай назвай «Мая малітва».

Для запеву пакладзены верш (1-ы, 2-і і апошні, 6-ы, катрэны), напісаны ў 1906 г.; апошні, пяты слупок другога верша (датуецца 1912 г.) лёг у аснову прыпеву. Кампазітар арганічна спалучыў мелодыі рэвалюцыйных маршаў і патрыятычных твораў пасляваеннага часу, інтанацыі «знаёмых» распеваў — і ў выніку атрымалася песня як малітва, як заклік, як гімн.

**Міхась ШАВЫРКІН.**

*Тэкст Янкі КУПАЛЫ* *Музыка Алега МОЎЧАНА*

*Я буду маліцца і сэрцам, і думамі,*
*Распятаю буду маліцца душой,*
*Каб чорныя долі з мяцеліцаў шумамі*
*Ўжо больш не шалелі над роднай зямлёй.*

**Прыпеў:**
*Малюся я небу, зямлі і прастору,*
*Магутнаму Богу — ўсясвету малюся,*
*Ва ўсякай прыгодзе, ва ўсякую пору*
*За родны народ Беларусі.*

*Я буду маліцца да яснага сонейка,*
*Няшчасных зімой саграваць сірацін,*
*Прыветна па збожных гуляючы гонейках,*
*Часцей заглядацца да цёмных хацін.*

**Прыпеў.**
*Я буду маліцца і сэрцам, і думамі,*
*Распятаю буду маліцца душой,*
*Каб чорныя долі з мяцеліцаў шумамі*
*Не вылі над роднай зямлёй, над табой.*

# БЕЛАРУСЫ ЛАТВІІ

## хочуць ездзіць на Бацькаўшчыну без абмежаванняў

**10 студзеня ў Мінск прыехалі прадстаўнікі культурна-асветніцкага таварыства «Уздым» беларусаў Даўгаўпілса са зваротам да Прэзідэнта і сабранымі пад зваротам 700 подпісамі тамтэйшых беларусаў. Збор подпісаў быў пачаты восенню мінулага года на пікеце ля генеральнага консульства Рэспублікі Беларусь у Даўгаўпілсе. У звароце гаворыцца: «Шаноўны спадар Прэзідэнт! Мы, беларусы Даўгаўпілса, занепакоены тым, што адбываецца прыцясненне нашых правоў і свабод пры наведванні нашай этнічнай Радзімы-маці -- Беларусі. Каб наведаць сваіх старых хворых бацькоў, прывезці ім лякарства, нарыхтаваць на зіму сена і дроў, трэба плаціць за візу, за экалогію, за дарогу, за час знаходжання ў бацькоўскім доме. Мы ў Латвіі і так пазбаўлены многіх правоў і свабод, што афіцыйна зафіксавана ў заканадаўчых дакументах латвійскай дзяржавы. Не наша віна ў тым, што нам зараз выдаюць часовыя пасведчанні неграмадзян узамен пашпартоў былога СССР. І па гэтых часовых пасведчаннях нам забаронены зараз свабодны ўезд у Беларусь. Больш таго, з нас патрабуюць візы, якія каштуюць немалых грошай.**

**Спадар Прэзідэнт, у Вас таксама ёсць маці і дзеці, не дапусціце, каб для нас, беларусаў Латвіі, якія апынуліся за мяжой, Беларусь стала не маці, а мачахай.»**

Дэлегаты з Даўгаўпілса, у тым ліку і аўтар гэтых радкоў, былі прыняты ў Адміністрацыі Прэзідэнта, дзе іх уважліва выслухалі і арганізавалі сустрэчу ў Міністэрстве замежных спраў. У шчырай, добразычлівай размове намеснік міністра замежных спраў спадар Хвастоў паабяцаў, што для жыхароў Латвіі тэрмін дзеяння пашпартоў былога СССР не будзе спынены, як меркавалася, 1 лютага, а будзе прадоўжаны да 1 ліпеня гэтага года, а тыя, хто атрымаюць часовыя пасведчанні неграмадзян, змогуць набыць шматразовую гадавую візу не за 53 долары, як гэта планавалася раней, а намнога танней. Можна спадзявацца (а аб гэтым настойліва прасіла латвійская дэлегацыя), што гэтая шматразовая гадавая віза будзе каштаваць 6 долараў, як зараз гэта зрабіла Расія для неграмадзян Латвіі -- уладальнікаў часовых пасведчанняў неграмадзян. Бо, сапраўды, «на чужым горы не разбагацееш», як было напісана на адным з плакатаў пікетчыкаў ля генеральнага консульства РБ у Даўгаўпілсе. Тым больш, што кашалькі латвійскіх беларусаў не паўнейшыя за кашалькі іх суайчыннікаў на Бацькаўшчыне, улічваючы вялікі працэнт беспрацоўя, нізкія зарплаты, высокія цэны і плату за жыллё. Таму дарагую візу яны проста не ў сілах купіць. А ад гэтага будуць пакутаваць не толькі яны ў Латвіі, а значна больш іх бацькі, грамадзяне Беларусі, зноў і зноў не прычакаўшы сваіх дзяцей дадому. Дзяцей, якія калісь, паехаўшы ў свет, мяжы не перасякалі, бо знаходзіліся ў межах адной дзяржавы...

**Станіслаў ВАЛОДЗЬКА,**
**старшыня культурна-асветніцкага таварыства «Уздым» беларусаў Даўгаўпілса.**

*З НАГОДЫ*

# ПЕРШАЯ «ПЯЦІГОДКА» БЕЛАРУСКАГА ГУМАНІТАРНАГА...

***Беларускі гуманітарны ліцэй, размешчаны па вуліцы Кірава беларускай сталіцы, днямі завяршае сваю «пяцігодку». Першую за гісторыю існавання гэтай навучальнай установы, куды штогод прыходзяць вучні, за плячыма ў якіх — 7 класаў агульнаадукацыйнай школы. Здаюць экзамены па гісторыі (вусна) і беларускай мове і літаратуры (пісьмова). Атрымаўшы паспяховыя адзнакі, становяцца ліцэістамі. Якія ж працэсы прайшлі ў Беларускім гуманітарным ліцэі за пяцігоддзе? Што пабудаваць, і згодна з якімі планамі, ідэямі здолелі настаўнікі і вучні? Пра ўсё гэта — размова з дырэктарам ліцэя Уладзімірам Георгіевічам КОЛАСАМ.***

**— У агульным шэрагу навучальных установ новага тыпу ваш ліцэй ці не «першая ластаўка»?**

— Да нас быў заснаваны ліцэй пры БДУ. Мы — другія. Але ж вы паглядзіце, якая істотная розніца. Ліцэй пры БДУ працуе на папаўненне універсітэта больш здольнымі, падрыхтаванымі абітурыентамі. Наш жа ліцэй утвораны пры Беларускім гуманітарным асветніцка-культурным цэнтры і ўваходзіць у яго састаў. Нашы выпускнікі разыходзяцца па ўсіх ВНУ. Пачынаючы ўвасабляць ідэю ліцэя, мы мелі на мэце адно — стварыць прэцэдэнт нацыянальнай адукацыі. Пра многае, лічу, гаворыць ужо сама назва навучальнай установы. Вядома ж, асноўная задача — даць самыя шырокія веды ў галіне гуманітарнай адукацыі. Толькі вось летась упершыню набралі групу з фізіка-матэматычным ухілам.

**— Па ранейшых публікацыях пра ліцэй, па размовах з людзьмі, што так ці інакш маюць дачыненне да ліцэя, складваецца ўражанне, што ў вашай навучальнай установе існуе асаблівая духоўная аура. Калі гэта так, то дзякуючы чаму вы яе стварaеце?**

— Прыемна чуць такія водгукі, такія ўражанні. Дзеля гэтага мы і стваралiся. Ідэя ліцэя сфарміравалася ў асяродку апантаных беларускасцю людзей. Намі не рухала ні распараджэнне міністэрства, ні загад якіх бы там ні было кіруючых органаў. Сабраліся разам аднадумцы, якія вырашылі парупіцца пра выхаванне, адукацыю эліты нацыянальнай інтэлігенцыі.

**— Пэўна ж, самае непасрэднае дачыненне да фарміравання духоўнасці, да стварэння магутнага асветніцкага энергетычнага поля маюць выкладчыкі ліцэя? Хто яны — звычайныя выпускнікі педагагічных ВНУ ці больш вопытныя педагогі?**

— Ужо з самага пачатку ў ліцэі сабраліся тыя, хто аднолькава глядзіць на родную мову, на стан маральнасці, духоўнасці ў грамадстве. Спачатку (зараз гэта ўспамінаецца як сон) думалі, што абмяжуемся толькі нядзельным характарам існавання ўстановы, нечым накшталт гуртка. Дзеці, маўляў, будуць атрымліваць паглыбленыя веды па шэрагу дысцыплін, а таксама праслухаюць курсы па прадметах, што знаходзяцца па-за межамі школьнай праграмы. Калі ж было прапанавана стварыць пастаянную навучальную ўстанову, то людзі, якія прыйшлі напачатку, засталіся.

**— А калі гаварыць пра асобы, то хто працуе ў ліцэі з шэрага вядомых вучоных?**

— Пра вядомасць мяркуйце самі. Я ж назаву толькі прозвішчы. Ля вытокаў стварэння ліцэя стаялі вядомыя гісторыкі, вядомыя грамадскія дзеячы Міхась Ткачоў, Алег Трусаў. Дагэтуль працуюць у нас кандыдат мастацтвазнаўства, адзін з буйнейшых тэатральных крытыкаў Беларусі Вячаслаў Ракіцкі, гісторык Уладзімір Емяльянчык, знакаміты перакладчык, даследчык замежнай літаратуры Лявон Баршчэўскі, гісторык старажытнай беларускай музыкі Вольга Дадзіёмава, літаратуразнаўца Пятро Васючэнка. Усе яны — кандыдаты навук, людзі, чый аўтарытэт у той ці іншай сферы заняткаў даволі высокі. А яшчэ ж працуюць у нас Анатоль Сідарэвіч, Вінцук Вячорка... Імёны гавораць самі за сябе. Іх пералік можна было б доўжыць.

Увогуле, дбаючы пра развіццё асобы ліцэіста, мы шмат увагі звяртаем на асяроддзе, якое фарміруецца, існуе вакол ліцэя. Нашы вучні мелі магчымасць сустрэцца са славутымі дзеячамі мастацтва, культуры. Часам сустрэча з той альбо іншай асобай значыць у жыцці шмат болей, пагадзіцеся, чым дзесятак праслуханых лекцый. Свае дыялогі пра жыццё, літаратуру, пра народ вялі з вучнямі Васіль Быкаў, Рыгор Барадулін, Янка Брыль.

**— Прызнацца, спакваля ў мяне складваецца ўражанне, што ў ліцэі не толькі асаблівыя, цікавыя настаўнікі, але і адметныя вучні. Іншымі яны проста не могуць быць.**

— Якімі ліцэісты выходзяць з нашых сцен, сведчыць хаця б тое, што, напрыклад, летась усе 100 працэнтаў выпускнікоў паступілі ў ВНУ. І, між іншым, многія абралі сабе няпростыя спецыяльнасці — міжнародныя адносіны, міжнароднае права, журналістыку. Конкурс для паступлення менавіта на іх, як вядома, даволі высокі. Дарэчы, спрыяльнай аказалася для выпускнікоў ліцэя леташняя сістэма кантролю за экзаменамі ў ВНУ. Перамагла аб'ектыўнасць, былі пазбегнуты ўсялякія ненармальныя акалічнасці, калі здольныя абітурыенты з высокімі ведамі не вытрымлівалі «конкурсу бацькоў».

Увогуле, мы ганарымся сваімі ліцэістамі. Многія з вучняў пішуць вершы. А рэфераты, якія яны рыхтуюць, у многіх выпадках вартыя годнасці навуковай працы. У ліцэі прайшоў шэраг навуковых канферэнцый. Водгукі аб сваіх выпускніках мы атрымліваем нават з-за мяжы, бо і там вучацца нашы колішнія ліцэісты. Працаваць з такімі дзецьмі — вялікае задавальненне, але і вялікая адказнасць.

**— Кожная школа (няхай сабе і завецца яна гімназіяй, ліцэем альбо інстытутам ці тэхнікумам) — свайго роду шлях, дарога, калі можна так сказаць. Наколькі цяжкая і пакручастая яна для вучняў ліцэя?**

— Бывае, што прыходзяць дзеці падрыхтаваныя, здольныя, але самі ж з самага пачатку выбудоўваюць нейкі комплекс. У сваёй школе яны былі найлепшымі, лідэрамі. А тут як быццам усе такія. Часам не атрымліваецца ў дзяцей выявіць сябе пановаму. І мы вельмі баімся, калі паводзіны вучня дыктуюць законы школы, дзе ён вучыўся раней.

Бяда ранейшай школы (зрэшты, і сённяшняй таксама) — нівеліроўка, татальны падыход, татальная праграма. Імкнучыся ахапіць усё, не вельмі спяшаліся, увогуле не спрабавалі разгледзець здольнасці дзіцяці. Задумайцеся, што рабілася ў сярэдняй школе. Гуманітарнай сферы адводзілася абслугоўванне КПСС, яе задач. Мы ж стараемся разгледзець у дзіцяці адоранага чалавека, зрабіць яго позірк на свет захапляючым, вучым здзіўляцца багаццям роднай зямлі, багаццям Айчыны. Не думайце, што ў нас усё ідэальна. Часам рукі апускаюцца. Шкадуем, калі хтосьці не здолеў дайсці да апошняга курса. Але ж і сябе падманваць не можам.

**— Сённяшняе жыццё не можа быць бязвоблачным ні для кога. Якія хмары над ліцэем?**

— Пра матэрыяльныя цяжкасці і гаварыць няма чаго. Яны зараз ва ўсіх. Заробак атрымлівалі ўжо колькі разоў з вялікім спазненнем. Горка, што не маем фінансавання на навучальныя патрэбы, на рамонт. Але ж не мы адны такія. Прасіць выключэння мы наўрад ці будзем. Хаця сёння Беларускі гуманітарны ліцэй — ці не адзіная навучальная ўстанова, дзе ўвесь працэс ідзе на роднай беларускай мове.

Праблема з праблем тое, што мы — адзіныя. Хацелася б, каб сам ліцэй, сама яго форма займелі лагічнае развіццё.

**Гутарыў Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.**

# З БЕЛАРУССЮ ПАЗНАЁМІЦЦА ЎВЕСЬ СВЕТ

Міжнародная асацыяцыя беларусістаў і Нацыянальны навукова-асветны цэнтр імя Ф. Скарыны выдалі нулявы нумар інфармацыйна-аналітычнага бюлетэня «Кантакты і дыялогі».

Мэта бюлетэня -- інфармаваць аб грамадска-культурным узаемадзеянні Беларусі з іншымі краінамі і народамі. У нашай рэспубліцы няма аналагаў такога спецыялізаванага выдання для дыпламатаў, дзеячаў навукі і культуры, для суайчыннікаў і прадстаўнікоў замежных краін. Менавіта таму гэтае выданне будзе ў двух варыянтах -- на беларускай мове і на англійскай.

**Жанна КАТЛЯРОВА.**




## Яўген Сямёнавіч БУСЕЛ

### Заслужаны дзеяч мастацтваў Рэспублікі Беларусь

● **Крыху біяграфічных даведак**

— Нарадзіўся ў лютым 1936 года ў вёсцы Міхайлаўка Светлагорскага раёна. Там застала вайна. Пасля вызвалення — Рэчыцкі дзіцячы дом, дзе пачаў маляваць. Вучыўся на гістарычным факультэце БДУ, а потым у Маскоўскім паліграфічным інстытуце.

● **Калі пачалі друкавацца?**

— Пачатак сур'ёзнага супрацоўніцтва можна аднесці да 1964 года. Часопіс «Вожык». Хаця асобныя публікацыі ў друку былі і раней.

● **Чым вас прываблівае карыкатура?**

— Лічу, што гэта сродак барацьбы супраць бюракратаў, падхалімаў, хабарнікаў, зладзеяў і іншых адмоўных тыпаў, якія псуюць наша жыццё.

● **Які састаў вашай сям'і? Ці ёсць у дзяцей схільнасці да мастацтва?**

— Састаў тыповы. Чатыры чалавекі. Сын пасля заканчэння Акадэміі мастацтваў працуе мастаком. Дачка вучыцца ва універсітэце культуры.

● **Вашы захапленні?**

— Галоўнае захапленне — выяўленчае мастацтва. Прываблiваюць розныя жанры — графіка, жывапіс. Люблю замалёўкі з натуры. Адным з лепшых відаў адпачынку лічу грыбныя паходы. Прыгажосць прыроды пакідае ў душы ні з чым не параўнальнае ўражанне.

● **Што пажадана напаткаць у новым годзе?**

— Ад усёй душы жадаю стабільнасці і дабрабыту роднай Беларусі!

**Гутарыў Леанід РАЗЛАДАЎ.**



Як гэта ў сына слыху няма? Пачуў жа, што ў цябе знаёмыя ў кансерваторыі.












— Што з ёю?
— Першы раз французскія духі панюхала.



— Дык ты мяне разлюбіў?
— Поўныя — не мой густ.




## КРЫЖАВАНКА-ПЕРАКЛАД



**Перакладзіце на беларускую мову наступныя словы:**

**Па гарызанталях:** 4. Путаница. 6. Рабовладелец. 9. Лазейка. 10. Иуда. 11. Толпа. 15. Селезень. 16. Одышка. 17. Взятка. 20. Поцелуй. 21. Спасение. 23. Изделие. 24. Трясогузка (белая). 25. Жернова. 28. Клещи. 29. Крыша. 30. Просчёт. 33. Телевидение. 34. Терпентин.

**Па вертыкалях:** 1. Выражение. 2. Исследователь. 3. Костер (в ботанике). 4. Шут. 5. Силач. 7. Желательность. 8. Новостройка. 9. Прогар. 12. Предатель. 13. Приход. 14. Шкварка. 18. Уныние. 19. Одурь. 22. Зачинщик. 26. Крыжовник. 27. Гроздь. 31. Дебри. 32. Резон.

**Склаў Уладзімір АБАБУРКА.**

*в. Морач, Клецкі раён.*

## ПЯЦЬ ПЫТАННЯЎ ЭРУДЫТАМ

Назавіце адлюстраваныя тут: а) птушку, б) марскую жывёліну, в) умоўны знак, г) дэталь лямпы, пазначаную пытальнікам, а таксама д) вынаходніка машыны.




## АДКАЗЫ І РАШЭННІ

**КРЫЖАВАНКА (6 студзеня).** ***Па гарызанталях і вертыкалях:*** 1. Маскарад. 2. Шар. 3. Факір. 4. Маска. 5. Расклад. 6. Колер. 7. Візір. 8. Ігрэк. 9. Алюр. 10. Абза. 11. Анекдот. 12. Ода. 13. Адзнака. 14. Антраша. 15. Шчадрэц. 16. Эстрада. 17. Самалёт. 18. Закаўраш. 19. Амазонка. 20. Даміно. 21. «Прымакі». 22. Каляды. 23. Аснова. 24. Какава. 25. Рэжысёр. 26. Ікра. 27. Трэк. 28. Загс. 29. Егер. 30. Накцюрн. 31. Бал. 32. Карагод. 33. Эквілібрыст.

**Крыптаграма (6 студзеня).** Ключавыя словы ў ёй: Вердзі, баян, Сымон, Вялюгін, Парыж. Зашыфраванае ў крыптаграме віншаванне: «З Новым годам, любая Радзіма, з Новым годам, паважаныя сябры!»



***Ганна Андрэеўна і Мікалай Рыгоравіч АСІНСКІЯ***

*з Астрашыцкага Гарадка святкуюць сёння залатое веселле. Хай не змаўкае ў гэты вечар сярэбраны звон фужэраў з шампанскім, забудуцца ўсе беды, а ўспамініца ўсё самае светлае, і вальс «маладых» будзе такім жа чароўным, як і 50 гадоў назад! Здароўя і шчасця Вам, дарагія цёця і дзядзя.*

**Сям'я Вячэрскіх.**

## ТЭЛЕБАЧАННЕ, 13 студзеня

**Беларускае тэлебачанне**

**8.00** Навіны. **8.15** Урокі Наталлі Наважылавай. **8.45** «Сугучнасць». Перадача з Брэста. **9.05** Здароўе. **9.30** «Ералаш». Гумарыстычны часопіс. **9.50** Тэлебом. Шоу-конкурс юных выканаўцаў. **10.30** «Свет прыроды і захапленняў». **11.20** Еўрапейская дваццатка. Музычная праграма MTV. **12.05** Бон тон. **12.35** Парамо́жца. **12.55** Кампазітары Беларусі. У. Алоўнікаў. «...І зноў былое ажыло...» **13.30** Гульня ў лялькі. **13.45** Шматгалоссе. **14.15** Вялікая прагулка. Навагодняя перадача. **14.35** Першынство Беларусі. Каратэдо. Кіакушынкай. **14.55** Радавод. Новы год у Салігорскім раёне. **15.25** КВЗ. Адкрыты чэмпіянат Беларусі. **16.25** Зорная ростань. Тэлевізійны конкурс маладых артыстаў эстрады. Брэсцка-Магілёўскі тур. **17.05**. «Іронія лёсу, ці З лёгкай парай». Маст. фільм. 1-я серыя. **18.10** Галерэя. Матэматык Барыс Камракоў. Аўтарская праграма Таццяны Ягоравай. **18.45** «Іронія лёсу, ці З лёгкай парай». 2-я серыя. **20.05** Банка коміксаў. **20.40** Калыханка. **21.00** Навіны. **21.45** «Фамільныя каштоўнасці». Маст. фільм. **23.20** Сталіца. Урачыстая цырымонія ўручэння прэмій года ў галіне культуры і спорту «Калядныя сустрэчы». **1.20** «Калядны вечар у аперэце». Святочная музычная праграма.

**ГРТ**

**6.45, 8.10** Тэлеканал «Пад'ём!» **7.45** Слова пастыра. Мітрапаліт Кірыл. **8.00, 14.00, 16.50, 22.35** Навіны. **9.30** «Не зявай!» **10.00** Ранішняя пошта. **10.35** Смак. **10.50** Жывапіс: вялікія імёны — Шардэн. Серыял. **11.20** Бамонд. **11.40** Навагодняя ёлка ў цырку на Цвятным бульвары. Перадача 3-я. **12.05** «Дажывём да панядзелка». Маст. фільм. **14.20** У свеце жывёл. **14.55** «Акно ў Еўропу». Вядучы — Д. Кісялёў. **15.30** Мультфеерверк. «Пагоншчыкі дыназаўраў». **15.55** «Шчаслівы выпадак». **17.10** Навагодняя ноч на Першым канале. **19.45** «Спакойнай ночы, малышы!» **20.00** Час. **20.45** «Дэтэктыўнае агенцтва «Месяцавае святло». **21.45** «Брэйн-рынг». **22.45** Ралі Парыж — Гранада — Дакар. **22.55** І. Мантан і К. Дзенеў у камедыі «Дзікар».

**Канал «Расія»**

**7.00, 13.00, 19.00, 22.00** Весткі. **7.25** Зоркі гавораць. **7.30** «Ваўкулакія, ці Загадка доктара Нікадзіма». Тэлесерыял. **7.45** Этыкетка. **7.55** Агні навагодняй ёлкі ў Крамлі. **8.55** Кліп-антракт. **9.00** Твае магчымасці, чалавек. **9.30** Вялікі хакей. **10.10** Як жыць будзем? **10.55, 22.30** Служба 299-00-00. **11.10** «Дазнанне пілота Піркса». Маст. фільм. **12.50** Сігнальны экземпляр. **13.20** Дэ факта. **13.35** «Эмілі». Маст. фільм (Канада). 1-я серыя. **14.30** Мульці-пульці. «Калядная фантазія». **14.45** Караоке па-руску. **15.05** Футбол без граніц. **15.50** Імперыя гульняў. **16.40** Міс Расія. **17.35** Стары новы год у кампаніі з «Аншлагам». **19.25** «Шырлі-мырлі». Маст. фільм. **22.45** Рака часу. **22.50** Аўтаімгненне. **22.55** Высокая мода ў Маскве. **0.05** У Калядную ноч. Святочная праграма.

**НТБ**

**17.00** «Дыназаўрык па імені Дзінк». 2-я серыя. **17.30** «Дог-шоу. Я і мой сабака». **18.00, 21.00** «Сёння». **18.35** «Вернісаж Іллі Рэзніка». **19.05** «Круты Уокер: правасуддзе па-тэхаску». 2-я серыя. **20.00** Надоечы. **20.45** Лялькі. **21.35** «Навагодняя ёлка НТБ». **23.45** Трэцяе вока. **0.40** Начны канал. «Плейбой».

**Санкт-Пецярбург**

**10.45** Дзень нараджэння. **10.50** «...І ўсё былое». Праграма для аматараў гісторыі. **11.30** Ток-шоу «Наўздагад». Валерый Сюткін. **12.00** Дом кіно. Зоркі кіно і эстрады. **13.30** Цэнтр міжрэгіянальных праграм. Відэаканал. **15.00** Тэатральная правінцыя. **15.30, 18.30, 21.00** Інфарм ТБ. **15.40** Мы і банк. **16.25** Зебра. **17.10** Тэлеканал «Не хочаш — не глядзі». **18.10** Вялікі фестываль. **18.50** «Дзень добры, дзядуля Мароз». Музычна-забаўляльнае шоу. **20.25** «З грымам і без. Ігар Наджыеў». **21.20** «Нелюбоў».Меладрама Валерыя Рубінчыка. **22.50** «Новы год-96. Ваша здароўе». **0.50** «Граф Люксембург» Аперэта Ф. Легара.



ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь, Кабінет Міністраў Рэспублікі Беларусь, калектыў рэдакцыі газеты «Звязда».

Галоўны рэдактар У. НАРКЕВІЧ.

Рэдакцыйная калегія: У. АНДРЫЕВІЧ (намеснік галоўнага рэдактара), І. БАРАНОЎСКІ, У. ГОЙТАН, В. ЖДАНКО, Л. ЛАХМАНЕНКА, М. МІХАЕВІЧ (першы намеснік галоўнага рэдактара), А. МЯСНІКОЎ, Л. РЫЖАНКОВА (намеснік галоўнага рэдактара), С. ШАЎЦОЎ.

Рэгістрацыйны нумар 1.

*НАШ АДРАС: 220013, гор. Мінск, вуліца Б. Хмяльніцкага, 10-а, рэдакцыя газеты «Звязда». ТЭЛЕФОНЫ: прыёмнай — 68-29-19; намеснікаў галоўнага рэдактара — 68-28-57, 68-29-16, 32-35-05; аддзелаў: інфармацыйна-аналітычнага — 68-28-14, 68-29-68, эканомікі — 68-28-54, 68-29-68, палітыкі — 68-27-57, 68-28-64, культуры — 68-29-42, 68-28-27, сацыяльных праблем — 68-28-69, пісьмаў — 68-27-47, маралі і права — 68-28-51, міжнацыянальных адносінаў — 68-27-40, 68-28-69, журналісцкіх расследаванняў — 68-28-38, 68-28-72, беларускай дыяспары — 68-28-27, знешнеэканамічнай дзейнасці — 68-29-44; аглядальнікаў па праблемах: навукі і адукацыі — 68-28-31, экалогіі і ліквідацыі вынікаў Чарнобыля — 68-28-36; уласных карэспандэнтаў: у Брэсце — 33-640, Гродне — 33-25-29, Гомелі — 53-13-92, Баранавічах — 5-68-24, Паставах — 22-400; бухгалтэрыі — 32-22-03; даведкі па рэкламе і аб'явах — 68-28-71. ФАКС: 32-04-52, 68-28-77.*



Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку». Мінск, праспект Ф. Скарыны, 79.
Тыраж 113326. Індэкс 63850.
Зак. № 169.
Выходзіць 250 разоў на год.
Нумар падпісаны ў 20.15.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12